Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

# СЛОЎНІК РЭГІЯНАЛЬНАЙ ЛЕКСІКІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Пад рэдакцыяй М.А. Даніловіча, П.У. Сцяцко

Гродна 1999

УДК 808.26 - 318(476.6)
ББК 81.2 Беи - 4
С 48

Аўтары: А.І.Багдзевіч (Воранаўскі раён);
І.І.Бубновіч (Карэліцкі раён);
С.А. Богуш (Навагрудскі раён);
І.Р. Бурлыка (Навагрудскі раён);
В.Л. Варановіч (Бераставіцкі раён);
М.А. Даніловіч (Гродзенскі, Шчучынскі раёны);
В.М. Ламака (Дзятлаўскі, Слонімскі раёны);
П.Л. Навіцкі ( Ашмянскі раён);
Н.К. Памецька (Астравецкі, Смаргонскі раёны);
М.С. Патрэба (Свіслацкі раён);
Г.А. Якубовіч (Свіслацкі, Іўеўскі раёны);
Ж.С. Сіпліценя (Лідскі раён);
П.У. Сцяцко (Зэльвенскі раён);
С.Г. Сячэйка (Ваўкавыскі раён);
Т.А. Якубовіч (Мастоўскі раён).

Навуковыя рэдактары: М.А.Даніловіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт
П.У.Сцяцко, доктар філалагічных навук, прафесар

Рэцэнзенты: кандыдат філалагічных навук, дацэнт П.А.Міхайлаў
кандыдат філалагічных навук, дацэнт Т.І.Тамашэвіч

С 48 **Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны**/ Пад рэд. М.А. Даніловіча, П.У. Сцяцко. — Гродна: ГрДУ, 1999. — 152 с.

ISBN 985-417-114-0

У слоўніку змяшчаецца рэгіянальная лексіка, якая не знайшла свайго адлюстравання ў раней выдадзеных дыялектных слоўніках і матэрыялах да іх па гродзенскім рэгіёне.

Слоўнік можа быць выкарыстаны на факультатыўных занятках па беларускай мове у сярэдняй школе, у ліцэях, гімназіях, каледжах.

УДК 808.26 - 318(476.6)
ББК 81.2 Беи - 4

ISBN 985-417-114-0 © Калектыў аўтараў, 1999

# Уступ

Слоўнікавае спарадкаванне рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны ўжо мае сталыя традыцыі. За апошнія трыццаць гадоў сабрана шмат мясцовых слоў, якія сталі асновай некалькіх дыялектных слоўнікаў. Лексіка Зэльвеншчыны адлюстравана ў працах П.Сцяцко «Дыялектны слоўнік» (1970), «Народная лексіка» (1970). «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» (1972) і «Слоўнік Гродзенскай вобласці» (1983) Т.Ф.Сцяшковіч ахопліваюць лексіку з розных кутоў Гродзеншчыны. Слоўнік А.П.Цыхуна «Скарбы народнай мовы» (1993) прысвечаны гаворкам Гродзенскага раёна. Асобнымі падборкамі мясцовая лексіка пададзена ў лексікаграфічных зборніках «З народнага слоўніка» (1975), «Народнае слова» (1976), «Народная лексіка» (1977), «Жывое слова» (1978), «Народная словатворчасць» (1979), «Жывое народнае слова» (1992). Значная частка абласной лексікі ўвайшла ў 5-томавы «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (1979—1986).

«Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны» – чарговы словазбор, які істотна дапаўняе папярэднія. Матэрыялы да яго назапашваліся з 1983 па 1998 г. выкладчыкамі і студэнтамі ГрДУ пераважна ў час дыялекталагічных экспедыцыяў і практык у розных раёнах Гродзенскай вобласці.

Спецыфіка слоўніка ў тым, што ён уключае пазалітаратурную лексіку Гродзеншчыны, якая не значыцца ў вышэйназваных лексікаграфічных крыніцах або мае разыходжанні ў форме ці значэнні. Інакш, гэта арыгінальны слоўнік, бо не паўтарае таго, што было зафіксавана ранейшымі працамі. Пры яго падрыхтоўцы давялося шматлікія словы з картатэкі адсеяць і пакінуць толькі адметнае.

У слоўнік трапілі адзінкі разнастайнай семантыкі, сярод якіх значная колькасць экспрэсіваў, што найперш выконваюць характарыстычную, а не намінатыўную функцыю, нямала этнаграфізмаў, семантычных дыялектызмаў, а таксама пазычанняў (пераважна паланізмаў, балтызмаў, германізмаў), засвоеных лексічнай сістэмай гаворак.

Аб'ём слоўніка – 2020 рэеестравых адзінак. Будова слоўнікавага артыкула традыцыйная: 1) загалоўкавае слова; 2) граматычныя і стылістычныя паметы; 3) тлумачэнне значэння; 4) ілюстрацыйная частка; 5) пашпартызацыя.

Каб унікнуць нязручнасцяў алфавітнага размяшчэння, у загалоўкавым слове асіміляцыя зычных не падаецца. Напісанне галосных у бальшыні выпадкаў адпавядае вымаўленню. Ілюстрацыйная частка складаецца, як правіла, з аднаго сказа, запісанага спрошчанай транскрыпцыяй.

Аўтары слоўніка – навукоўцы кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства, а таксама супрацоўнікі лабараторыі «Вывучэнне рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны», якая дзейнічае пры кафедры, -- распрацавалі слоўнікавыя артыкулы па пэўных раёнах: А.І.Багдзевіч (Воранаўскі раён), І.І.Бубновіч (Карэліцкі), С.А.Богуш, І.Р.Бурлыка (Навагрудскі), В.Л.Варановіч (Бераставіцкі), М.А.Даніловіч (Гродзенскі, Шчучынскі), В.М.Ламака (Дзятлаўскі, Слонімскі), П.Л.Навіцкі (Ашмянскі), Н.К.Памецька (Астравецкі, Смаргонскі), М.С.Патрэба, Г.А.Якубовіч (Свіслацкі), Ж.С.Сіпліvenя (Лідскі), П.У.Сцяцко (Зэльвенскі), С.Г.Сячэйка (Ваўкавыскі), Г.А.Якубовіч (Іўеўскі), Т.А.Якубовіч (Мастоўскі) .

Гэты слоўнік – адзін з этапаў выканання кафедральнай навуковай тэмы «Вывучэнне лексікі і словаўтварэння Гродзеншчыны». Плануюцца таксама слоўнікі мікратапонімаў і антрапонімаў. На апошніх старонках даецца спробны фрагмент аднаго з іх – артыкул П.Сцяцко «Прозвішчы жыхароў Зэльвеншчыны».

«Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны» мае не толькі навуковую каштоўнасць, ён будзе выкарыстоўвацца як навучальны дапаможнік пры засваенні лінгвістычных курсаў (дыялекталогія, лексікалогія ды інш.) і пры напісанні курсавых і дыпломных працаў.

## Спіс скарачэнняў

абразл. – абразлівае
асудж. – асуджальнае
адабр. – адабральнае
бат. – батанічнае
безас. – безасабовы назоўнік
выкл. – выклічнік
груб. – грубае
гумар. – гумарыстычнае
дзеепрым. – дзеепрыметнік
дзіц. – дзіцячае
жарт. – жартаўлівае
застар. – застарэлае
зб. – зборны
здзекл. – здзеклівае
зласл. – зласлівае
знач. – значэнне
зневаж. – зневажальнае
зніж. – зніжальнае
іран. – іранічнае
крав. – кравецкае
кулін. – кулінарнае
ласк. – ласкальнае
лаянк. – лаянкавае
неадабр. – неадабральнае
непахв. – непахвальнае
пабоч. – пабочнае слова
пагард. – пагардлівае
памянш. – памяншальнае
перан. – пераноснае
пяшч. – пяшчотнае
рэдк. – рэдкае
спагад. – спагадлівае
ткац. – ткацкае
узмац. – узмацняльнае
цясл. – цяслярскае
экспр. – экспрэсіўнае

Астр. – Астравецкі раён
Ашм. – Ашмянскі
Бераст. – Бераставіцкі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Воран. – Воранаўскі раён
Гродз. – Гродзенскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іўеў. – Іўеўскі
Карэл. – Карэліцкі
Маст. – Мастоўскі
Лід. – Лідскі
Навагр. – Навагрудскі
Свісл. – Свіслацкі
Слонім. – Слонімскі
Смарг. – Смаргонскі
Шчуч. – Шчучынскі

# А

*АБАПАЛАК* м. Другое абпальванне глінянага посуду з паліваю. *А пасьля бацько сам навучыўсё рабіць абапалак пасуды.* Гарадзечна Навагр.

*АБАРШТЫНАК* м. Чаравік. *Абуй абаршатынкі: восянь, у туфлях халадно.* Лойкі Гродз.

*АБВАРАНІК* м. Бульба, звараная ў лупінах. *Мама, звары на абед абваранікаў, і будзем есьці с кіслым малаком.* Боркі Дзятл.

*АБГАЦІЦЬ* зак. Пацяпліць. *Хутко будзя зіма, трэба хлява абгаціць.* Галынка Ваўк.

*АБДЗІРАНТУС м.* Чалавек, які хутка рве адзежу. *Дзе ты там наўмеясься абдзірантусу гэтаму адзежы тае, ляціць як на арыштанту ўсё.* Гезгалы Дзятл.

*АБДЗІРАНСТВО* н. Вымаганне непамерна высокай платы за што-небудзь, абдзіралаўка. *Гэто ш абдзіранство так дораго брацьза гнілаватыя яблыкі, хоць і зімою!* Грабава Зэльв.

*АБДЗІРТУС* м. Зневаж. Абарванец. *Адзенься лепяй, а то гаварыць с табой, с такім абдзірантусам, ніхто ні будзя.* Ляпёшкі Іўеў.

*АБЖАЦЦА зак.* Зжаць большую частку; у асноўным справіцца з жнівом. *Цяперака натто часу німа: жніво! Як абажнемсё, прыду памагу табе палоць.* Старое Сяло Зэльв.

*АБІГОЎВАЦЬ* незак. Малаціць, абіваць. *Хопіць сядзець, пара лён абігоўваць.* Рэпля Ваўк.

*АБЛАМОХА* м. і ж. Непахв. Няўмека. *Абламоха гэта нігды па-люцку ні зробіць, усё абы з рук.* Стральцы Маст.

*АБЛАХАЗАР* м. Груб. Бесталковы чалавек. *Але ш ты й аблахазар, нічога да толку ні зробіш.* Чуркі Ашм.

*АБЛЕЦІЦЦА* зак. Крыху падагрэцца. *Пастаўця ваду на сонцо, няхай хоць трохі аблеціцца, а то натто ш ужо халонная.* Налібакі Навагр.

*АБЛІГАВАЦЬ* незак. Выконваць чые-н. жаданні. *Паглядзіш на Васю, дык і сьмех нейкі бярэ. Аблігуя Ганну з усіх бакоў, робіць усё, што ёй захочыцца.* Ашмяны.

*АБЛУПЕНІК.* м. Масляк. *У тум годзе от шмат у ельніку было аблупенікаў пасля дажджу, як гароху.* Купіск Навагр.

*АБЛЭХАЧ* м. Пагард. Неакуратны чалавек. *Ходзіш брудны, як сьвіня, аблэхач ты.* Харашкі Дзятл.

*АБМАТЛЯВАЦЬ* зак. Налапіць (штаны), даўшы спадыспаду латку. *Яшчэ цэлыя ўсе ганавіцы, адно ззаду дзірка. Каб абматляваў – ішчэ насіў бы, каравэ пасучы.* Грабава Зэльв.

*АБМЫЛІ'ЦЬ* зак. Абмінуць. *Пайду прас поля, каб абмыліць лес.* Дабраволя Свісл.

*АБНО'СІЦЬ* незак. Абгаворваць. *Ну й абносяць міне бабы нашыя, на чом сьвет стаіць.* Руда Яварская Дзятл.

*АБРО'СЛІК* м. Экспр. Нястрыжаны, арбослы. *Ці то дзеўка, ці то хлопяц? Гэто ш Міхалко! От абросьлік, ні пазнаць, так зарос косамі.* Грабава Зэльв.

АБСІ'*ВЕРАЦЬ* незак. Абсохнуць. *Вымакла да ніткі на пашы, але быў вецярок і трохі апсіверала.* Краснае Карэл.

*АБРЫ'ЦЬ зак.* Абгледзець, абшукаць усюды. *Сяць, пасядзі трошкі, німа табе спакою, скрось ты абрыяш.* Мыслова Слонім.

*АБСАЙМІКАВА'ЦЬ* зак. Абдумаць. *Трэ перш апсаймікаваць, як будзямо рабіць, а тады ўжэ пачынаць строіць.* Пачарнейкі Свісл.

*АБСТО'ЯЦЬ* зак. Абараніць, заступіцца. *Абстоялі хлопца, а так пабілі п гэтыя расколы; Добры вучыцяль сваіх вучанікоў апстоіць.* Дзярэчын Зэльв.

*АБХАДЗІ'ЦЦА, АБЫХОДЗІЦЦА* незак. Упраўляцца па гаспадарцы. *Дось пірапірындаваць. Пашлі апхадзіцца, а то сьвіні вароты на лычах павыносяць.* Косцевічы Астр. *Ужо час ісьці абыходзіцца.* Суботнікі Іўеў.

*АБХІНА'ЧКА* ж. Вялікая шарсцяная хустка з кутасамі. *Накінь апхіначку наверх, цяплей будзя.* Вугляны Смарг.

*АБХЛЮ'ПАЦЦА* зак. Апырскацца гразззю. *Учоры пасля дажджу йшоў, апхлюпаўся па калені. Змяёўцы Дзятл.*

*АБХО'ДЖВАЦЦА* незак. Упраўляцца па гаспадарцы. *Ні йдзі нікуды, зара пойдзям апхожвацца.* Студзенікі Свісл.

*АБШАЛЫ'ГА* м. і ж. Абразл. Злодзей. *Добрага чалавека зь яго ні выйдзя, вырасьце апшалыга, людзей будзя рабаваць.* Пагародна Воран.

*АБШЭ'РГАНЫ* дзеепрым. Абы-як, неахайна апрануты, абарваны. *Адзень што лепшо, а то ходзіш апшэрганы.* Кронькі Шчуч.

*АБШНЭ'ЙДАРЫЦЬ* зак. Абгледзець. *Гэты Мэйша апшнэйдарыць усе куточкі.* Петрашэвічы Слонім.

*АБЯЛЬЗІ'Н* м. Бензін. *Запальнічку маю, да абяльзіну ні наліў, ні запаліш.* Грабава Зэльв.

*АБЯНДЗЕ'ЖЫЦЬ* зак. Коратка пастрыгчы. *Ну, і нашто ты даў сібе так абіндзежыць?* Пачарнейкі Свісл.

*АВЕЧАНЯ'* н. Ласк. Авечка. *От я люблю цябе, авячаня ты маё! Я злаўлю табе тоё авячаня, пазабаўляясься зь йім.* Грабава Зэльв.

*АГА'ПА* ж. Прызба. *Мы бярэм лапату і ансыпаям хату пяском на зіму, агапу робім.* Гярбелевічы Дзятл.

*АГАРГАЛЕ'ЦЬ* зак. Памерці. *Хварэў ён доўго і агаргалеў перад вяліканням.* Шчорсы Навагр.

*АГАРО'ДЗІНА* ж. Агароднiна. *Ат такой засухі ўся агародзіна пазасыхала.* Таркачы Дзятл.

*АГІ'Р* м. Аер. *Трэба накапаць агіру й насушыць. Будзіш заварьаць і валасы паласкаць, паглядзіся, як пойдуць расьці.* Косцевічы Астр.

*АГНІ'ВА* н. Батарэйкі для ліхтарыка. *Гэто агніво ўжэ перагарэло, трэба ново купіць.* Старая Дубавая Гродз.

*АГО'РЫЦЦА: НІ АГОРЫЦЦА зак.* Не захацець, не палічыць патрэбным. *Я шыла-шыла, а ты ні агорылася забраць.* Пачарнейкі Свісл.

*АГРЫ'ЗА м. і ж. Непахв.* Той, хто груба адказвае на чыю-н. заўвагу. *Гэта Манька такая агрыза, лепяй ні руш яе.* Стральцы Маст.

*АДБА'НІЦЬ* зак. Збіць каго-н. *Нехта ўчоры Івана добро адбаніў.* Вілейшы Свісл. *Пачакай ты ў міне, вось выламаю дупца і адбаню добра.* Азярніца Слонім.

*АДБІЖМАВА'ЦЬ* зак. 1. Насварыцца. *Каторая гадзіна, а яе німа. І апхадзіцца трэба, і бульбы намыць. Вот ужо адбіжмую, як прыдзіць.* Косцевічы Астр. 2. Моцна пабіць. *Я ўчора свайго Сяргея так адбіжмавала, што надоўга запомніць.* Старая Рудня Смарг.

*АДБУБНІ'ЦЬ, АДБУ'БНІЦЬ* зак. Экспр. Адлупцаваць, набіць. *Як стаў заводзіцца, то так адбубнілі, што век помніцімя, як біцца.* Дзярэчын Зэльв. *Адбубнілі хлопца, бяз дай прычыны, за што за якоя?* Монькавічы Маст.

*АДБЯНДЗЕ'ЖЫЦЬ* зак. Адрэзаць, абстрыгчы. *Адбяндзежыў грыво, ціпер як лысы ходзіць.*Манчыцы Свісл.

*АДВА'РАНКІ, АДВАРО'НІКІ, АДВАРО'НКІ* мн. Бульба, звараная ў шалупінні. *Навару адваранкаў ды й годзі.* Стокі Свісл. *Навары адваронікаў, хай есць с селядцом.* Пачарнейкі Свісл. *Навару, бало, адваронкаў велькі чыгун – і з'ямо ўсей сям'ёй.* Сцяпанішкі Маст.

*АДВО'НА прысл.* Някрута, свабодна. *Прадзі кужаль адвона, а не крута.* Жукоўшчына Дзятл.

*АДГІБА́ЦЬ* зак. Адагнуць, выпрастаць (пра паверхню чаго-н.). *Так пагібаў, аткрываючы слоік, ты тоё вечко, што ніяк ні магу адгібаць, каб ішчэ рас закатаць слоік.* Грабава Зэльв.

*АДДЫХА́ННІК* м. Той, хто адпачывае, «аддыхае». *А ў той санаторыі гэдулькі аддыханьнікаў было, як у цэлым сяле людзей.* Старое Сяло Зэльв.

*АДЗІ́КВАЦЦА* незак. Груба адказваць, агрызацца. *Адзікваяцца яшчэ, вінаваты, дак маўчаў ба.* Лаўна Маст.

*АДЖЫМА́ЦЬ* незак. Выгаворваць, дакараць, дапякаць каму-н. *А божа ж мой, яна так ужэ яго аджымала, так аджымала, а ён маўчыць.* Сураж Іўеў.

*АДКАША́РЫЦЬ* зак. Адчысціць, адмыць. *Хоць трохо аткашарыць, а то і ні знаць.* Янавічы Ваўк.

*АДКУБРАВА́ЦЬ* зак. Адаткнуць, адкаркаваць. *І сіргучом заліта, цяшко аткубраваць гэту бутэльку.* Грабава Зэльв.

*АДО́ЎБІНЫ* мн. Рытуал, гасціна, звязаныя з свежанінай. *Прыхоцьця сёньня да нас на адоўбіны. Папробуім сьвежаніны.* Дайлідкі Астр.

*АДО́ХАЦЦА* зак. Супакоіцца. *Нешто яна хутко адохалася, а то ўжэ думалі на цэлы вечар завялася.* Ятвезь Ваўк.

*АДПАЛЯНДРА́ВАЦЬ* зак. Экспр. Адрэзаць. *Атпаляндруй кусок сала ды еш, чаго больш трэба.* Калантаі Ваўк.

*АДПА́СКА* ж. Чарга пасвіць кароў. *Сёня, Сцяпан, твая атпаска, ні вязе табе, дошч вун які лье. Руда Яварская Дзятл.*

*АДПІ́ЦЦА* зак. Стаць вільготным. *Здайся, сколька гэта сена ў сташку пастаяла, а глядзі, як атпілося, хоць перасушвай.* Косцевічы Астр.

*АДПРАВУ́НКІ* мн. Праводзіны ў армію. *На атправункі трэба будзя нову сукенку пашыць.* Ваўкавічы Навагр.

*АДПСЮ́РЫЦЬ* зак. Груб. Насварыцца, пабіць. *Хто гэта вас вучыў чужоя браць? Бацька, здайся, ні такі. Скажу яму, дык так атпсюрыць, што дзісятаму закажыцця.* Косцевічы Астр.

*АДРЫ́НАЎКА ж.* Адрына. *Няхай хлопяц зьбегае ў адрынаўку і прынясе граблі, а то мне німа часу.* Астравец.

*АДРЫ́НЬКА* ж. Адрына. *Сёлета ўдалы год на сена. І адрыньку налажылі поўнаю, і яшчэ тры стагі вялікія кала хлява паставілі.* Косцевічы Астр.

*АДТАТУ́РЫЦЬ* зак. Адтапырыць. *Вечне лупу аттатурыць і сядзіць як пані; Паглядзі ты на сябе! Кішані аттатуркшы, кашуля выяхала, а ты зьбіраіся так да людзей ісьці.* Косцевічы Астр.

*АДХЛЯ́ШЧЫЦЬ* зак. Асудж. Адчыніць (дзверы) насцеж. *На дварэ халадэча, а яны дзверы атхляшчаць і соваюцца сюды-туды, савэлкі гэтыя!* Грабава Зэльв.

*АЖЫМА́ЦЬ* незак. Мыць (адзенне). *Ішла праз мост, а там Ганьдзя порця ажымая, та пастаяла, пагаварыла зь ёй.* Старая Руда Гродз.

*АЗГРА́К* м. Непахв. Надаедлівы, нахабны чалавек. *Меншы сын яе зусім ніпадобны да старэйшага: той спакойны, паважны, а гэты чысто азграк некі.* Моцевічы Лід.

*АЗЫ́РАЦЬ* зак. Надакучыць. *Ты мне азыраў сёння, лепш адыдзі.* Суботнікі Іўеў.

*АКАЛЯ́ЦЬ* незак. Абыходзіць. *Праз лес ісьці было страшна, і прйшлося яго акаляць.* Вайкунічы Воран.

*АКАПАНІ́ЧВАЦЬ* незак. Асыпаць матычкай, акучваць. *Картопля перарастая, пайду акапанічваць.* Скрундзі Дзятл.

*АКАРДО́ВЫ* мн. Палачкі для вызначэння шырыні і глыбіні ямак пры пасадцы дрэва. *Далі акардовы, кап ямкі капаць пасадзіць дрэвы.* Масцішча Навагр.

*АКЛЯ́КНУЦЬ* зак. Моцна стаміцца, абнядужаць. *Ой, бабы, сусім я ўжэ аклякла на гэтых дзялках.* Залацеева Зэльв.

*АКО́ПАК* м. Бетонны слуп у плоце. *Ні бачыш, што плот зара ўвесь паваліцца, узяў ба ўбіў пару акопкаў дэй хоць трохо палатаў.* Вінькоўцы Лід.

*АКРЫВА́ЦЦА* незак. Апранацца. *Цяплей трэба акрывацца, то ні будзяш хварэць.* Суботнікі Іўеў.

*АКРЫНЯ́ЦЬ* зак. Акрыяць. *Можаш зайсьці, яна толькі што акрыняла пасьля хваробы.* Лойкі Гродз.

*АКУ́ТНІК* м. Карэнны зуб. *Сёні ў міне акутнік вырвалі.* Міжэвічы Слонім.

*АЛА́ДЧЫНКА* ж. Дзежка, у якой рашчыняюць цеста. *У сусеткі пазычыла алаччынку, бо няма дзе цеста рашчыніць.* Пагародна Воран.

*АЛТО́БУС* ж. Аўтобус. *Ды вайны алтобусы ў нашу вёску зусім ні хадзілі.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*АЛЯНЦЕ́Й* м. Кракавяк, які выконваецца у больш хуткім тэмпе. *А ну, дзяўке, ставайця ў крух, гайда алянцея скакаць.* Леснікі Лід.

*АЛЯ́РМ* м. Гвалт, шум. *Што вы тут ужо робіця? Такі алярм паднялі, што аш сьцены трасуцца. Уся вёска чуіць.* Косцевічы Астр.

*АМАРЫКА'НІН* м. Амерыканец. *Што зь міне, што я быў амарыканін, калі нідужы, уміраць буду ўжэ; У нашум сяле быў адзін амарыканін: жыў у Амэрыцы, потым дахаты прыехаў.* Грабава Зэльв.

*АМАСТА'КА* м. і ж. Зневаж. Гультай. *Чаго ты тут стаіш, як амастака які?* Коўкелі Іўеў.

*АМЕ'ЦЕЎКА* ж. Дробнае сена, сенная труха. *Амецеўку зьесць конь ці карова.* Масцішча Навагр.

*АНАГДА'Й* прысл. Аднойчы. *Анагдай сяджу я ў Маляўкавых, прадзём зь іхнай Вэрцяй воўну. Прылятаіць мой брат і кажыць: «Ідзі дахаты, да цябе сваты прыехалі».* Косцевічы Астр.

*АНАДО'У* прысл. Зусім нядаўна; учора. *Парасят егдзілі продаць у Скідзяль анадоу й папродалі.* Дубляны Маст.

*АНГЕ'РКА* ж. Жаночая куртка. *Чаму ты гэтай ангеркі ні носіш? Збракавала хіба?* Старая Дубавая Гродз.

*АНІГУГУ'* прысл. Нічога, зусім. *У нас сена аніґуґу німа, а вясна позьня гэты гот.* Хадзяўляны Дзятл.

*АНО'ЙДАЧЫ* прысл. Нядаўна; гэтымі днямі. *Зайшла анойдачы ў лаўку, а там, хоць танцуй, пуста.* Стральцы Маст.

*АНТА'ЛАК* м. Бочачка з вадой. *Анталак каля хаты стаіць.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*АНТАЛЯ'ЖЫКІ* мн. Аладкі, бліны з дранай бульбы. *Шукайця сабе што-коляк зьесьці, а на вячэру пасобіць каторы бульбы наабіраць, дэй анталяжыкаў сьпяку трошко.* Табала Лід.

*АНТРА'МАНТ* м. Чарніла. *У міне ўсе рукі ў антраманці.* Вішнеўка Бераст.

*АПА'ДКА* ж. Знічка. *Ой, цяпер ўжэ добра вечарам, неба чыстае. А ападкаў колькі – толькі лічы.* Баруны Ашм.

*АПАЛЁ'ВАНЫ* прым. Неахайны. *Сусетка стала апалёвана, бо дзеці апселі з усіх бакоў.* Лудзічы Дзятл.

*АПАНІ'ВА* ж. Патэльня. *На апаніву кавалак масла кіну, пару бульбін пакрышу і наемся з малаком.* Данілавічы Дзятл.

*АПАНЧА'* ж. Лямцавае пакрывала (некалькі такіх пакрывалаў ужываюцца як цюфяк). *Апанчу вазьмі, пойдзям у сат паляжымо.* Лішкі Бераст.

*АПІВУ'ДА* м. і ж. Экспр. *П'яніца. Сусет наш уцягнуўсё ў гарэлку і настаяшчым апівудаю стаў.* Харосіца Навагр.

*АПІДА'ЛЬНЯ* ж. Калодзеж, аснаваны на крыніцы. *Вада ўсюды прапала, прышлося да апідальні ісьці.* Борці Ашм.

*АПІРА'ЦЬ* незак. Рэгулярна мыць для каго-н. бялізну. *Улячка апірае й апшывае брата.* Пагароднa Воран.

*АПЛУ́ГВАЦЬ* незак. *Акучваць (бульбу ці іншыя сельскагаспадарчыя расліны). Бульбу трэба аплугваць, каб ні перарасла.* Сонічы Гродз.

*АПОЕ́К* м. Той, хто шмат выпівае, п'янствуе; п'яніца. *Наш Мішка такі апояк, што сьвет божы ні бачыў.* Забагонне Зэльв.

*АПУСКА́НКА* ж. Зацірка. *Мая баба варыла смашну апусканку.* Церахавічы Свісл. *Ці знаяця вы, што гэто апусканка? Муку перацерці з яйцом, апусціць у ваду, а лепяй у малако.* Жукоўшчына Дзятл.

*АПУЦАЛАВА́ТЫ* прым. Круглатвары, з абвіслымі шчокамі. *Апуцалаваты можа й с хваробы быць Ясь, бо ш калолі яго ў больніцы много.* Заполле Маст.

*АПУШЧЭ́НЕЦ* м. Асудж. Той, хто апусціўся, не глядзіць за сабою. *Які быў, такі й застаўся, пражыў век апушчэнцам.* Капцёўка Гродз.

*АПЭ́НЧА* м. і ж. Экспр. Няўклюда. *Ну і апэнча ты, усё з рук у цябе валіцца.* Пагародна Воран.

*АПЭ́НЧАЛА* м. і ж. Экспр. Няўдалы чалавек. *Паглядзі на сябе, апэнчала, змарнавала такую спадніцу!* Пераганцы Воран.

*АПЭ́ТРЫЦЬ* зак. Зніж. Абрэзаць, абстрыгчы. *Валасэ сьвае так апэтрыла, што ні пазнаць цяпер.* Лежневічы Іўеў.

*АРГАНІ́СЦІНА* ж. Арган. *Ой, кап ты чула, як ў касьцелі арганісьціна йграла – аш сэрца заняло.* Акмянеі Ашм.

*АРЫШТА́НЕЦ* м. Свавольнік. *У іх хлопяц такі арыштаняц, ні на кога ні зважая.* Чураі Дзятл. *Арыштаняц гэты адзежу парваў на сабе, а ўсё бегая, упыну яму німа!* Старое Сяло Зэльв.

*АСАБО́ВА* ж. Цягнік. *Па чыгунцы пайшла асабова.* Ятвезь Свісл.

*АСВЕ́Р* м. Студня. *У нашым асьверы натта смашна вада.* Юшкавічы Свісл.

*АСВО́ЛАК* м. Палена з тоўстым канцом. *Перабіў хлопцу нагу асволкам.* Нагорнікі Дзятл.

*АСЕ́ДЛАСЦЬ* ж. Сядзіба. *Уся аседласьць – дваццаць сотак займая.* Грабава Зэльв.

*АСКРО́БКІ* мн. Лупіны ад бульбы. *Аскропкі сьвіням зварыць трэба.* Вугляны Смарг.

*АСО́ТНІК* м. Месца, дзе некалі рос асот. *От добра картопля будзя ў гэты гот, асобянно за асотнікам.* Ваўкавічы Навагр.

*АСТРАКО́Л* м. Плот, зроблены з высокіх завостраных штыкецінаў-калоў. *Аля й зрабіў высокі астракол, што на надворку нічого ні відно.* Дзембрава Шчуч.

*АСТУ́ДА* ж. Халоднае паветра, холад. *Напусьцілі поўнаю хату астуды. Ні зачыняяцца дзьверы ад гэтай дзятвы.* Швейляны Астр.

*АСУР'Ё́ЗІЦЦА* зак. 1. Узяцца за розум, пасталець. *Калі ты ўжо асур'ёзісься? У дваццаць гадоў пара і галаву мець на плячах, а ні гарбус.* Кямелішкі Астр. 2. Раззлавацца, абурыцца, насупіцца. *Яму нешта як стрэліць у галаву, то ні поймiш, аткуль і што. Сядзелі, гаварылі, нечага сьмяяліся... І раптам як асур'ёзіўся наш і да Юзюка, чуць бяды ні нарабілі.* Косцевічы Астр.

*АСУСТЭ́НТ, АСЫСТЭ́НТ* м. Дружбант, шафер. -- *Ці файнага ш асустэнта мела на васэлі? -- Мець то мела, алі такога, што хай Бог бароніць – напіўся як сьвіня.* Косцевічы Астр. *Усе асыстэнты сабраліся кала маладога.* Кямелішкі Астр.

*АСУСТЭ́НТКА, АСЫСТЭ́НТКА* ж. Дружка, шаферка. *Натта ш быў упадабаўшы старшаю асустэнтку на васэлі. Ні адыходзіўся ні на мінуту.* Косцевічы Астр. *У нас за старшаю астыстэнтку маладая просіць сваю сятру, калі ёсь нізамужняя, альбо ўжо сваю лепшаю падрушку.* Страча Астр.

*АСЫСТЭ́НЦЫЯ* ж. Удзельнікі шлюбнага абраду. *Асыстэнцыі было аж дваццаць чалавек!* Даўгялы Воран.

*АТА́ПАМ* прысл. Разам, гуртам. *Гэту восянь мы картоплю атапам выкапалі.* Хадзяўляны Дзятл.

*АТО́ЖЫЛА* ж. Атожылак. *Мой чалавек прынёс ат Стася атожылу сліўкі-сікухі.* Ст. Гудагай Астр.

*АТХУ́КАЦЬ* зак. Выратаваць ад смерці, хваробы. *Ледзьвя атхукалі бацьку, калі бразнуўсё са стога вясною.* Ваўкавічы Навагр.

*АЎСЯ́НКА* ж. Гатунак грушы. Спее, калі жнуць авёс. Грабава Зэльв.

*АФТАВА́НЯ* н. Карункі з гафту. *Харошу просьціню сабе выткала. Каб яшчэ афтаваня прышыць, зусім добро было п.* Мастаўляны Лід.

*АФЭ́ЛАК* м. Жарт. Пусты, несур'ёзны чалавек. *І калі ўжо гэты афэлак за розум возьмецца.* Ятвезь Ваўк.

*АХВЯРАВА́ЦЬ* зак. Паабяцаць, дакляраваць. *Рас ахвяраваў, то махляваць ні будзя, ён сваё слова стрымая; Ахвяраваў, што прынясе тае хварбы на твае ніці.* Грабава Зэльв.

*АХМІСТРЫ́НЯ* ж. Экспр. Жанчына, якая мае пра сябе празмерна высокую думку. *Да яе ні падыйдзі, такая ўжо ахмістрыня. Ні знаіш чалавек, зь якога боку патступіцца. А сама – пасьледняя сьпіца ў калясе.* Косцевічы Астр.

*АЦУХО́ЛЯНЫ* дзеепрым. Запэцканы, зацёрты да бляску. *Ну й шмуля! У ацухоляным каптане ходзіць па вёсцы.* Палонка Свісл.

*АЦЯРО́БКІ* мн. Рэшткі пагрэбенага сена. *Дзякаваць богу, управіліся сь сенам заўранё. Падграбіця толька ацяропкі, а то куры раніцай па ўсім панадворы разьнясуць.* Косцевічы Астр.

*АЦЯЦЮ́РЫЦЦА* зак. Захацець спаць, засынаць. *Зусім ацяцюрыўся, сядзіць, носам клюець. Ішоў бы ўжо й спаў, чым сядзець перад цілівізарам.* Косцевічы Астр.

*АШМО́НАЦЬ* зак. Адшукаць. *Як я ні хавала цукеркі, малая ашмонала-такі.* Пачарнейкі Свісл. *Учора ў лес схадзіў, цэлы кошык грыбоў ашмонаў.* Гуменікі Слонім.

*АШЭ́РГАНЫ* прым. Абарваны. *От нігаджай гэты хлопяц! І ў людзі ашэрганы ходзіць, і ні брытко яму!* Грабава Зэльв.

## Б

*БА́БА-МУ́Р (МУ́Р-БА́БА)* ж. Вялікая, здаровая жанчына. *У яго жонка баба-мур, усю мушчынску работу сама робіць.* Пачарнейкі Свісл.

*БАБАРУ́ЗІК* н. Кавалак бульбіны. *Парэш бабарузікамі салёнікаў й пастаў у печ, хай пагрэюцца.* Баяры Свісл.

*БАГА́ЖНЯ* ж. Месца, дзе захоўваецца багаж. *Чамайдан здаў у багажню, а сам у горат хадзіў, паглядзеў гораду.* Грабава Зэльв.

*БАГАЦЕ́ННА* прысл. Багата, вельмі многа. *Ой, багаценна ж ягад я назьбірала.* Драчаны Свісл.

*БАДА́НЁ* н. Абследаванне. *Кажуць, на баданё да дактароў хвораю павязьлі. Што ўжэ яны там прызнаюць?* Зэльва.

*БАДЗЯ́НКА* ж. Прышч, гнайнік. *Якаясь бадзянка выскачыла ў міне на твары.* Баяры Свісл.

*БА́ЗА* ж. Магазін. *Што ў той базі дзісь купіш, мо хлеба тулькі.* Рагозніца Маст.

*БАЗАРЫ́НАК* м. Падарунак. *Мусіць, атрымала добры базарынак?* Міратычы Карэл.

*БАЗУ́РНЫ* прым. Вельмі актыўны, шумлівы (пра дзіця). *Хлопец йіхні такі базурны, крыўляецца, усюды лезе, шкоду робіць.* Пагароднa Воран.

*БАЙКАВА́ЦЬ незак.* Моцна крычаць. *І на каго гэта яна так байкуе? Аш тут чуваць! Вайкунцы Воран.*

*БАЛАЦЯ́НКА* ж. Дарога праз балота. *Па баках балацянкі расце трава высокая.* Чырвоны Бор Дзятл.

*БАЛБАНЭ́С* м. Белае віно. *Пасля работы ўчоры балбанэсу купілі.* Дварэц Дзятл.

*БАЛДА′* ж. Ніжняя ручка падоўжанай пілы. *Од жа жэўжыкі малыя, заперлі недзе балду, а тысабе як хочаш дровы пілуй.* Табала Лід.

*БАЛЁ′НІК* м. Слоік. *Прынясі с каморы пару балёнікаў чыстых.* Дзераўная Слонім.

*БАМБЭ′ЛАК* м. Тоўстае дзіця. *Унук наш добры бамбэлак, мо фунтаў дваццаць будзя.* Парэчча Слонім.

*БАМБЭ′РАСТ* м. Агрэст. *Ужэ бамбэраст есьць спелы.* Лішкі Бераст.

*БАМКА′Ч* м. Авадзень. *Бамкачэ як напалі на кароў, дык яны, халера, с поля паўцякалі.* Рыбакі Шчуч.

*БАРАБО′ЛКА* ж. Зневаж. Пляткарка. *Бараболка гэтая каго ні сустрэне, ўсім нешта шчыра расказуе.* Асіпаўцы Воран.

*БАРАБО′ХА* ж. Непахв. Тоўстая, трыбухатая. *Барабоха тая мо кіль зь дзьвесця зацягня.* Грабава Зэльв.

*БАРАНАВІ′ШЧА* м. Палоса ворыва, якую можа заняць барана. *Ты глядзі, каб баранавішчо было ні саўсем вускаё.* Гарадзечна Навагр.

*БАРАРО′* н. Самагон. *Нап'еццa гэтаго бараро і робіць абышто.* Студзенікі Свісл.

*БАРМАКЕ′* мн. Вілы, якімі грузяць буракі. *Вазьмі бармаке, а лапатаю шмат буракоў ні нагрузіш.* Уселюб Навагр.

*БАРО′ТКА* ж. Каза. *Выгані баротку зьбегай, яна ні столькі зьесьць, колькі патопчыць ўсе грады.* Баруны Ашм.

*БАРСУНЕ′Ц* м. Шнур, на які вешаюць бялізну. *Сёння добрая пагода, дык бяльё можаш на дварэ на барсунец павесіць.* Харосіца Навагр.

*БА′РЧА* ж. Ворчык. *Каб запрэгчы каня ў барану, трэбо зрабіць барчу.* Вярэйкі Ваўк.

*БАРЫ′ЎНІК* м. Неадабр. Неслух. *Ну й барыўнік ваш хлопяц. Увесь у бацьку ўдаўся. Ніхто яму ні ўкас.* Астравец.

*БАСЯКІ′* мн. Басаножкі. *Маці Аніна такія файныя басякі купіла: і красівыя, і на ногу якрас.* Карозічы Гродз.

*БАСЯЛІ′ЦЬ* незак. Падманваць. *Што ты басяліш, я сам усё на свае вочы бачыў.* Міратычы Карэл.

*БАТЛЕ′Й* м. Непахв. Пузаты мужчына. *Паглянь, які батлей, пуза аш па зямлі цягнецца.* Пагарэлка Карэл.

*БАЎКАРЫ′* мн. Драўляныя сані. *Зімою ў лес па дровы езьдзілі на баўкарах.* Студзенікі Свісл.

*БАХМА′ТКА* ж. Галавешка. *У пецы яшчэ тлелі бахматкі.* Ганчары Дзятл.

*БАХУРНЯ'* ж. Зборн. Экспр. Дзятва. *І ў вас у домі бахурні много.* Грабава Зэльв.

*БАЯ'ННЕ* н. Боязь. *Хай яго качкі зь яго баяням. Адзін у хаці баіцца, і годзі.* Грабава Зэльв.

*БАЯ'РЫ* прым. Дурны (ад назвы вёскі Баяры ў Гродзенскім раёне, дзе знаходзіцца псіхіятрычны шпіталь). *Ён ужэ зусім баяры, крычыць абы-чаго.* Вялікая Бераставіца Берасг.

*БЕГУНКО'М* прысл. Ланцужком. *Тут вышыта бегунком.* Курчаўцы Бераст.

*БЖЭ'ЖЫ* мн. Карункі. *Ціпер бжэжы ў магазіні ест, а раней трэба было самому рабіць.* Галынка Ваўк.

*БЗДЗЮХА'* ж. Порхаўка. *Цяпер ні душы, яна яшчэ зялёная. Вот як спарахнеіць, тады ўжо настаяшчая бзьдзюха, вун як будзіць курыць.* Косцевічы Астр.

*БІВА'ЧКА* ж. Прылада біць мух. *Мух у хаця аш чорна. Не, кап катора ўзяла бівачку ў рукі й забіла пара штук.* Косцевічы Астр.

*БІЛАБО'КІ* прым. Вірлавокі. *У магазін новую магазінерку прыслалі, білабокую неку.* Нагародавічы Дзятл.

*БІЛЬБА'Р* м. Самагон. *Лявон зноў більбар гоніць, німа на яго ні закону, ні міліцыі.* Раневічы Свісл.

*БІРКЕ'С* м. Брыкет. *Прывязьлі ўчора біркесу цалую машыну, а я баялася, каб дошч ні пайшоў. Цягала ўсю ноч.* Вішнева Смарг.

*БЛАГО'ЦЦЯ* н. Жарт. Благі чалавек (часцей пра дзіця). *Ужо такоя благоцця мой сынок, такі шкоднік! Ну-ну! Будзя-будзя хлопчыку!* Косцевічы Астр.

*БЛАМБАВА'ЦЬ* незак. Пламбаваць. *Бламбаваў-бламбаваў, і зуп скрышылі ўвесь, бломба ні дзержыцца.* Валькевічы Зэльв.

*БЛІЗНЯ'ЧКА* ж. Блізніца. *Сідарава блізьнячка ўжэ велька вырасла, а блізьнюк малы.* Грабава Зэльв.

*БЛІ'НДАР* м. Валацуга. Экспр. *І німа гэтаго бліндара. Заўшэ ён здесь валочыцца.* Кавалі Свісл.

*БЛО'МБА* ж. Пломба. *Уставіў бломбу і есьці ні магу, баліць зуп.* Валькевічы Зэльв.

*БЛУДЗЯ'ШЧЫ* прым. Блудны. *Трэбо мне карову мяняць, блудзяшчая яна, хаты зусім ні панімая.* Дрэчаны Свісл.

*БЛЮ'МА* м. і ж. Экспр. Замкнуты, пануры чалавек. *Гэта чортава блюма зноў п'яны прышоў.* Камяніца Ваўк.

*БЛЯ'ХА* ж. Засаўка, юшка. *То што ўжэ прапалілася ў печы, то трэба бляху зачыніць.* Дарані Свісл. *Ацсунь бляху, бо дым па хаці пойдзя.* Курчаўцы Бераст.

*БО'ЛЬНЯ* ж. Бальніца. *Дзяцькі німа ў хаці, ляжыць у больні.* Танявічы Шчуч.

*БО'ТКА* ж. Палка з цвіком на канцы, якая служыць для адпіхвання на санках ці на ваньках. *На санках з гары хуччэй з'едзяш, як боткамі папіхаясса.* Хамічы Маст.

*БО'РЗЯНЬКІ* прым. Хуткі, рухавы. *Але ш твой, Надзя, хлопяц і борзянькі, ні мела ні хвілі спакою зь йім.* Пачарнейкі Свісл.

*БО'РУХ* м. Зневаж. Пра нязграбнага мужчыну. *І нашто табе такі борух, ад яго карысьці мало.* Пархімаўцы Бераст.

*БО'СЫ* прым. Нішчымны. *Дзяцей куча, дык яна босай капусты наварыць і добра.* Ляпёшкі Іўеў.

*БРАВАРЫ'НА* ж. Будынак для захоўвання харчовых прыпасаў, свіран. *Кала хаты ў каждага з нас ёсь браварына.* Варняны Астр.

*БРА'МА* ж. У вясельным абрадзе упрыгожаныя вароты, ці брамка каля хаты маладога ці маладой для іх урачыстай сустрэчы. *У маладой за браму добры выкуп узялі хлопцы.* Касцяні Слонім.

*БРА'МНІКІ* мн. Вароты. *Варота, весьнікі, і брамнікамі завуць.* Масцішча Навагр.

*БРАШЧА'ЦЬ* незак. Бразгаць. *Можа ў вядры твой гаплюк, нешто брашчыць тут.* Грабава Зэльв.

*БРО'НЦЫ* мн. Вароты. *Іван, складзі чобаты і зачыні бронцы.* Юшкавічы Свісл.

*БРУ'ЗЛЫ* мн. Дрожджы. *Брузлы ў магазін прывезьлі кепскія.* Вераб'евічы Навагр.

*БРУНДЗО'ВЫ* прым. Карычневы. *Да гэтай сукенкі лепш брундзовыя туфлі пайшлі п.* Вайкунічы Воран.

*БРУ'НКАЛА* н. Ворчык. *Узяў каня ў Дуброўскага, пару выараў і брункала зламалася. Ні знаю, як і сказаць людзям.* Косцевічы Астр.

*БРЫГАДЗЁ'РЧА* ж. 1. Жанчына брыгадзір. *У нашум калхозі мужчыны за брыгадзіраў. Адна ёсьцяка і брыгадзёрча. Аля спраўная. Лепш спраўляяцца за мужчынаў.* Савічы Зэльв. 2. Жонка брыгадзіра. *Брыгадзёрчаю стала, так гунь якая глаткая.* Грабава Зэльв.

*БРЫДЗЁ'РНЫ* прым. Вельмі непрыгожы. *Ён такі брыдзёрны, ну як наўпа, што страх глядзець на яго.* Вярэйкі Ваўк.

*БРЫДКАВА'ЦЦА* незак. Здзекавацца. *У вайну немцы брыткаваліся зь людзей.* Попішкі Астр. *А ён любіць над людзьмі брыткавацца.* Пагародна Воран. *Так брыткаваўся немяц з людзей, што мусялі ў лесі буданэ рабіць і хавацца.* Ганчары Лід.

*БРЫ'ДНІК* м. Асудж. Той, хто кепска працуе; няўмека. *Нашто шчэ й гэтаго брыдніка паклікалі, ён ужэ напамагая.* Мілявічы Маст.

*БРЫЗГАЧЫ'* мн. Вілы. *Пастаў брызгачы на сваё месцо.* Курчаўцы Бераст.

*БРЫЗГО'ТЛІВЫ* прым. Золкі, халодны. *Адзявайся цяплей, а то дзень якісь брызготлівы.* Церахавічы Свісл.

*БРЫ'НА* ж. Вялікі холад. *Ну і брына на гуліцы, носу ні высуняш, сабака і той у хату лезя.* Чахоўшчына Лід.

*БРЫ'СКЛЫ* прым. Абрызглы, пракіслы. *Наглытаўся брысклага малака, заваліўся пад бэс і захроп.* Драчаны Свісл.

*БРЫСКУ'ЛЬ* м. Непрацяглы дождж. *Сярод дня хмара набегла, і некі брыскуль усё сена замачыў.* Парэчча Дзятл.

*БРЭ'ЧКА* ж. Малако, якое яшчэ не стала кіснуць, але ўжо страчвае якасці салодкага. *Сядай есьці. Да картоплі брэчкі дам.* Конна Зэльв.

*БРЭ'ШКІ* мн. Карункі. *Такімі брэшкамі можно й каўнер у сукенцы апшыць.* Лойкі Гродз. *Стройная галька, зьнізу шырокія брэшкі прышыты.* Лашаны Смарг.

*БУ'БЕН* м. Іран. Галава. *У суботу на танцах адзін акунінаўскі забіяка добра ў бубен палучыў.* Партызанаўка Слонім.

*БУЗАВА'ЦЦА* незак. Ствараць беспарадак, вэрхал. *Дзеці, хаця ні бузуйцяся ў хаці, бо зара госьці над'едуць. Замасцяны Шчуч.*

*БУЛАВА'ТЫ* прым. Непахв. Пра чалавека, у якога надта вялікая галава. *Юзік Галькоў чысто булаваты які: у яго галава хамута просіць, а розуму ні на грош.* Жомайдзі Лід.

*БУЛАВА'ЧКА* ж. Таўкач, якім таўкуць бульбу. *Зварылі пад вечар бульбу і стаўклі яе булавачкай.* Пагародна Воран.

*БУЛІНА'* ж. Пустазелле. *На полі такая буліна парасла, усе картоплі пакрыла.* Пасінічы Слонім.

*БУЛЫ'М* м. 1. Бык. *Булым, уставай, ужэ хваціць спаць.* Лішкі Бераст. 2. Перан. Упарты чалавек. *Булым гэты як упрэцца – ні перапрэш.* Лішкі Бераст.

*БУ'ЛЬХАЎКА* ж. Бурбалка. *На лужынах бульхаўкі становяцца, на дошч мусі.* Коласава Слонім. *Нырнуў і толькі бульхаўкі пуская.* Вердамічы Свісл. *Колькі шмат бульхавак на вадзе.* Ізабелін Ваўк.

*БУ'ЛЬХАЎКА* экспр. ж. Экспр. Пра нос. *Пабыў крышку на марозі, і бульхаўка зусім сьсінела.* Курчаўцы Бераст.

*БУМАЗЕ'ЙКА* ж. Від тканіны. *Бумазейка зьверху як матэрыял, а пат сподам калмаценькая.* Масцішча Навагр.

*БУ'НЬКА* ж. Зніж. Нос. *Як ні будзя цібе слухаці, дай у буньку. Добро лякарство, зразу ціхім станя.* Табала Лід.

*БУРВА'ЛАК* м. Узгорак. *На бурвалку нічога ні вырасьця, садзі хоць колькі хочаш.* Каменка Бераст.

*БУ'РНЯ* ж. Прыбіральня, туалет. *Ні можаця вы ўжэ бурні паставіць, каждзы дзень за дарогу бегаяця.* Старая Дубавая Гродз.

*БУ'РХЛЯ* м. і ж. Экспр. Слабы на здароўе, саслабелы чалавек. *Яна пасьля пахавання зусім бурхляй стала, кашляя ўсё.* Акмянеі Ашм.

*БУРЧА'К* м. Месца на ручаі ці рэчцы з імклівым і шумным цячэннем. *Тут ні перахоцьця, за бурчаком есьць мосьцік.* Гарны Гродз.

*БУ'САЦЬ* незак. П'янстваваць. *Гуляла, бусала сьвякроўка ў піру.* Драпава Слонім.

*БУХАТА'ЦЬ* незак. Моцна кашляць. *Цалютку ноч дзіця як у бочку бухатала, тылько наранку заснула.* Дубна Маст.

*БУХІ'КАЦЬ* незак. Моцна кашляць. *Відома, дзеці, ні слухаяць. Налётаяцца, а тады зімной вады хвацяць – і ўсё: бухікаяць праз усю ноч, а ты, матка, стой над імі.* Косцевічы Астр.

*БУ'ХТЫ* мн. Воз для перавозкі сена. *Накасіў сена на адны бухты.* Лішкі Бераст.

*БУ'ЧАЛЬ* м. Месца для паласкання бялізны. *Вот наш бучаль глыбокі, у ім добро паласкаць бяльлё.* Міратычы Карэл.

*БЫЛІНА'* ж. Быльнік. *Зарасло быліною ўсё, як закінулі тоё полё.* Грабава Зэльв.

*БЫСТРАЖО'НЯЦ* м. Чалавек, які шпарка ходзіць. *Ну й быстражоняц, пайшоў, та папробуй дагані.* Замасцяны Шчуч.

*БЭ'БЧЫК* м. Скупы чалавек. *А гэтаму бэпчыку ўсё мала, ніяк ні наесца.* Труханавічы Дзятл.

*БЭ'ЙЗАЛЬ* м. Гармідар. *От, ходзіць пляткарыць, а ў самой у хаці бэйзаль.* Пушчыкі Свісл.

*БЭ'ЙЛЯ* м. і ж. Экспр. Пра п'янага чалавека. *Панакупляюць у магазіні гарэлкі і панапіваюцца, а тады ходзяць бэйлі.* Дзеравянчыцы Слонім.

*БЭЙЧ* м. Пуга. *Бэйч вазьмі, бо так ні адгоніш.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*БЭ'РСАЦЬ* незак. Неадабр. Гаварыць абы-што. *Бэрсаіш нешта дурноя, лепяй памаўчы і паслухай.* Астравец.

*БЭ́РЫСЬ-БЭ́РЫСЬ-БЭ́РЫСЬ* выкл. Вокліч, якім падзываюць барана. *Пазавеш барана: бэрысь-бэрысь-бэрысь! Ён і ляціць да цябе, алі бліска ні патхадзіў, баяўся.* Косцевічы Астр.

БЭ́*СТА* прысл. Дрэнна, кепска. *Ні давёў свае справы да канца, зрабіў бэсто.* Каліноўская Свісл.

*БЭ́ЦІК* м. 1. Дзіцячы «канверт», у якім забіраюць народжаных. *Калі мая дачка нарадзіла першае дзіця, я ў горадзі бэцік купіла і забрала з бальніцы.* Зэльва. 2.Чахол, пакрыцце на дзіцячую пярыну. *Налажы каляроваго бэціка на пярынку, а то белы натто брудзіцца.* Галынка Ваўк. 3. Лёгкая шапачка для нованароджанага. *Файны бэцік дзіцяці прынесьлі кумэ. Хавай на сьвято.* Палубнікі Лід.

*БЭ́ШЛЫ* мн. Экспр. Абутак. *Так у бэшлах і ўваліўсо ў ложко, і сам угвэдзаны ўвесь.* Лаўна Маст.

*БЯЗМЕ́Н* м. Зневажж. Някемлівы, нездагадлівы чалавек. *Што за бязьмен удаўся! Сам ніколі ні ськеміць, усё за яго трэба рабіць.* Астравец. *Нічого ні панімая ён. Што ты яму, бязмену, даказваць будзяш.* Грабава Зэльв.

*БЯЗУ́ЛЯ* м. і ж. Экспр. Гультай. *Хочаш, каб з бязулы толк быў.* Дубаўцы Ваўк.

*БЯНДАГА́ЦЬ* незак. Хваліць. *Чужых я ні абгаворваю, але і сваіх ні бяндагаю.* Пушчыкі Свісл.

*БЯРЭ́ЗА* ж. Бяроза. *Я ў лесі вясной сок з бярэзаў спускаю, натта смачны, як укісьня.* Ляпёшкі Іўеў.

*БЯРЭ́ЗІНЫ* мн. Падбярозавікі. *Маладзенькія бярэзіны заўсягды чысцянькія, ні чарвівыя.* Брольнікі Навагр.

*БЯСКІ́ШКІ* прым. Худы. *Ах ты, чорт біскішкі, куды ты шчэ прэсся, здохняш зусім, заб'юць гада!* Драчаны Свісл.

*БЯССО́ВЯСНЫ* прым. Несумленны. *Яму хоць ты плюй у вочы, то ні брытко, бяссовясны такі вылюдак.* Грабава Зэльв.

*ВАГАНО́ЎКА* ж. Абгабляваныя дошкі *Сын збіраўсё хату рабіць, дак ваганоўкі на сталяванё навазіў.* Гарадзечна Навагр.

*ВАГА́ШКА* ж. Кавалак зямлі, на якім садзяць агародніну. *Трэба скапаць вагашку, а то заўтра будзям цыбулю садзіць.* Бердаўка Навагр.

# В

*ВАГА́ШКІ* мн. Палосы зямлі. *Вагашкі ў пана былі гэтакія вялікія, лецъ вокам абняць.* Нязнанава Навагр.

*ВАГНЯ́НКІ* мн. Чырвоныя сыраежкі. *Гаворыць, назьбіраў грыбоў, а прынёс адных вагнянкаў.* Кляцісно Свісл.

*ВАˈЖКІ* прым. Густы. *Гандзя варыць натто важкі суп, я такого ні люблю.* Драчаны Свісл.

*ВАЗІˈСКО* м. і ж. 1. Вялікі воз (сена, саломы, дроў). *Каняня гэто ні завязе такі вазіско дроў.* Грабава Зэльв. *2. Непахв.* Воз. *Хай яго халера, з гэтым вазіскам: цэлы дзень правазіўсё і ні паправіў, так знасіўсё ён.* Крывічы Зэльв.

*ВАЗОˈК* м. Дзіцячая калыска. *Бапка расказвала: раней такіх васкоў ні было, а былі люлькі саламяныя.* Баруны Ашм.

*ВАЗЫˈРНЯ* ж. Памяшканне для захоўвання воза, саней і прылад працы, вазоўня. *Бацька доўга валэндаўся ў вазырні, правіў вос.* Варняны Астр.

*ВАЗЮˈРА* м. і ж. Экспр. *Ну й вазюра ты, Анюта, ні памыла падлогу, а толька навазюрыла.* Старая Рудня Смарг.

*ВАКОˈ* н. Вока. *Мне ўжо левая вако як пачнець торгаць, так і чакай бяды.* Косцевічы Астр. *Паглядзі ты, мне ў вако нешта папала.* Лылойці Смарг.

*ВАˈЛАК* м. Прылада ў кроснах, на якую намотваецца нітка. *Хіюо табе так цікаво цэлы дзень стаяць і глядзець, як круціцца гэты валак?* Клепачы Бераст.

*ВАЛАПАˈС* м. Месца для выпасу кароў (у пойме ракі). *Пара кароў на валапас гнаць.* Лішкі Бераст.

*ВАЛАСЯˈНІЦА* ж. Хвароба скуры; валасень. *Валасяніца на рукі, ногі напала, балячке паўсядалі скрось.* Грабава Зэльв.

*ВАЛАСЯˈНКА* ж. Тое, што і валасяніца. *Валасянка на пальцы от баліць! Ні зачапіць.* Грабава Зэльв.

*ВАЛАЧЫˈ* незак. Добра разумець, разбірацца ў чым-небудзь. *А йіхні хлопяц у сваёй навуцэ валачэ!* Праважа Воран.

*ВАЛАЧАІˈНА* м. і ж. Узмац. Бадзяга, валацуга. *Ніц ні хоча рабіць, адно па хатах валочыцца, валачайіна гэты.* Грабава Зэльв.

*ВАˈЛКО* н. Валак для ручнога прасавання бялізны. *Моцнае валко дубовае. Ужэ много лет у мяне яно. Качаю плацё.* Каралін Зэльв. *Перш трэбо на валко наматаць бялізну.* Новы Двор Свісл.

*ВАЛОˈВЫ: ВАЛОВЫ БУРАК* м. Кармавы бурак. *Трэбо йсьці матыкаваць валовыя бураке, бо ўрасьлі, што сьвету божаго ні відаць.* Стральцы Маст. *Накрышы валовых буракоў хуччэй, карова галонна.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ВАЛЯНДЭˈРНЯ* ж. Месца для дошак. *Трэба дошкі ў валяндэрню, на месцо занесьці, кап сохлі.* Купіск Навагр.

*ВАНЁˈНКА* ж. Драўляная скрынка з вечкам для сала, кубелец. *Трэба ваненку выпарыць. Будзям паршука калоць.* Стокі Свісл.

*ВАРА́ВА* н. Агарод. *Пашлі ў варава, надо буракі палоць* Гальшаны Ашм.

*ВАРАПА́ХА* ж. Рапуха. *Якая страшная варапаха скача.* Лозкі Дзятл.

*ВА́РНАСЦЬ* ж. Парнасць. *Мусяць, дошч пойдзя, такая варнасьць на дварэ; У хатах гэтых як нагрэюць батарэі – варнасьць такая, гаш млосно робіцца.* Крывічы Зэльв.

*ВАРО́ЖКІ* мн. Чары. *Пра яе казалі, бытта чараўніца. Аброць па расе на Купала цягала разьдзеўшыся. Як дзевяр ейны жаніўся, тожа варошкі строіла – ношкі стала вяроўкамі піравязвала.* Косцевічы Астр.

*ВАРО́К* м. Невялікі агрэх зямлі, які не быў заараны плугам. *Пашлі, дзеткі, на варок па сено, з якую дзяршку прынясём.*Ваўкавічы Навагр.

*ВАРО́НІКІ* мн. Бульба, звараная ў шалупінні. *Бяры, баба, унука да сябе. Воронікамі з малаком пакармі.* Раневічы Свісл.

*ВАРО́Х* м. Вялікі мяшок. *У йінстытут паступіў, хоць варохі цягаць не прыйдзецца.* Баруны Ашм.

*ВАРУНЯ́* ж. Прыбудова каля хаты ці хлява, дзе замешваюць корм свінням. *Мука сьвіням цёнгля ў варуні стаіць.* Вішнеўка Бераст.

*ВАРЫЎНЯ́* ж. Будынак, у якім летам гатуюць ежу – сабе і жывёле. *У варыўні есьці стаіць. Паясі і на полё.* Каралін Зэльв.

*ВАРЫ́ЦЬ* незак. Пячы (пра сонца). *Сёння сонца так варыць, што аш дыхаць цяшка.* Баруны Ашм.

*ВАСЕМНІ́Т* м. Вышыты абрус. *Раней вышывалі прыгожыя васемніты й засьцілалі толькі ў сьвята.* Баруны Ашм.

*ВА́СКА* ж. Кадушка для захоўвання сала. *Табе трэба зьбіць новую васку.* Гнезна Ваўк.

*ВА́ТАРГА* ж. Непахв. Сварка. *Ні магу я слухаць ватаргі гэтае. Усё сварацца і сварацца, і склоннае ім німа. От людзі сталі!* Дзярэчын Зэльв.

*ВАТНЯ́НКА* ж. Ватоўка. *Каб ні мерзнуць я лепяй ватнянку надзену.* Сянькоўшчына Слонім.

*ВАТРАБЛЯ́НКА, ВАТРАБЯ́НКА* ж. Вантрабянка. *Ватраблянку мы с пячонкі, лёхкага, почкаў робім, крыху сала дадаём, смашная кілбаса выходзіць.* Сянькоўшчына Слонім. *Паспрабуй маёй ватрабянкі, ўчора рабіла.* Стокі Свісл. *Ватрабянку сырую есьці ж ня будзіш.* Вугляны Смарг.

*ВАЎКЕ́ЛЬКА* ж. Навалачка. *Купіла я ёй на вяселё дзьве ваўкелькі і коўдро.* Гарадзечна Навагр.

*ВАЎРЭ́ЦЬ* зак. Спацець. *У вас у хаці такая духата, што можна ваўрэць.* Драпава Слонім.

*ВАЎЧА́К* м. Аўчарка. *Ты што, ваўчака сабе купіў? Ці настаяшчы?* Асіпаўка Воран. *Зяць мой такога ваўчака трымая, што й на надворак ні зойдзяця.* Леснікі Лід.

*ВА́ХЛЯ* ж. Вафля. *Заўтра куплю табе вахляў.* Курчаўцы Бераст.

*ВА́ЧАК* м. Торба на рыбу. *Вазьмі вачак, то складзеш туды рыбу, як наловіш.* Ацмінава Навагр.

*ВЕ́ДАМНА* безас. Ведама. *Ведамна, што як дажджу німа, та грыбоў у лесі ні будзя.* Дзеракі Дзятл. *Ведамна, цёмна, хіба пачытаю сама?* Дабраволя Свісл.

*ВЕ́КЦІК* м. Анучка для мыцця посуду, вяхотка. *Выдзяры векцік с падранай хусткі.* Палонка Свісл.

*ВЕ́КША* ж. Застар. Вавёрка. *Векша чыгая з галіны на галіну, хвост як агонь бліская.* Правыя Масты Маст.

*ВЕ́НЬКА* ж. Прылада для чысткі зерня, веялка. *Даўней мы ўсю работу рукамі рабілі, і венькаю зярно чысьцілі.* Купіск Навагр.

*ВЕ́ПРЫК* м. Ласк. Парсючок. *Трэба нам на весну хоць аднаго вепрыка купіць.* Стокі Свісл.

*ВЕ́РАТ* м. Фурункул. *Цалютку ноч мучыў міне гэты верат, вачэй ні на момант ні самкнула. Толькі падраня прарваўса.* Хадзюкі Лід.

*ВЕРАЎЧА́КА* ж. Вяроўка. *Дзе якой-коляк вераўчакі знайсьці, кап пападвязваць было чым памідоры.* Філонаўцы Лід.

*ВЕ́РЦЕХА* ж. Макацёр. *Нясі верцяху, будзям мак церсьці.* Ляткі Маст.

*ВЕ́РШНІК* м. Верхні камень у жорнах. *Вершнік – двіжымы камень.* Масцішча Навагр.

*ВЕ́СКІ* мн. Вароты. *Аччыняй свае вескі.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ВЕ́ТРАНІЦА* ж. Іран. Непаслядоўная ў сваіх рашэннях жанчына. *Прасіла калейкамі памяняцца, а сама ўзяла й пагнала кароў, от ветраніца.* Гудзевічы Маст.

*ВЕ́ТРАЦЬ* незак. Сохнуць на ветры. *Хай йшчэ ветрая адзежа, мо ні прасохла; дажджу ш німа!* Валькевічы Зэльв.

*ВЕ́ЦЕР* м. Непахв. Ветраны, непастаянны чалавек. *Ні слухай яго: вецяр гэты ўсё ні так робіць, як трэба: то з таею, то з гэтаю круціцца. Падло, вецяр гэты, адно у галаве дзяўке, а жаніцца німа!* Старое Сяло Зэльв.

*ВЕ́ШАЛО* н. Жэрдка, на якую вешаюць каўбасы. *Маладая смелая была, ад вешала з каўбасамі не атходзіла.* Шчорсы Навагр.

*ВІДНІНА́* ж. Віднага, светла. *А ў хаці той відніна, хоць голкі зьбірай – такія вокна велькія робяць цяпераке ў хатах.* Савічы Зэльв.

*ВІДО́ЧНЯ* пабоч. Напэўна. *Я, відочня, заўтра зайдуся да цябе. Буць толькі ў хаце.* Волькавічы Ашм.

*ВІЛЫ* мн. Прылада ставіць у печ і вымаць з яе гаршкі, чыгуны. *Дзе ты вілы падзеў? Ужо саганэ пара даставаць!* Курчоўцы Воран.

*ВІНДАВА́ЦЬ* незак. Знаходзіць прытулак. *А да каго яна прыстаня ў Лаўрынавічах, от віндуя да віндуя ў Дашы.* Пачарнейкі Свісл.

*ВІНЦЯ́РКА* ж. Вязанка абаранкаў. *Будзяш слухацца -- цэлу вінцярку куплю, мо з макам будуць, а не, дык с хаты і ні выпушчу.* Агароднікі Лід.

*ВІ́НЬ* м. Іней. *Вось і вінь на траве паказаўся, скоро маразы пачнуцца.* Галавічполе Шчуч.

*ВІРУ́ТНЫ* прым. Вельмі падобны да каго-н. *Янак ваш вірутны бацько, дальбух, і ростам гэдыкі, і валасэ, і вочы як у бацька.* Стральцы Маст.

*ВІСЦІ́ГІ* мн. Спаборніцтвы. *Мой сын заўтры паедзя на вісцігі ў Зецяла.* Дубаўшчына Дзятл.

*ВІ́ТАЧКА: У ВІ́ТАЧКУ.* Назва гульні. *Даўней маладыя зьбяруцца на танцы, покуль музыканта прывядуць, у вітачку гуляяць. Пасярэдзіня хаты на лаўку вітку паложаць, а самі кала сьцен стаяць. І хто ложыць вітку, называіць каго хочыць. А таму трэба скора ўзяць вітачку і пасьпець ударыць таго, хто назваў, пакуль той стаіць кала сьцяны. А не, дык называіць любога і сам скарэй на места. Васола было.* Косцевічы Астр.

*ВІХРАВА́ТЫ* прым. Бойкі, рухавы. *Віхраватая па характару твая Кацярына.* Вугляны Смарг.

*ВІХРА́К* м. Віхор. *Віхрак на галаве ў малога вырас не там дзе трэба.* Вераб'евічы Навагр.

*ВО́БЖЫР* м. і ж. Ненаедны, ненаедная, абжора. *Гэты Ладзё іх некі вобжыр: тры міскі зацеркі ўтрубіў; Яе ні накорміш: вобжыр нека.* Старое Сяло Зэльв.

*ВО́БМАЛАЦЬ* ж. Амаладжэнне. *Бапка адзела нову хустку, та ў вобмалаць пашла, як лялька стала.* Падліпкі Гродз.

*ВО́БРУЦЬ* ж. Аброць. *Гэта вобруць бяс цугляў, ні загелзаяш каня.* Грабава Зэльв.

*ВО'ДЗЕ, ВО'ЙДЗЕ, ВО'ЙДЗІКА* прысл. Тут. -- *Недзе ш закінулі акуляры. Як табе, чалавек, трэба, то нігды ні знайдзіш. – Водзе твае акуляры, дзет, ні злуйся.* Косцевічы Астр. *Пастой троха войдзя, паглядзі, кап сьвіня ні паўцякалі с падворка.* Старая Руда Гродз. *Прахоць даляй, а тэчку войдзіка пакінь.* Вішнеўка Бераст.

*ВО'КРЫШАК* м. Падстрэшша. *У мяне пад вокрышкам гараб'е пасяліліся.* Харосіца Навагр.

*ВО'ЛЯК* м. Падліўка, прыгатаваная з дабаўленнем галоў ад кількі ці іншай дробнай салёнай рыбы. *Пост быў пост: пад'ясі воляку тога ці сялёдачкі і сыты.* Верцялішкі Гродз.

*ВО'РАХ* м. Мяшок. *Высып бульбу з вораха.* Жукевічы Бераст.

*ВО'ЎК* м. Жалезны стрыжань з чатырма крукамі на вяроўцы для даставання вёдраў з калодзежа. *Дзядзя, пазычця нам ваўка. Наша вядро ў студню ўвалілася.* Ст. Гудагай Астр.

*ВУЖЫРЫ'НА* ж. Невялікая яма з вадой. *Паслухай, як жабы квакаюць у вужырыні. Во ўжэ цяпло стало.* Петралевічы Слонім.

*ВУЖЭ'* мн. Прылада, якая выкарыстоўваецца для вырабу лыжкі. *Клушчы, вужэ трэбо, каб выбіваці лышку.* Голдава Лід.

*ВУ'ЗАЧКА* ж. Каляска для малых дзяцей. *Купілі яны вузачку для маленькай дачушкі.* Рыбакі Іўеў.

*ВУЙЕЙ* выкл. Ой! Ох! *Вуйей-вуйей! Што гэто будзя: недзя хлопяц прапаў у лесі і ні аказваяцца. Мо дзе заснуло малоё натаміўшыся? Крывічы Зэльв.*

*ВУ'ЛІВА* ж. Качка. *Глянь, вун вуліва ківаяцца, мусі зняслася ўжэ.* Капці Дзятл.

*ВУ'НЯКА* прысл. Вунь там. *Вуняка ўжо і вёска, хлявы відаць.* Лаўрынавічы Свісл.

*ВУС* м. Затока. *Хлопцы пайшлі ганяць рыбу ў вусе.* Сямюны Ашм.

*ВУХАВА'ДНЫ* прым. Асудж. Сварлівы. *Усе знаюць, што яна вухавадна, та й ні зачапаюць, бо енку ні абярэсса потым.* Стральцы Маст.

*ВУХО'* н. Ручка (збанка), вушка (цэбра). *За вухо бяры збанок. Гэто табе ні ладышка, што там німа вуха.* Старое Сяло Зэльв.

*ВУШАВЕ'Ц* м. Макрыца. *Трэба пасьці на агаротчык і вушаўца нарваць для паршучка.* Кашалёва Навагр.

*ВЫБІВА'НКА* ж. Стракатая з узорамі спадніца. *Бало, дзеўкі зьбяруцца на сьвято, выбіванкі яркія, як кватке.* Сурынка Слонім.

*ВЫБІВА'НО* н. Тканіна, сатканая ў чатыры ніткі. *А яшчэ нашы бабы ткалі ў чатэры ніці такую тканіну, выбівано называлі яе.* Кашалёва Навагр.

*ВЫБЫШКАВА́ЦЬ* незак. Выдумляць, хацець невядома чаго. *І чаго ты ўсё выбышкуяш, чаго ты хочаш, ні магу дапетрыць.* Белякі Дзятл.

*ВЫВЛО́КА* м. і ж. Экспр. *Валацуга. Бяда маццы: здароўя няма, а хазяйство вялікая, як хочыш, так і ўпраўляйся. А гэты ш вывлока ў хаця ні стыкаіцца, па сколька дней бываіць ні прыходзіць дахаты.* Косцевічы Астр.

*ВЫ́ДЗІР* м. Сварлівы мужчына. *Ён тожа добры выдзір, такі ш самы як і яго жонка.* Гарадзечна Навагр.

*ВЫДЗЫГВАЦЬ* незак. Кідацца ў бойку; сварыцца. *Ні выдзыгвай тут перада мною, ідзі ўжэ дахаты, астынь.* Стральцы Маст.

*ВЫ́ДРЫГНУЦЬ* зак. Памерці. *Выдрыгнуў стары. Ды мучыцца боляй ні будзя.* Падмошша Слонім.

*ВЫ́ДРЫЛЯВАЦЬ* зак. Высвідраваць, прасвідраваць. *Як чыгун лапілі, то перш выдрылявалі дзірачкі, а тагды настаўлялі бляху – лапілі.* Грабава Зэльв.

*ВЫДРЫНДЭ́ЛЬВАЦЬ незак. Дагаджаць. Ён усё жыццё выдрындэльваў свайму сябру.* Церахавічы Свісл.

*ВЫ́ЗДЫХНУЦЬ* зак. Паздыхаць. *Нешто неко сталасё з гэтымі парасятамі, што ўсе выздыхнулі.* Грабава Зэльв.

*ВЫКАМА́РКВАЦЬ* незак. Выдумляць. *Калі ты перастаняш выкамарквацъ?* Юшкавічы Свісл.

*ВЫ́КАНЬЧЫЦЬ* зак. Закончыць, завяршыць. *От малайцэ, ужэ і выканьчылі хату, адно сталярка засталася, а так і зрубілі, і накрылі; Як выканьчыў баразну сваю – аддыхні, пакуль другія зробяць гэто.* Крывічы Зэльв.

*ВЫ́КАРШКАЦЬ* зак. Выграбсці. *Трэба сь печы попел выкаршкаць; Куры, як ўскочылі ў гарот, усе мае буракі выкаршкалі.* Баруны Ашм.

*ВЫ́КУРЫЦЬ* зак. Выпаліць (у печы). *Я як устану, дык перш у печы выкуру, а тады ўпраўляюся.* Драчаны Свісл.

*ВЫ́ЛІНЯЦЬ* зак. Набыць з узростам больш прывабны выгляд. *Марусіна дачка малая страшная была, а ціпер нічога, выліняла.* Шылавічы Слонім.

*ВЫ́ЛУПАК* м. Пра чалавека з вылупленымі, вытрашчанымі вачамі; зяркаты. *Чаго ты вылупіў на міне вочы? Думаяш, баюсё цябе, вылупка такого?* Грабава Зэльв.

*ВЫ́НАДГАРАДЗІЦЬ* зак. Узнагародзіць, аплаціць. *А мая ш ты, Марыйка, закінь ты за мяне там слоўка. А я ў даўгу ні застануся, вынадгараджу.* Косцевічы Астр.

*ВЫ'НЯЎКА* ж. Помпа для выкачкі вады. *Раней воду хадзілі ў выняўку браць, покуль не замерзла зімою.* Альхоўка Навагр.

*ВЫ'ПЛАТАЦЬ* зак. Вырваць. *Як прышла, дык мігам усе бураке выплатала, шчэ і морку пасьпела.* Філонаўцы Лід.

*ВЫПРАВО'НЫ* мн. Провады хлопца ў войска. *Мая сусетка ўчора выправоны рабіла, хлопца ў армію атпраўляла.* Дзераўная Слонім.

*ВЫ'ПРАГА* ж. Зласл. Смерць. *Такі нілюцкі чалавек, прадажнік – і выпрагі на яго німа; Каб яго выпрага ўзяла, злыдуха гэтаго, як ён узяць узяў, а аддаць не аддае.* Старое Сяло Зэльв.

*ВЫ'Р* м. Мех. *Заваліў на плечы выр бульбы, іду, ледва цягнуся.* Дварчаны Шчуч.

*ВЫ'РАЧКА* м. і ж. Вірлавокі, той, хто «вырачае» вочы. *Думаеш баюсё цябе, вырачка! Вочы вырачыў і крычыш на міне.* Старое Сяло Зэльв.

*ВЫРО'ТНЫ* прым. Выліты, падобны. *Міхась на матку падобны, а Тамаш – выротны дзет.* Драчаны Свісл.

*ВЫ'СЛУПІЦЦА* зак. Вытрашчыць вочы. *Чаго выслупіўся, першы рас бачыш такоё дзіво?* Пачарнейкі Свісл.

*ВЫСТРАНЬЧА'ЦЬ* незак. Дагаджаць, наравіць. *Узяў ба п бульбы з'еў, сланіны кавалак, кісьляком запіў – і добра. Німа мне калі выстраньчаць табе зь ядой.* Косцевічы Астр.

*ВЫСЦІ'ТІ* мн. Выперадкі. *Чаго табе сьпяшацца. На высьцігі едзяш? Ець сабе памаленечку.* Грабава Зэльв.

*ВЫСЫПА'ЛЬНЫЯ* мн. Грыбы, якія растуць у асноўным пад вішнямі, калі красуе жыта. *Ёсьць яшчэ высыпальныя грыбы, я во ні так ўжо й даўно цэлую сям'ю пад вішняй знайшла – добрыя грыбы.* Кліманцы Ашм.

*ВЫ'ТКНУЦЬ* зак. Зрабіць заўвагу, папрок. *Але хто міне вытkне, што я благі гаспадар на вёсцы?* Хадзявічы Слонім.

*ВЫ'ТУХЛІЦЦА* зак. Абразл. Выспацца. *Да вечару спаў, жарты табе! Ну ўжэ вытухляўся да зноў на гулі пойдзя.* Старое Сяло Зэльв.

*ВЫ'ЦІРАК* м. Рыба пасля нерасту. *Уверх па рацэ йшоў касяк выцеркаў, аш кішэла йіх там.* Баруны Ашм.

*ВЫЦІРА'ЛЬНІК* м. Ручнік. *Бабуля прынесла чысты выціральнік.* Нёўда Навагр.

*ВЫЦЫБУ'ЛЬВАЦЦА* незак. Залішне ганарыцца. *Ціпер у вёсцы хто машыну мае, то ўжэ так выцыбульваецца, што носа ні дастаць.* Шылавічы Слонім.

*ВЫЧАПЛЮ'СЫ* мн. Пацеркі. *Палянця на яе, зноў мае вычаплюсы забрала.* Мыслава Слонім.

*ВЫЧАЎПА'ЦЬ* незак. Вычаўпляць, вытвараць. *Вычаўпая сам ні ведая што, мабыць, з глузду з'ехаў.* Пушчыкі Свісл.

*ВЫЧВЯРА'ЦЦА* незак. Прыдурвацца, блазнаваць. *Перастань вычвярацца, вазьмі мыдла і памыйса.* Цыдовічы Гродз.

*ВЫ'ЧЫРГАЦЦА* зак. Папраўіцца пасля хваробы, акрыяць. *Я ўжо думала, што Міша ні ўстаня на ногі, алі ш неяк вычыргаўся.* Морына Іўеў.

*ВЭ'ЛЬВАЛЬ* м. Абразл. Вялікі жывот. *Чаго ты сьмяесься з міне, бабы; палядзі на свой вэльваль. Як у пароснае авечкі ўсёроўно.* Мяжырычы Зэльв.

*ВЭ'МПІЦЬ* незак. Паважаць. *Ты яго зусім ні вэмпіш, а трэ было п.* Каменка Бераст.

*ВЭ'ПСАС* прысл. Нахабна, напралом (кідацца, лезці). *Што гэта ты на бацьку вэпсас кідаіціся? Што ні скажы, усё ні так.* Косцевічы Астр.

*ВЯЗА'НКА* ж. Вязаная хуска. *Пакажы мне сваю вязанку.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ВЯЗА'ННІК* м. Той, хто вяжа; вязальшчык. *Адныя жнуць, а другія хай вяжуць. Мужчыны хай будуць вязаннікамі (снапоў).* Дзярэчын Зэльв.

*ВЯЗА'ННІЦА* ж. Жанчына, якая вяжа. *Швэдру зьвязала добро. Акуратная сь цябе вязанніца.* Дзярэчын Зэльв.

*ВЯЛЁ'НДА* ж. Непахв. Неакуратная жанчына. *Прычашыся, а то як вялёнда ходзіш.* Камаровічы Карэл.

ВЯНДЗІ'*ЦЬ* незак. Вэндзіць. *Трэ сало вяндзіць, то смашнейшо будзя, ні будзя так ялчаць.* Старое Сяло Зэльв.

*ВЯРЭ'ЦЯ* ж. Гунька. *Накінь вярэцю на каня.* Лішкі Бераст.

*ВЯТРУ'ФКІ* мн. Басаножкі. *Ужо пара й вятруфкі насіць, цёпла стала.* Варняны Астр.

*ВЯ'ЧАЦЬ* незак. Гучна плакаць. *От, хлопяц вячаў, аш хата дрыжэла.* Пушчыкі Свісл.

## Г

*ГАБДЫЛІ'К-ГАБДЫЛІ'К-ГАБДЫЛІ'К* выкл. Дзіц. Як імітацыя шуму пры бегу каня. *Сядзіць мой сынок на коніка і паедзіць: габдылік-габдылік-габдылік!* Косцевічы Астр.

*ГАВАНДЗЮ'РА* м. і ж. Чалавек, які шмат гаворыць. *Такі ўжэ быў гавандзюра, што, бывала, ніхто зь ім ні згаворыцца.* Дварчаны Шчуч.

*ГАГА́ЎКА* ж. Кадык. *У каго дык тэй гагаўкі і ні відаць, а ў другога - як у Гармана – вытыркаіцца ўперат. Вот ністройна, ні люблю я.* Косцевічы Астр.

*ГАЖ* 1. Часц. Узмацн. Аж. *Гаш скамянеў, так спалохаўсё ён цябе.* Крывічы Зэльв. 2. Злучн. Аж. *Такі дошч, аш сьвету ні відно.* Крывічы Зэльв. 3. Часціца ў спалучэнні з *да.* Аж да. *Сядзеў гаш да ранку, аля усё зрабіў за ноч.* Крывічы Зэльв.

*ГАЗО́ЎКА* ж. Летняя хусцінка з капронавага матэрыялу. *У цібе вочы шэрыя, та завяжы буталькову газоўку, харашэ будзя.* Лаўна Маст. *Нашто ты такім холадам газоўку павязала, зьмерзьняш.* Гезгалы Дзятл.

*ГАЗУ́ФКА* ж. Хустка з лёгкай празрыстай тканіны. *Анэля с Польшчы прыяжджала, празэнтаў навязла. Мне газуфку нябескую, сьмяюся акрас да маіх сівых валасоў.* Косцевічы Астр.

*ГАІ́К* м. Гай, гаёк. *Дзеці пашлі ў гаік і чуць ні заблудзіліся.* Лагады Шчуч.

*ГАЛАМЫ́ЗДА* ж. Экспр. Пра высокую жанчыну, з грубым голасам. *Палянь, ужэ пачала галасіць гэта галамызда, усю вёску на ногі паднімя.* Клепачы Бераст.

*ГАЛАМЯ́* прысл. 1. Надта хутка. *Анічагусенькі ні пасьпела зрабіць, галамя час ляціць.* Цвербуты Лід. 2. Шмат. Часц. *Ён ужо галамя часу, як быў тут.* Бягені Ваўк.

*ГАЛАМЯ́ЧКО* прысл. Нядаўна. *Здэцца ж, галамячко яна нарадзіла, а ўжэ бач, бегая дэй на ўсю гуліцу гарланіць. Яг жаш чужыя дзеці хутко растуць.* Вінькоўцы Лід.

*ГАЛАСАВА́ЦЬ* незак. Спяваць. *У вербачках дзеўкі цалютку ноч галасавалі, наранні паразыходзіліса.* Стральцы Маст.

*ГАЛАСНІ́К* м. Прыстасаванне для ўзмацнення гукаў і павышэння гучнасці радыёперадачы, рэпрадуктар. *У парку галасьнік павесілі, то раве на ўвесь парк; Бало, адно навушнікі былі слухаць, а цяпер галасьніке скрось.* Грабава Зэльв.

*ГАЛА́Х* м. і ж. Абразл. Неахайны чалавек. *Алі й галах гэты Вацак, вечно ніпрыбраны, нідаглежаны.* Пачарнейкі Свісл.

*ГАЛДЭ́БА* ж. Зніж. Штосьці надта вялікае. *Ну й ношкі ў цібе, добрыя галдэбы. Пэўно, абутку ні падбярэш.* Гуды Лід.

*ГАЛЕ́ПА* ж. Сучасны танец тыпу шэйка. *Сённяшня молаць танцуя толькі галепу, ранейшых танцаў ні ўмеюць.* Багуслава Шчуч.

*ГАЛЕ́ТАЛЬНІК* м. Зневаж. Гультай. *А які ён гаспадар, зусім галетальнік стаў.* Коўкелі Іўеў.

*ГАЛО'СНЫ* прым. Гучны, звонкі, пявучы. *От які галосны твой свісток; Твой пятух галосны, а дзяцькаў шчэ галасьнейшы; Каб у міне такі голас быў. Такі галосны, што заслухаясься.* Грабава Зэльв.

*ГАЛУ'ЗА* м. і ж. Неахайны чалавек. *Малой гэтуй галузі адзежы ні набярэсса, за дзень пяць растопаў угвэдзая.* Стральцы Маст.

*ГА'ЛЬБА* ж. Пятля з лазовых дубцоў, якая злучае два бярвёны і папярочную жэрдку. *Кап пару лазовых дупцоў дзе выразаць, трэбо ж гальбу сьплесьці.* Агароднікі Лід.

*ГАЛЬДАДУ'-ГАЛЬДА'ДУ* выкл. Гоц-гоц! Пра воўка. *А той воўк гальдаду-гальдаду-гальдаду – пабех, так яго і бачылі.* Грабава Зэльв.

*ГАЛЬМАВА'ЦЬ* незак. Тармазіць. *Што там гальмуяш? Гары добро землю.* Лішкі Бераст.

*ГАЛЭ'ТА* ж. Гарэлка. *На вяселі галэгі наглышчуцца, тады дзюбаюць насамі ў талеркі.* Вензавец Дзятл.

*ГАЛЮ'НІКІ* мн. Галюцынацыі. *У цібе з галавой усё ў паратку, ці ўжэ галюнікі пачаліся?* Адэльск Гродз.

*ГАЛЯ'К* м. Брытва. *Нядаўна купіла мужыку новы галяк, алі ш дарагі.* Вераб'евічы Навагр.

*ГАЛЯНДЭ'РНЯ* ж. Месца, аддаленае ад вёскі. *Той дом спрадвеку на галяндэрні стаяў, далёка ад вёскі.* Купіск Навагр.

*ГАМАНІ'ЦЬ* незак. Замаўляць ад розных хваробаў. *Падыдзі да Мацевічавай бапкі. Яна, кажуць, добра можа гаманіць. Мо й табе паможа.* Моцевічы Лід.

*ГАМЗІ'ЦЬ* незак. Экспр. Паўтараць. *Паехаў, і ніхай едзя, а чаго ты ўсё гамзіш адно і тоё біс канца.* Канюхі Ваўк.

*ГАМША'Р* м. Выган, дзе пасуцца авечкі і козы. *Пайдзі, сынку, авечкі выгані на гамшар.* Руда Яварская Дзятл.

*ГА'НДЛЯ* ж. Статак. *Ганялі мы нашу гандлю кароў аж за тры кіламетры ад вёскі на пашу.* Уселюб Навагр.

*ГАНЖА'* ж. Гонта. *Ганжою крылі, тонкая даска захадзіла адна ў адну.* Масцішчы Навагр.

*ГА'НКАВІК* м. Балоцістая мясціна за вёскай. *Пасьля дажджу ні прайсьці ні праехаць праз гэты ганкавік. Па пояс вады стаіць, хоць ты разьдзявайся і плыві.* Шаўдзіні Лід.

*ГА'НЬБІСТЫ* прым. Ганарысты. *Ганьбіста гэта дзеўка, бяс фігі ні да носу.* Стральцы Маст.

*ГАПА'К* мн. м. Вялікі бот. *Уступіся ў якія-небудзь гапаке ды схадзі забяры газэты са скрынкі.* Купіск Навагр.

*ГАПАЦЬ* незак. Малаціць (цэпам). *Ты ўсё гапаяш цэпам, а пан табе адзін злоты толькі заплаціць.* Кашалёва Навагр.

*ГАПСАСА'* прысл. Хутка (ехаць, бегчы). *О, якi леткi ішчэ твой стары, гапсаса за каровамі бегая, як маладзян; От люблю гапсаса верхам на кані ехаць.* Старое Сяло Зэльв.

*ГАРА'* ж. Коптур. *І нашто было такую гару класьці, налажы як роўно зь берагамі – і будзя; Як ты прынёс! Поўно вядро з гарою, гаш пад восілко.* Крывічы Зэльв.

*ГА'РА* ж. Гар. *Прыгарэла зацерка, гараю аддае.* Грабава Зэльв.

*ГА'РАНІНА* ж. Тое, што і гара. *На пагарэлум быў, так ішчэ ўсё гаранінаю сьмярдзіць.* Старое Сяло Зэльв.

*ГАРБАВА'НКА* ж. Гафрыраваная спадніца. *Злажыла я гарбаванку і так яна прыстала да міне.* Пушчыкі Свісл. *Сёні купіла сабе новую гарбаванку.* Канюхі Ваўк.

*ГАРБАТУ'ХА* ж. Луг з нəроўнай паверхняй, купінамі. *Чалавек косіць на гарбатусе.* Масцішча Навагр.

*ГАРБУЛЯ'* ж. Гарбатая, гарбуха. *Калека наша Гандзя: гарбуля і на адну ногу кульгая. Хто яе замуж возьмя!* Дзярэчын Зэльв.

*ГАРДАВА'ЦЬ* незак. Паводзіць сябе ганарыста, упарціцца. *Ты так ужэ ні гардуй, пахрысьці майго ўнука.* Драчаны Свісл.

*ГАРЛА'Н* м. Збан. *Паўнюткі гарлан наліў.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ГАРЛА'ТЫ* прым. Крыклівы, гарласты. *Алі й гарлаты гэты певянь.* Бягені Ваўк.

*ГАРНІ'З* м. Карніз. *Харошы ў цябе гарніз, тулі таксамо файныя павесіла. Старое Сяло Зэльв.*

*ГАРНО'ТА* ж. Горыч. *Як усё хораша, дак вясяліцца добра, а як на сэрцы гарнота, дак не да вясельля.* Масцішча Навагр.

*ГАРША'К* м. Коршак, каршун. *Гаршак падлятаў да куранят, аля курыца расставіла крыла і як магла бараніла сваіх дзіцей.* Лойкі Гродз.

*ГАРЭ'ЛІКІ* мн. Кулін. Бульбяныя аладкі. *Смачныя гарэлікі сьпякла ўнучачка. Дзякуй!* Астравец.

*ГАТО'ЎЛЯ* ж. 1. Прыгатаванне як працэс. *Гатовіш-гатовіш, і ніхто ні бачыць твае гатоўлі, як ты працуяш. Крывічы Зэльв.* 2. Прыгатаванае. *Колькі тае гатоўлі змарнавалася, як вяселё было.* Крывічы Зэльв.

*ГАХО'ЎКА* ж. Засаўка. *Закрый гахоўку, а то ўсё цяпло с хаты на двор выйдзя.* Студзенікі Свісл.

*ГВА'РАК* м. Графскі працаўнік. *У тым бараку жылі ўсе гвараке графа.* Уселюб Навагр.

*ГВЭ́ЗАЦЬ* незак. Пэцкаць. Ні гвэзай у гэтых каётах, старайся пісаць добра. Галынка Ваўк.

*ГЕ́БАЦЦА* незак. Марудна выконваць якую-небудзь работу. *Доўго мы тут гебаямсё з гэтаю хатаю.* Пачарнейкі Свісл.

*ГЕ́НДЗІЦЦА* незак. Высілкоўвацца. *Гендзісься па хаці цалюткі дзень, а работы і ні відно.* Пачарнейкі Свісл.

*ГЕ́Р* м. Неадабр. Жыхар Літвы, літовец. *Апяць гэтых гераў панаехала, очарадзі ў магазынах.* Варняны Астр.

*ГЕ́РБІК* м. Цуглі ў выглядзе суцэльнай пласцінкі з рабрыстай паверхняй. *Як конь палахлівы, та яго гербікам цугляюць, тады спыніць ляхчэй, бо ў році рэжа.* Руда Яварская Дзятл.

*ГЕ́ЎГАЦЬ* незак. Канаць. *І хуткó, халера на яго, гэты шуляк задраў курыцу. Пакуль я дабегла, яна ужэ геўгая: усю голаў разьдзёў п.* Старое Сяло Зэльв.

*ГЖЭ́ЧНЫ* прым. Ветлівы, прыязны, выхаваны. *Гэту дзяўчыну ўсе любяць, натта ж гжэчная.* Кямелішкі Астр.

*ГІ́БНУЦЬ* зак. Выпіць. *Бацько ўжэ гібнуў дзесь добро.* Баяры Свісл.

*ГІЗАВА́ЦЬ* незак. Гуляць, гарэзнічаць (пра дзяцей). *Цалюткі дзень гізуюць гэтыя дзяціскі, німа ім работы.* Монькавічы Маст.

*ГІШЭ́ФТ*[1] м. Прыбыльная справа, выгадная здзелка, спекуляцыя. *Яна ні маіць ніякага гішэфту зь йім.* Старая Рудня Смарг.

*ГІШЭ́ФТ*[2] м. Сяброўства, дружба. *У іх гэдыкі гішэфт, што вадою ні разліць.* Дыхнавічы Ваўк.

*ГЛАВЕ́ЦЬ* незак. Хварэць. *Главела мая карова с тры месяцы ды й здохла.* Манчыцы Свісл

*ГЛЁ́ЎКІ* прым. Недапечаны, сыры (пра хлеб). *Учора хлеп прывозілі, але ш натто ўжо глёўкі быў.* Купіск Навагр.

*ГЛО́Д* м. Шыпшына. *Нешто ты кашляць пачала. Мо нанач глот заварыць – пап'еш?* Забагонне Зэльв.

*ГЛУЗДУ́Н* м. Чалавек, які недачувае. *Алі ш і глуздун зрабіўся, ужэ пяты рас кажу, а ён ні чуя.* Дзембрава Шчуч.

*ГЛУ́МНЫ* прым. Які прыносіць шкоду, страты. *Усе яблыкі пааптрасаліся, такі глумны вецяр наляцеў. Усей сат аптрэсяны.* Чэхі Астр.

*ГЛУХМА́Н* м. Экспр. Глухі чалавек, глушак, глушэц. *Ніц ні чуя глухман гэты.* Старое Сяло Зэльв.

*ГНАІ́СКО* м. Узмац. Гной. *Дзе табе ні балецімя сярэдзіна, гэдулькі гнаіска гэтаго папацягаў на воз да з воза.* Грабава Зэльв.

*ГНАЯФКА* ж. Аднаконны воз для перавозу гною. *Прывёз добру гнаяфку гною.* Лішкі Бераст.

*ГНЕ́ШКАВАЦЦА* незак. Заступацца за каго-н. *Чаго ён лес у гэту бойку? А табе трэ было не займацца за яго.* Кляваца Ашм.

*ГНУСЛІ́ВЫ* прым. Крыўдлівы. *Раней яна ні была такою гнусьліваю.* Грынкі Свісл.

*ГНЭ́МБІЦЬ* незак. Мучыць. *І за што ты гнэмбіш гэто дзіця?* Пагародна Воран.

*ГНЭ́ЦІЦЬ* незак. Глуміць, псаваць. *Ты ня гнэць так гэту хустку, бо другую няма за што купіць.* Варняны Астр.

*ГНЯЗДЗІ́ШЧА* н. Ток у печы. *Трэба прыгатаваць гнядзішчо, бо мама як прыдзя, то будзя булкі пячы.* Купіск Навагр.

*ГО́ЗДЗЯКА*[1] прысл. Хутка. *Пачакаймо ішчэ крышку, гозьдзяка нашы маладыя прыедуць з вянца.* Грабава Зэльв.

*ГО́ЗДЗЯКА*[2] часц. Вось. *Гозьдзяка тут быў калодзісь, кап каравэ ні ўлезьлі, засыпалі яго.* Грабава Зэльв.

*ГО́ЙШАЦЬ* незак. Марнаваць, не берагчы. *Зарас маладыя гойшаюць адзення, ні тоё, што мы некалі босыя хадзілі, у руках чаравікі насілі.* Вялікае Сяло Шчуч.

*ГО́ЛО* безас. Непахв. Не хапае, бракуе. *Што табе часу голо, што ты надрываясься, каб канешне сёніка кончыць?* Старое Сяло Зэльв.

*ГО́ЛАТ* м. Від зелля. *Увесь надворак голатам зарос, а яму, гэтаму завале, хоць бы што.* Брольнікі Навагр.

*ГО́ЛЬНУЦЬ* зак. Набіць. *От гольну, як ні будзяш вучыць урокі. Я пакажу, бондзіна!* Альхоўка Навагр.

*ГО́МЗАЦЬ* незак. Гаварыць невыразна. *Яны абоя гомзалі, а што – я нічога ні разабрала.* Вішнева Смарг.

*ГО́Н* м. Прылада ў выглядзе шаста, якой заганяюць рыбу ў невад. *Гон трэба новы зрабіць, бо той зачапіў за корч і паламаў.* Лагады Шчуч.

*ГО́РНА* прысл. Цяжка, пакутліва. *Горна жывецца Гэлі, нават вадэ німа каму падаць.* Біцеўцы Шчуч.

*ГО́ШКАЛКІ* мн. Арэлі. *Бацько на дубі новыя гошкалкі павесіў, то дзеці цалюткімі днямі там прападаюць. Забор'е Шчуч.*

*ГРАБА́РКА* ж. Матычка. *Трэба новую грабарку заказаць у кузні, пара бульбу грабаваць.* Антанёва Карэл.

*ГРАБЕ́ТАЛЬНІЦА* ж. Прыстасаванне для зграбання сена. *У калгасе грабетальніцамі сена грабуць.* Масцішча Навагр.

*ГРАБІ́НЕЦ* м. Конскае шчаўе. *Тато, нарвеце грабінца гоўцам.* Забагонне Зэльв.

*ГРА́ЙТ* м. Крык, гвалт. *Ну й падняла яна грайт, хай яе халера, такую бабу!* Куляшы Шчуч.

*ГРАМЗО́ЛА* м. і ж. Непахв. Брудна, неахайна апрануты чалавек. *У гэтай грамзолы вечно адзежа гразна. Яна ні зная нат, як трэ выбельваць.* Стральцы Маст.

*ГРАМО́ТКІ* мн. Раннія грыбы. *У маі месяцы ўжо грамоткі есьць, так што можня сьці ў лес.* Уселюб Навагр.

*ГРАНА́ТЫ* мн. Вышкі ў хляве. *На гранаты сено паклалі.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ГРА́НЁ* н. Ігранне. *Адно гранё на ўме, а да работы ні даклічашся! От абібок расьце.* Грабава Зэльв.

*ГРАНЭ́ТКІ* мн. Гатунак яблыкаў. *У дзедавым садзя гранэткі ёсьць. От смачныя!* Варняны Астр.

*ГРА́СКА* ж. Матыка для праполкі пераважна буракоў. *Дзісь дзялку й кончыла п, ды граска зламалася.* Лойкі Гродз.

*ГРО́МЗАЦЦА* незак. Скрэбціся. *Што там усё громзаяцца ў куце, можа мышы якія?* Берагоўцы Шчуч.

*ГРУ́БЫ (блін)* прым. Тоўсты бульбяны (блін). *Як малая была, дык па барознах самую вялікую бульбу хадзіла зьбірала, усё казала – на грубы блін. Натта любіла.* Косцевічы Астр.

*ГРУНТО́ВАЯ (зямля)* прым. Ворыўная (зямля). *Даўней надзелы былі з усякай зямлі: і лес, і балота, і санажаць, і грунтовая зямля.* Косцевічы Астр.

*ГРУ́ПКА* ж. Ляжанка каля печы. *Ні хочаш спаць на лаві, та лесь на групку.* Міроўшчына Дзятл.

*ГРЫБО́К* м. Лекавая таблетка. *Выпі ґрыбок, ні будзя галава балець.* Глушкі Свісл.

*ГРЫВО́* н. Вільчык. *Самы верх закрывіны на страсе завецца грыво.* Юшкавічы Свісл.

*ГРЫГА́ЎКА* ж. Мядзведка. *Тыля ўсяво ў гародзі пасадзіў, аля завялаcа грыгаўка, каб на яе халера, усё зьвяла.* Старая Руда Гродз.

*ГРЫМЗО́ЛІЦЬ* незак. Непахв. Пісаць каракулі. *Будзя табе грымзоліць тут. Пойдзяш у школу – навучысься правядно пісаць.* Савічы Зэльв.

*ГРЭ́БЗА* ж. Экспр. Нязграбная жанчына. *Ну і жонку ты знайшоў, ні тоё што мая грэбза.* Раневічы Свісл.

*ГРЭ́П* м. Бугор зямлі. *Ня лезь на грэп, а то звалісься пат халеру.* Харосіца Навагр.

*ГУЖЭ́ЛЬНЯ* ж. Будынак, прызначаны для вырабу гарэлкі. *Кароў сёння аж да гужэльні загналі.* Варняны Астр.

*ГУЗРЫК* м. Зневаж. Малы мужчына. *Як станя гузрык на палена, дык сьвіні па калена.* Пагарэлка Карэл.

*ГУ'ЛЬКА* ж. Валасы, закручаныя на патыліцы. *Во, якая ты сёння з гулькаю харошая.* Гарадзечна Навагр.

*ГУМО'ВІКІ* мн. Гумовыя боты. *У гэтых гумовіках і пазагумнамі пройдзяш.* Лаўна Маст.

*ГУ'ПКА* ж. Кола ў сноўніцы. *Колькі хочаш кругоў рабіць, столькі губак трэба.* Харосіца Навагр.

*ГУ'РЫЦЬ* зак. Падняць на «ўра». *Яго ўчора от гурылі за новыя порткі.* Коўкелі Іўеў.

*ГУ'СІ-ГУ'СІ!* Выгук, якім падклікаюць гусей. *Пайду гусей паклічу. Гось бягуць ужэ. Гусі-гусі. Мае мілянькія.* Крывічы Зэльв.

*ГУ'СКІ* мн. Здоба для частавання вясельнікаў. *А цяпер трэба ўсім гасьцям даць пакаштаваць гускі.* Каліноўская Свісл.

*ГЫ'ЦАЦЬ* незак. Хадзіць туды-сюды несупынна. *Дзе ш ён будзя ляжаць, гэтыя каравэ гыцаюць туды-сюды.* Хмяльніца Слонім.

*ГЭДЫКСА'МО* прысл. Таксама. *Я гэдыксамо думаю, як і ты.* Грабава Зэльв.

*ГЭ'МБА* ж. Рот. Уся гэмба нешта абалеўшы. Завельцы Астр.

*ГЭ'ТТА* прысл. Тут. *Гэтта гумно наша стаяла, а там хата была і хлявы.* Косцевічы Астр.

*ГЯРБА'Р* м. Той, хто вырабляе скуру, гарбар. *У Дзярэчыні жыў гарбар, то ўсе насілі аўчыны выраблядь да яго.* Грабава Зэльв.

*ГЯРЛЫ'ГА* ж. Скарга. *Хоць я пайду і сьвіней пасьці, але й аттуль дастану яго гярлыгай.*

# Д

*ДА* злуч. Ды. *Сьвеціць, да ні грэя твой месяц; Хоча ўстаць, да нох ні падымя, цяжкія сталі.* Грабава Зэльв.

*ДАБРО'ЧЫ* прым. Дыхтоўны. *Даброчы саснячок вырас, грыбоў много можно знайсьці.* Стральцы Маст.

*ДАВА'ЦЬ* безас. Смярдзець, аддаваць. *Дае смалянінаю ат паршуковага сьцягна; Мусіць, нешто гарэло, дае гаранінаю.* Старое Сяло Зэльв.

*ДАВЕ'ТРУ* прысл. Супраць ветру. *От цяжко даветру ісьці, просто з нох зьбівая; Падгору і даветру лепяй ні ехаць, а ў руках ровар вясьці.* Крывічы Зэльв.

*ДАГЛЯДА'ННІЦА* ж. Даглядчыца. *Трэба, кап хто за дагляданніцу быў: у хаці двоё хворых.* Грабава Зэльв.

*ДАДНЯ'* прысл. Надта рана, надосвітку. *Заўша дадня і пакорміш йіх, і ў школу выправіш; Дадня ўстаю кажны рас, каб зварыць есьці. Грабава Зэльв. Як дадня ўстаняш, та паробіш усё ў хаці і на падворку.* Хамічы Маст.

*ДАКЛЯРАВА'ЦЬ* зак. Параіць. *Ей дакляравалі на месцы сядзець, то рукі хутчэй адыдуць.* Пушчыкі Свісл.

*ДАКО'НАЦЬ* зак. *Пераканаць.* Даконала сваго, купіла-такі шкап. *Пачарнейкі Свісл.*

*ДАКУ'ТЛІВЫ* прым. Дакучлівы, які дакучае, назаляе. *Алі ш і дакутлівы ты, як дошч асенні.* Стральцы Маст.

*ДАЛАЖЫ'ЦЦА* зак. 1. Пільна ўзяцца. *Як даложыцца, то за гадзіну зробіць тоё, што за дзьве ні зробіш.* Крывічы Зэльв. 2. Непахв. Дапасці. *Усё выцухліў, як далажыўсё да збанка.* Крывічы Зэльв.

*ДАЛЕ'ТАШНІ* прым. Пазалеташні. *У міне яшчэ далеташні кроп е, мо даць табе.* Драчаны Свісл.

*ДАЛЕ'ШНІК* м. Сыр. *Німа лепшай яды за далешнік.* Кватары Бераст.

*ДАЛЬМА'НАМ* прысл. Наўгад. *А ты дальманам скажы яму.* Тупалы Карэл.

*ДАМА'ХА* ж. Той, хто застаецца ў хаце за гаспадыню. *Жонка мая паехала ў горат, я за дамаху астаўся.* Жукоўшчына Дзятл.

*ДАМЕ'НІК* м. Сыр з малака. *Німа лепшай закускі за хатні даменік.* Курчаўцы Бераст.

*ДАМІ'СКО* м. 1. Вялікі дом. *Пане мой, такі даміско адгакаў, як у горадзі!* Крывічы Зэльв. 2. Непахв. Дом. *І нашто мне гэты даміско! Што я ў ём жыць буду? Мне ў горадзі дадуць.* Крывічы Зэльв.

*ДАМЭ'НЧЫЦЬ* зак. Скончыць, дамучыць. *Хай яго халера, з гэтым лубінам: усей высыпаяцца, трашчыць, ледзьвя дамэнчылі яго.* Грабава Зэльв.

*ДАПЕ'ТРЫЦЬ* зак. Зразумець, дадумацца, даўмецца. *Ні магу ніяк дапетрыць, як гэту задачу малому рашыць.* Стральцы Маст.

*ДАПЛАЗАВА'ЦЦА* зак. Дабрацца да чаго-н. вельмі жаданага, патрэбнага, дарвацца. *Як даплазуяцца да цукерак, то ўсе зьядуць, хоць кілю. Такія яны йім смачныя.* Косцевічы Астр.

*ДАПЫ'ТЫ* мн. Першы этап сватання, калі малады просіць у дзяўчыны згоды на шлюб з ім. *На дапыты нікога ні клічуць, бо сваты мало нясуць гарэлкі.* Мінеўшчына Ваўк.

*ДАРЭ'СЦІЦЬ* зак. Разбурыць да канца. *І так раскіданы быў вос, а як узяліся гной вазіць – дарэсьцілі яго.* Грабава Зэльв.

*ДАСТАВА'ЦЦА* незак. Прыязджаць, адведваць. *Даставайціся да нас; У нядзелю ж дастаніся да Міхаліишкаў? Фэст будзіць, урачыстасьць вялікая ў касцеля.* Косцевічы Астр.

*ДАСЦІПА'ЛКА* ж. Указка. *Кап стаяў нат каркам з дасьціпалкай, та можа й вучыліся п.* Клешнякі Шчуч.

*ДАХАВА'ЦЦА* зак. Захавацца. *Гаш да восяні каўбасы дахаваліся, як вясною паршука закалолі.* Грабава Зэльв.

*ДАХАВА'ЦЬ* зак. Захаваць. *Умея чалавек дахаваць яблыкі да вялігдзяня! І ні гніюць у яго!* Грабава Зэльв.

*ДА'ЦЬ* зак. 1. Лінуць, сыпнуць (пра ападкі). *Мо с паўвоза, боляй ні наклалі сена. Яг даў дошч, то сьвету божаго ні відно было. А вада ракою цякла па балоці.* Крывічы Зэльв. 2. У прошл. часе звыч. у форме *дало*. Шмат нападало. *Нігды ішчэ гэдулькі сьнегу ні бачыў я. Од дало сьнегу, па пояс.* Крывічы Зэльв.

*ДВОХГО'ДАК* м. Жывёліна (конь, бык) двух гадоў. *Двохгодак, то ўжэ егдзяць на ём; Гэтаму быку два рокі, і той двохгодак тыж.* Грабава Зэльв.

*ДЖВЭ'НГАЦЬ*[1] незак. Балбатаць. *Да ночы джвэнгалі п, каб йіх на работу ні пагналі; Нешто джвэнгаяш ты бяс толку.* Старое Сяло Зэльв.

*ДЖВЭ'НГАЦЬ*[2] незак. Хадзіць, шукаць. *Джвэнгала па лесі, ні аднаго казяка ні найшла.* Пушчыкі Свісл.

*ДЖГІ'Р* м. Ёрш. *І ў нас у Нёмане джгірэ водзяцца.* Купіск Навагр.

*ДЖЫГАЦЕ'ЦЬ* незак. Пра гукі – шум трактара. *Трактар джыгаціць: недзе бліско гаруць.* Грабава Зэльв.

*ДЗЕРАСКАВА'ТЫ* прым. Шурпаты. *Як ні габляваў я тоё тапарышчо, усё чапляяцца, дзярэ за руку – дзераскавато.* Грабава Зэльв.

*ДЗІ'К* м. Дзікун, дзіклівы. *І што гэто за хлопяц! Такі дзік, што ў хату ні завядзеш – баіцца, дзічыцца і ўсё.* Грабава Зэльв.

*ДЗІСЕ'ЙШЫ* прым. Сённяшні. *Дзісейшы хлеп у магазын прывезьлі?* Лушчыкі Воран.

*ДЗІ'СЯЙКА* прысл. Сёння. *Я дзісяйка пяць палучыла.* Вішнеўка Бераст.

*ДЗІЦЮРНО'* м. Хлопец. *А наш Коля такі дзіцюрно вялікі, большы за бацька.* Дубраўшчына Дзятл.

*ДЗО'ГАЦЬ* незак. Скакаць. *Дзеці малыя дзогаюць на лошку гаш спружыны трашчаць.* Нагорнікі Дзятл.

*ДЗЫ'НКАЦЬ* незак. Звінець, дзвынкаць. *Нешто дзынкая ў вядрэ, мо капейкі якія; Пара, ўжэ званок дзынкая – клічуць у школу.* Грабава Зэльв.

*ДЗЮ'БА* ж. Назва стравы, якая складаецца з размочанай у малацэ булкі. *Дзіцятко, вазьмі малака ў бляханчыку, зрабі ты сабе дзюбы, ды паеш, покуль я блінцоў напяку.* Бярозаўка Лід.

*ДЗЮБА'Н* м. Кій. *Гэтым дзюбаном ніанну калейку ўжэ атпасьціў.* Стральцы Маст.

*ДЗЫГА'СТЫ* прым. Даўганогі, высокага росту. *Ні ў крыўду кажучы, алі ш і дзыгастая, што ні дай бох!* Пушчыкі Свісл.

*ДЗЫНГАВА'ЦЬ* незак. Ашчадна расходаваць. *Буду дзынгаваць канюшыну карові, хопіць да вясны.* Пушчыкі Свісл.

*ДЗЯ'БКА* ж. Матыка рыхліць глебу. *Трохі дзяпкаю падзябаю, каб мякчэйша зямля пат кальвамі капусты была.* Крывічы Зэльв.

*ДЗЯ'ЖЫЦЬ* незак. 1. Біць, лупцаваць. *Як стаў дзяжыць таго хлопца, то ні ведаў, дзе падзецца і енчыў немым голасам.* Грабава Зэльв. 2. Падаць, пляжыць. *От град дзяжыць, паб'е ўсе кальва гарбузоў нашых.* Грабава Зэльв.

*ДЗЯННІ'К* м. Загарадка ў хляве, дзе стаіць карова. *У добрага гаспадара і ў дзянніку чыста.* Варняны Астр.

*ДЗЯРЖУ'Н* м. Гадавалае дзіця, якое прывыкла ўвесь час быць на руках. *Ён у цібе добры дзяржун, усё на руках і на руках сядзіць.* Касцякі Слонім.

*ДЗЯРУ'ШКА* ж. Мачалка з дзеразы. *У лазьню ні забудзься дзярушку ўзяць. Бо ні будзіш мець чым шаравацца.* Косцевічы Астр.

*ДЗЯЎЧА'* н. Непахв. Дзяўчо. *От, неко дзяўча прышло і хоча вучыць цябе.* Крывічы Зэльв.

*ДНЁ'ЎКА* ж. Чарга пасвіць жывёлу на ўвесь дзень. *Узаўтра нам днёўка, трэба с кім мяняцца.* Замасцяны Шчуч.

*ДНЮ'ШКА* ж. 1. Падстаўка. *Патэльня гарача, пастаў на днюшку.* Ятвезь Свісл. 2. Дошка кухонная. *Хлеп рэш на днюшцы.* Ятвезь Свісл.

*ДО'РЖНІК* м. 1. Дрывотнік. *Нясі скоранько калотку, тую большу, што ў доржніку стаіць.* Вінькоўцы Лід. 2. Загародка для свіней. *Сьвіня жэртку ў доржніку выламалі й павылазілі.* Шчонава Карэл.

*ДО'СТУП* м. Рыдлёўка. *Тупым доступам яму ні выкапаяш.* Жукевічы Бераст.

*ДО'ЎБЯЛА* м. і ж. Абразл. Дурань, разумова абмежаваны, тупы чалавек. *То ш ужо гэты доўбяла нічога па-люцку ні зробіць.* Лылойці Смарг.

*ДРАБАВЫ'* прым. Кускавы. *Раней і соль драбавую прывозілі, а цяпер – толькі цукар.* Дабраволя Свісл.

*ДРАВА'РНЯ, ДРАВЕ'ЗЬНЯ, ДРЫВА'РКА* ж. Дрывотня. *Трэба пазносіць сухія дрова ў драварню, бо заліе дажджом; У дравезьню ні лезьця, дровы ўсе параскідаяця; Дровы пакідайця ў дрыварку, а што ні ўлезуць, кала хаты кладзіця.* Купіск Навагр.

*ДРА'ПКА* ж. Падстаўка для патэльні. *Падай ты мне тую драпку, што на сьцяне вісіць.* Старая Рудня Смарг.

*ДРАПКА'Ч* м. Ручнік. *Драпкач на сьцяне – вытрыся.* Коўкелі Іўеў.

*ДРАПУНЭ'* мн. Матыка з зубамі. *Я ўзяла драпунэ, паткапала імі трохі барозны, бо конь да плоту ні даходзіць.* Дзянісава Дзятл.

*ДРАПЧА'СТЫ* прым. З нягладкаю паверхняй, з ямачкамі. *Бляха гэта з ямачкамі, драпчастая, а тая глаткая.* Грабава Зэльв.

*ДРА'ПЧЫК* м. Сякач (ім здрабняюць свінням бульбу). *Прынясі мне драпчык, бо трэба пасекчы сьвіням бульбу.* Налібакі Навагр.

*ДРАЎНЯ'ЧКІ* мн. Скураныя жаночыя туфлі на драўлянай падэшве. *Сьвякруха мне такія здатныя драўнячке купіла, чыста скура. Баюса толькі, кап хоць малыя ні былі.* Вінькоўцы Лід.

*ДРАЧ* м. Блін з дранай бульбы. *Бывала, наядзёмся драчоў з бульбы і сытыя.* Ракаўцы Смарг.

*ДРАЧЫ'ЦЬ* незак. Казытаць (у носе). *Ішла кроў і запяклася ў носі, так і драчыць.* Валькевічы Зэльв.

*ДРО'НГЕЛЬ* м. Жэрдка прыцціскаць сена на возе. – *Вос натто высокі, па дарозі раскідаяцца. – Нічого, дронгелям прыцісну мацней.* Стокі Свісл.

*ДРО'ПАЦЬ* незак. Непахв. Араць. *Які зь яго гараньнік! От дропая трохо, як можа.* Савічы Зэльв.

*ДРО'ЦІК* м. Металічная шпілька для валасоў. *Прышпілі ты валасэ дроцікамі, лезуць жа ў вочы, а ты ні бачыш.* Філонаўцы Лід.

*ДРУГІ'* прым. Такі самы, аднолькавы. *І ён такі гультай, як яго бацько. Праўду людзі кажуць: гэты Сьцяпан – другі бацько.* Грабава Зэльв.

*ДРЫГАЛО* н. Той, хто дрыгае (нагамі, рукамі). *Ні данясе кубка з вадою, дрыгало гэто, разалье, так рукі дрыгаюць.* Крывічы Зэльв.

*ДРЭ'ЛІХ* м. Від тканіны, цік. *Набрала дрэліху, пашыю што хлопцу.* Грабава Зэльв.

*ДУ'БАР* м. Экспр. Холад. *На дварэ такі дубар, гаш страх нос высоўваць с хаты.* Казловічы Зэльв. *Ну й дубар. На двор ні выйсьці.* Вярэйкі Ваўк.

*ДУБАРЭ'ЧА* ж. Вялікі холад. *На вуліцы такая дубарэча, што німа як і носа высунуць.* Пруды Гродз.

*ДУБО'ВЫЯ* мн. Жонка свата і мужык свацці (на вяселлі). *Садзецяся ўсе за стол, дубовых ужо чакаць ні будзям.* Гарадзечна Навагр.

*ДУБНЯ'НКА* ж. Дуброва. *Хадзілі мы і ў дубнянку, але ніводнага грыба ні знашлі.* Селішча Навагр.

*ДУЛЯЯ'* ж. Адтуліна ў склепе. *У склепі дуляю трэба добро саломаю заткнуць.* Галынка Ваўк.

*ДУ'ШКІ* прым. Востры на язык. *Тая баба та на язык якая душкая была.* Шаляпкі Бераст.

*ДУШЫ'ЦЦА* незак. Экспр. Працаваць вельмі цяжка без адпачынку. *Сапруць усіх у адну брыгаду ды й душыся сабе дацямна.* Вішнева Смарг.

*ДЫГО'ЛЬ* м. Індык. *Дыголь сёлятні ўрэдны, як пятух, да вачэй скача.* Нацавічы Маст.

*ДЫ'МІКІ* мн. Шкло для лямпы. *Працерлі закопчаныя дымікі, і ў хаце аш стало сьвятлей.* Харосіца Навагр.

*ДЫМНІ'К* м. Комін. *Дымнік трэбо патправіць, разваліўсё зусім.* Сакольнікі Свісл.

*ДЫМЫ'* мн. Саматканы дыван, тканы ў чатыры ніты. *Гэты дыван тканы ў чатыры ніты, значыцца, нічальніцы. Яшчэ бабуля мая ткала. Дымы называецца.* Косцевічы Астр.

*ДЫ'НГУСЬ* м. Жарт. Цыбаты, высокі і тонкі. *Ішчэ пятнаццаці (гадоў) німа, а ўжэ які дынгусь вырас, роўны с тым даўгялём.* Грабава Зэльв.

*ДЭ'МБЯЛЬ* м. Пра высокага мужчыну. *Ну ты й вырас, Васіль, добры дэмбяль стаў.* Купіск Навагр.

*ДЭЖА'ЎНА* ж. Тое, чым накрываюць кошык. *Накрый кошык дэжаўнаю, а то грыбэ павывальваюцца.* Вераскава Навагр. *Е'ДЛО* н. Корм, ежа. *Кармушкі былі з едлам.* Церахавічы Свісл.

## Е

*Е'ЗДЗЯКА* незак. *Ёсць. І ў нашаго Хведара езьдзяка вос, можно ўзяць дроў прывясьці зь лесу.* Старое Сяло Зэльв.

*Е'ЧА* ж. Прага есці. *Німа ечы ў гэтае худое кабылы.* Грабава Зэльв.

# Ж

*ЖА'ЖЛІШЧА* н. Пажарышча. *Во якоя жажлішча кала лесу.* Лішкі Бераст.

*Ж'АЛАСЦІВЫ* прым. Жаласлівы. *Песьня тая натта жаласьцівая.* Засецце Дзятл.

*ЖАЛУБА'ЦЬ* незак. Есці патроху на працягу доўгага часу. *Жалубаіць цалы дзень хоць што, то гарох, то семячкі.* Вішнева Смарг.

*ЖАНО'ЗА* ж. Вяроўка. *Дзе ты паклаў жанозу, яна мне патрэбна венікі ўвязваць.* Вярэйкі Ваўк.

*ЖАНЦЫ'*, адз. *жнец.* Жнеі, жняцы. *Яг бало, то ўсё асаднікі жанцоў наймалі, каб ім жалі; Ужэ жанцэ на палудзень ідуць.* Крывічы Зэльв.

*ЖА'ПКІ,* адз. *жапка* ж. Металічныя планачкі, якія прымацоўваюцца пад абцасамі абутку для трываласці іх. *Каб апчасы ні так хутко зношваліся, падбіваям жапкі.* Валькевічы Зэльв.

*ЖАРГАНЭ'* мн. Тонкія галінкі, якія выкарыстоўваюцца для распалу печы. *Ідзі прынясі жарганоў, а то ніяк ні хоча гарэць у печы, здайся, і бумагі паклала.* Пераганцы Воран.

*ЖАРДЗЯ'НКА* ж. Кладка (з жардзіны) праз рэчку. *На сенакос напрастке ісьці можна, па жардзянцы рэчку перайсьці, там бліска.* Чырвоны Бор Дзятл.

*ЖАРО'НДАЛЬ, ЖЫРО'НДАЛЬ* м. Люстра. *Як толькі правялі сьвет, то й на вёскі пачалі купляць жарондлі і вешаць на лампкі.* Галынка Ваўк. *Што за харошы жырондаль у Германімскім касцёле! Вачэй не адвядзеш! Як так й падвесіць яго было!* Пераганцы Воран.

*ЖАРТУ'Н* м. Жартаўнік. *Наш сасет такі ўжэ жартун, як стрэнеш яго, то й рагочаш.* Жырмуны Воран.

*ЖАЎТАСО'Т* м. Асот. *Натта жаўтасотам бураке зарасьлі, усе рукі пакалола полючы.* Мыслова Слонім.

*ЖАЎТЛЯ'К* м. 1. Стары, насенны агурок. *Маладыя паўбірала гурке, адныя жаўтляке асталіся.* Старое Сяло Зэльв. 2. Хваравіты чалавек, з тварам жоўтага колеру. *Жаўтляк, тры чвэрці да сьмерці, а ён ішчэ пра дзяўке гаворыць.* Старое Сяло Зэльв.

*ЖАЧ* м. Серп. *Раней жыто толькі жачам жалі.* Уселюб Навагр.

*ЖВАРАНУ'ЦЬ* незак. Моцна стукнуць. *Я табе як жварану, дык і ляжаш снопам.* Брольнікі Навагр.

*ЖВІНДЛІВЫ* прым. Крыклівы, сварлівы. *Мая сусетка вельмі ш жвіндлівая.* Курчоўцы Бераст.

*ЖЛУ́МЦІЦЬ* незак. Непахв. Піць. *Як наеўса, та анно воду жлумціў.* Шаляпкі Бераст.

*ЖМУТ* м. Скнара. *Ну й жмут твой сусет. Зімой сьнегу ні выпрасіш.* Вішнева Смарг.

*ЖО́НДЗІЦЬ* незак. Кіраваць. *У нас у хаце жонка ўсім жондзіць, ратунку ад яе німа!* Свілы Воран.

*ЖУВА́ЦЬ* незак. Гаварыць адно і тое ж. *Надаела ты мне жуючы, жуеш і жуеш адно і тое.* Вялікае Сяло Шчуч.

*ЖУ́ЖЛІЦЬ* незак. Непахв. Есці. *Мачаха разам зь дзецьмі ні есьць, а схаваяцца й жужліць сабе што лепшае.* Пагародна Воран.

*ЖУ́ЛІК* м. Пляшка ёмістасцю 0,25 літра. *Пайшлі, Ваце, зробім па жуліку.* Дубаўцы Ваўк.

*ЖЫД* м. Верабей. *Бывало, як дасі курам есьці, та пазьлятаюцца гэтыя жыды, й німа на іх рады.* Дубаўцы Ваўк. *Глянь ты, колькі жыдоў паляцела, -- усе каноплі зьдзяўбуць.* Дзягаўцы Ашм.

*ЖЫ́ДКІ* прым. Які не мае сілы. *Таня ш тады яшчэ ні падавала сена, жыткая была, толька ў шосты клас хадзіла.* Косцевічы Астр.

*ЖЫЛЕ́ТКА* ж. Лязо (для галення). *Трэба новую жылетку купляць.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ЖЫ́ТНІЦА* ж. Ржышча. *Жытніца – гэта поле, дзе жыта сядзела.* Масцішча Навагр.

## З

*ЗА́БАРАНІ* мн. Вяроўкі ў лапцях. *Забарані ў лапцях тужэй падвяжы, каб ні аслаблі.* Мыслова Слонім.

*ЗА́БАХ* прысл. Добра што. *Забах хоць я ўчоры хлеба набрала больш, а то ні было п чаго гасьцям даць.* Залацеева Зэльв.

*ЗАБІ́ЦЦА* зак. Ударыцца, атрымаць знак ад удару. *Гэто яблыко забіласё, яно доўго ні ляжацімя, трэба зьзесьці.* Грабава Зэльв.

*ЗАБІ́ЦЬ* зак. Балюча ўдарыць. *Забіў пальца, натто баліць, гаш спух.* Грабава Зэльв.

*ЗАБЛАМБАВА́ЦЬ* зак. Запламбаваць. *Ужэ лепяй, як забламбавалі зубы, хоць трохі цьвярдзейшо патрэш зубамі.* Грабава Зэльв.

*ЗАБО́ЙНЯ* ж. Вялікая кадушка ці скрыня пудоў на 100. *У нас раней такая забойня была, у каморы ў куту стаяла.* Дзераўная Слонім.

*ЗАБРАШЧА́ЦЬ* зак. Забразгаць. *Дзе ты яго ўпоначы знойдзяш, злот гэты. Недзя пад лаваю забрашчаў. Мо дзе кала ношкі ляжыць схаваўшыся ад нас.* Старое Сяло Зэльв.

*ЗАБУРЭ́ЦЬ* зак. Перакіснуць, перастаяць. *Сьмятана ўжо зусім забурэла, трэба было зьесьці.* Трабы Іўеў.

*ЗАБУТАРА́ЖЫЦЦА* зак. Заблытацца. *Забутаражыласё ўсё ў галаве, нічого ні помню.* Пачарнейкі Свісл.

*ЗА́ВАРАТ* м. Непахв. Гультай. *От, заварат некі, нічога ні хоча рабіць.* Тупалы Карэл.

*ЗА́ВАРАТНЯ* ж. Прыстасаванне для прымацавання аглобляў у санях; заварацень. *Парвалася заваратня, і аглоблі атпалі ат саняў.* Старое Сяло Зэльв.

*ЗАВЕ́С* м. Завеса. *Завес трэба новы, бо гэты адламаўсё, і дзьверы спадаюць.* Грабава Зэльв.

*ЗАВЯДЗЁ́НЁ* н. Усталяваны парадак; завядзёнка. *Ужэ такоё завядзёнё у нас: першы рас прыходзіць да дзеўкі с кветкамі, а ні з гарэлкаю.* Грабава Зэльв.

*ЗАГАМАВА́ЦЬ* зак. 1. Затармазіць. *Ровар загамаваў, то ні ўехаў у яму.* Крывічы Зэльв. 2. Упасці, уткнуцца. *Бех-бех і загамаваў у сьнех галавою.* Крывічы Зэльв.

*ЗАГАНТАВА́НЫ* дзеепрым. Захаваны, дагледжаны. *Загантавана Пятроўна за мужыком, ціпер выглядая лепш за яго.* Пушчыкі Свісл.

*ЗАГА́ШНІК* м. Кут за печчу. *Усё ніпатрэбная кідаям у загашнік.* Курчоўцы Бераст.

*ЗАГІЛДА́* ж. Экпр. Нязграбная, неахайная жанчына. *Загілда гэта Верка, уся нека крывая, нізграбна, і адзецца ні ўмея.* Пачарнейкі Свісл.

*ЗАГНЭ́МБІЦЦА* зак. Неадабр. Заганарыцца. *Загнэмбілася нешта твая дачушка, ужо й ні гаворыць з маім хлопцам.* Астравец.

*ЗАГНЭ́ЧАНЫ* дзеепрым. Забруджаны. *І пінжак загнэчаны, і порткі. От жывадзёр!* Астравец.

*ЗАГРА́ДКА* ж. Паліца для посуду. *На заграцы стаяў збан з малаком.* Грынкі Свісл.

*ЗАГРЫПАВА́ЦЬ* зак. Пачаць хварэць на грып. *От ужэ як загрыпуя, то на цэлы тыдзянь; Нешто аслабеў, і кашляя. Відно, што загрыпаваў.* Валькевічы Зэльв.

*ЗАЙДЗЁ́ННІК* м. Плаксівае дзіця. *Аля й зайдзёнік твой хлопяц. Такіх шчэ пашукаць трэбо. Усё хныча і хныча.* Гуды Лід.

*ЗАЙМА́ЦЦА* незак. Заступацца за каго-н. *Чаго ён лес у гэту бойку? А табе трэ было не займацца за яго.* Кляўіца Ашм.

*ЗАКАРЧЫ́ЦЬ* зак. Закасаць. *Жаніх прыкінуўся хворым і кажыць: «Адно толька мяне адратуіць, каб хлебнага цеста заскарузлага на лакцях з'еў, так і вылячыўся я». А яна – мах, закарчыла рукаво, аддзёрла цеста з локця і даець яму. Так ён і паняў, што яна ніраха.* Косцевічы Астр.

*ЗАКІРО́ЧВАЦЬ* незак. Паварочваць. *Кап тады бліжэй было йсьці, мы й папрасілі шавёра закірочваць направа.* Жупраны Ашм.

*ЗАКУБРАВА́ЦЬ* зак. Заткнуць, закаркаваць. *Трэбо моцно закубраваць, каб заткало ні выляцяло з бачка, як умацуяцца піво.* Грабава Зэльв.

*ЗАКУ́РЧЫЦЦА* зак. Загнуцца. *Закурчылаcа хустка ў цібе.* Лішкі Бераст.

*ЗАЛА́ТВІЦЬ* зак. Уладзіць, вырашыць (якую-н. справу). -- *Ці залатвіла ш ты свае дзялы? -- А мая ты! Надаела ўжо язьдзіць. Перш паперы с сальсавету трэбавалі, а цяперака німа начальніка гэтага – у ватпуску.* Косцевічы Астр.

*ЗАМАЛЫ́М* прысл. Амаль што. *Плаваць добро ні ўмеў, то замалым ні ўтапіўсё ў том моры, як схадзілася бура.* Грабава Зэльв.

*ЗАМАНТО́ХАЦЦА* зак. Змарыцца. *Дзед Міхаль дужа замантохаўся, покі бег ад кузьні да сяла.* Юшкавічы Свісл.

*ЗАМУЗО́ЛІЦЬ* зак. Запэцкаць. *Замузоліла паліто, гаш блішчыць ад гразі.* Панікарты Дзятл.

*ЗАМЫ́ДЗГАНЫ* прым. Непахв. Брудны, заношаны. *А каўнер які замыдзганы! Мо таг рубашкі век ні мылі; Ужэ ні перадасі ношано, бо замыдзгано, ні схаваяш, відно ўсяроўно.* Грабава Зэльв.

*ЗАМЫ́ДЗГАЦЬ* зак. Занасіць, забрудзіць. *Замыдзгаў рубашку, што і ні адмыяш яе.* Крывічы Зэльв.

*ЗАНТУХАВА́ТЫ* прым. Нявытрыманы. *Такая сусетка ў міне зантухаватая, ладу зь ёй німа.* Шчонава Карэл.

*ЗАНУ́РТАВАЦЬ* зак. 1. Даць нырца. *Добры плывук зь яго: зануртаваў і доўго пад вадою быў.* Грабава Зэльв. 2. Упасці галавою ў снег. *Слабы, як п'яны. Ідзе, ідзе і зануртуя ў сьнех. Каб ні мы, замерз бы ў полі.* Грабава Зэльв.

*ЗАНЫ́КАЦЬ* зак. Не аддаць пазычанае. *Бандык заныкаў сетку. Німа чым рыбу лавіць.* Каралін Зэльв.

*ЗАНЭ́КАНЫ* прым. Худы, нядошлы, фізічна слабы хто-н. *Неко занэкано дзіця, хіба ўрода такая ці нідагледжана.* Путрышкі Гродз.

*ЗАПАЛАНІ́ЦЬ* зак. Напалохаць. *Кап цябе! Але ш ты мяне й запаланіў – лецъ сэрца не стала.* Клявіца Ашм.

*ЗАПАРКА́НІЦЬ* зак. Загарадзіць. *Вясною плот трэба запарканіць, бо каровы будуць лесьці.* Дзеракі Дзятл.

*ЗАПЕ́ЧНІК* м. Іран. Чалавек, які любіць ляжаць на печы. *Скажы тому запечніку, кап скапаў загон пат цыбулю, досыць яму на печы валяцца.* Накрышкі Дзятл.

*ЗАПО́НЧЫК* м. Фартух. *Ш чаго гэта ты такі файны запончык пашыла? Адзела во сабе наверх, і глядзі ўжэ ні абробісса.* Чахоўшчына Лід.

*ЗАПРАНДАВА́ЦЬ* зак. Выявіць. *Я запрандавала, што ўчора да нас хтосьці прыходзіў – сляды на сьнезе засталіся.* Курчоўцы Воран.

*ЗАПРА́ЎДЫ* прысл. Сапраўды. *Запраўды цяперака малыя добра помняць усё.* Завельцы Астр.

*ЗАПРЫТУШЫ́ЦЬ* зак. Засмуродзіць. *Ваксаю гэтаю запрытушыў хату, хоць вышаў бы на ганак боты чысьціць, га!; Як жылі мы бало? І куры ў хаці, і парасята малыя. Усю хату запрытушаць.* Грабава Зэльв.

*ЗАПУ́СТКА* ж. Закінутая дарога. *Цяпер ніхто ня езьдзіць па гэтай запусцы, а бывала, от кішэла тут людзей.* Баруны Ашм.

*ЗАРАНКА́ВАК* м. Вязаны манкет. *Я сабе зьвязала заранкаўкі.* Вярэйкі Ваўк.

*ЗАРУБА́Ч* м. Мяснік. *Зарубач з выгляду быў волат.* Вераб'евічы Навагр.

*ЗАРЭ́ЙДАЦЬ* зак. Прывесці ў парадак, прыбраць. *Ну, зарэйдала печ, да сьвята ўжэ гатова.* Нацавічы Маст.

*ЗАСЕ́ДЖАНІК* м. Заседжанае яйка. *Правер яйкі, кап заседжанікаў ні было.* Уселюб Навагр.

*ЗАСКЕ́ЛІЦЬ* зак. Прыплюшчыць. *Дзіця проці сонца заскеліло воко, каб убачыць, хто ш яго кліча дадому.* Ваўкавічы Навагр.

*ЗАСКРЫ́ПАЦЦА* зак. Стаміцца, змучыцца. *Я сёні заскрыпалася.* Пачарнейкі Свісл.

*ЗАСЛЁ́ЗНУЦЬ* зак. Наліцца слязьмі (пра вочы). *А мая ш ты дзяўчынка, што ж гэта твае вочкі засьлёзнулі, мо нештачкі хочаш?* Сонічы Гродз.

*ЗАСНІГЯРЭ́ЦЬ* зак. Змерзнуць. *Мабыць, ты зусім ужэ засьнігярэў!?* Асіпаўцы Воран.

*ЗАСТО'ЯЛКА* ж. Страва, прыгатаваная з бульбы і малака. *Учора зварыла застоялку, дык елі аш вушы трасьліся.* Праважа Воран.

*ЗА'СТУП* м. Лапата. *Пазыч заступа, трэба гарот капаць.* Клешнякі Шчуч.

*ЗА'СЦІЦЬ* незак. Перашкаджаць. *Ні трэба было засьціць, то даўно ўжэ ўсё зрабілі п.* Рыбакі Шчуч.

*ЗАТА'КРАК* прысл. Два гады таму. *Затакрак было болей вішняў.* Белякі Дзятл.

*ЗАТНУ'ЦЦА* зак. Заўпарціцца, закапрызіць, зацяцца. *Дзяўчук мая затнулася, ні с кім ні гаворыць.* Вялікае Сяло Шчуч. *Як ужо затнуўся, то не чакай, што скажа.* Ліпнішкі Іўеў.

*ЗАТО'РВАЦЬ* незак. Насыпаць зерне ў мяшкі. *Хадзі, ўжэ заторваць будзям.* Курчоўцы Бераст.

*ЗАТША'СКА* ж. Кнопка. *Затшаскі трэбо ў сукянке ўшыць, бо павырваліся.* Лойкі Гродз.

*ЗАТЫ'ЖЫЦЬ* зак. Некуды падзець, схаваць. *Куды ты затыжыў кнішкі? Цяпер во німа.* Праважа Воран.

*ЗАЎЗІМА'ЦЦА* незак. Заступацца. *Што ты за яго заўзімаясься? Сама ведаеш, што ён вінаваты.* Морына Іўеў.

*ЗАЎЧУ'Х* м. Прымак. *Колькі гадоў ён у яе так і жыве заўчухом.* Задвор'е Навагр.

*ЗАФЛЯНЦАВА'ЦЬ* зак. Пасадзіць пасынак. *Узяла ў Ніны пасынак, дый зафлянцавала.* Каралін Зэльв.

*ЗАФУРАВА'ЦЬ* зак. Заладаваць, загрузіць. *Зафураваў мех на спіну і ходу дадому.* Пушчыкі Свісл.

*ЗАХАДЗІ'ЦЬ* зак. Занервавацца, захвалявацца, замітусіцца. *Я ўсё ведаў пра яго. І як вылажыў яму перад усімі, от захадзіў ён тагды, як воўк у аблаві!* Грабава Зэльв.

*ЗАХАМРЫ'ЦЬ* зак. Завязаць неахайна, абы-як. *Захамрыла хустку як ні да людзей ідзеш.* Вішнева Смарг.

*ЗАХАХЛА'ЧЫЦЬ* зак. Неахайна завязаць (хустку). *Як ты хустку захахлачыла, хвастэ тырчаць.* Стральцы Маст.

*ЗАХЛЕ'БІЦЦА* зак. Пакрыцца пеляною хлеба (пра нож). *Сыры хлеб рэзаў –і нож захлебіўсё, трэ скрапці.* Дзярэчын Зэльв.

*ЗАХО'ЙДАНЫ* прым. Недагледжаны, слабы. *Калхоз гэты велькі, алі захойданы, трэбо добраго гаспадара.* Ліпнішкі Іўеў.

*ЗАЧЫ'НКА* ж. Прылада, якой зачыняюць што-н. *Гэдыкі холат, гаш прымярзаюць рукі да зачынкі.* Конна Зэльв.

*ЗАЧЭ'РПНІК* м. Апалонік. *Зачэрпнік унь за печай вісіць, паглянь лепяй.* Сянькоўшчына Слонім.

*ЗАШМА'РКА* ж. Завязка, шнурок, вяровачка і пад., якімі завязваюць што-н *Можа дваццаць зашмарак было, а як трэба дык ніводнай няма.* Вішнева Смарг.

*ЗАШТУЧЫ'НЕЦЬ* зак. Экспр. Змарнець. *Але ты то й заштучыняў – скура ды косьці. Хіба няеўшы ходзіш!* Кляўіца Ашм.

*ЗАШЧАРЭ'ПІЦЬ* зак. Многа ўзяць у жменю, прыгаршчы. *Я думаў, ён шчопці возьмя пакаштаваць, адно той як зашчарэпіць, то ўсё і забраў.* Старое Сяло Зэльв.

*ЗАШЧЫМІ'ЦЬ* зак. Заціснуць, зашчаміць. *Кулак зашчыміць, то дзе дзіця яго рашчыміць.* Грабава Зэльв.

*ЗАЮ'ХЛЕНЫ* прым. Брудны, запэцканы. *Віцё, на табе такая заюхляная рубашка, што страх пазіраць.* Купіск Навагр.

*ЗА'ЯДЗІ* мн. Балячкі па краях губаў. *Мусіць прастыла ўчора недзе, што сёня заядзі на губах паселі.* Касцяні Слонім.

*ЗБА'ВІЦЬ* зак. 1. Зрушыць. *От цяшкі камель, ледзьвя з месца збавілі, а на вос ні паднялі п, каб хлопцы ні памаглі.* Грабава Зэльв. 2. Падняць. *Гаш наверх збавілі той кругляк, хай там ляжыць: будзя прыціскаць гальё на возі.* Грабава Зэльв.

*ЗБАМБАВА'ЦЬ* зак. Непахв. Спухнуць. *Так збамбавало руку, што ні дамацацца касьці; Ні падняць нагі, такая тоўста стала, як збамбавало.* Крывічы Зэльв.

*ЗБАРУКА'ЦЬ* зак. Падняць, пакласці на воз. *От цяжкі камель той, ледзьвя збарукалі ўтрох на вос.* Старое Сяло Зэльв.

*ЗБА'СЛАВАЦЬ* зак. 1. Не даглядзець. *Збаслуй ты мне дзіця, то ні знаю, што с табою зраблю.* Косцевічы Астр. 2. Змарнаваць. *Ножык у грыбы ісьці дам, алі глядзіця, каб ні збаславалі дзе ў леся.* Косцевічы Астр.

*ЗБІРА'ННІК* м. Збіральнік. *Гэдулькі зьбіраннікаў, што дзе тых казякоў набрацца ў лесі.* Валькевічы Зэльв.

*ЗБІ'РКА* ж. Посуд для збору ягад. *Пакінула я ў лесі зьбірку сваю.* Муравана Бераст.

*ЗБО'ЙКА* ж. Маслабойка. *Замнога ў збойку сьмятаны наліто, празь верх цячэ.* Сапоцкін Гродз.

*ЗБРЫДЧА'ЦЬ* зак. Стаць непрыгожым, брыдкім, збрыдзіцца. *Як малая, от хароша дзеўчына была, а як падрасла – збрыдчала.* Грабава Зэльв.

*ЗБЯЁ'ДАЦЬ, ЗБЯЁ'НДАЦЬ* зак. Збаёдаць. *І дзе ты ўжо гэты кошык зьбяёдаў? Шукай цяпер.* Вугляны Смарг. *Куды ты ўжо свой хвартух збяёндала?* Хамічы Зэльв.

*ЗВАЙКАВА́ЦЬ* зак. Падгаварыць. *Дзяўчаты прышлі і звайкавалі ісьці разам.* Сураж Іўеў.

*ЗВАЛКАВА́ЦЬ* зак. Пабіць, адлупцаваць. *Звалкую зарас за тоя, што ні слухаяш.* Лішкі Бераст.

*ЗВАНА́Р* м. Цясл. Вострая сякера. *Як адолу [illegible] яго званара Проньцы, дык і лічы канцэ ў воду. Ціпер німа чым па дровы ў лес ехаць.* Леснікі Лід.

*ЗВАНЦЕ́БІЦЬ* зак. Прыбраць да рук, прысвоіць. *Званьцебіў маю куртку і маўчыць, думая, што так і трэба.* Каменка Гродз.

*ЗВІ́ХНІК* м. Чалавек, у якога вывіхнута нага. *Вельмі балела звіхніку, што нават бапка загаворвала яго нагу, каб тая скарэй паправілася.* Валеўка Навагр.

*ЗВОД* м. Той, хто зводзіць, падштурхоўвае на дрэннае. *Той алкаш як звод які, падгаворыць хлопцаў, саб'е с толку і нап'юцца з ім.* Накрышкі Дзятл.

*ЗВО́СЯНІ* прысл. З наступленнем восені, у пачатку восені. *Звосяні як лёх у бальніцу, так да сярэдзіны зімы ляжаў.* Старое Сяло Зэльв.

*ЗВЯНГЛІ́ВЫ* прым. Сварлівы, задзірысты. *О, яна зьвяглівa, нікому ні спусьціць.* Пушчыкі Свісл.

*ЗГАЛЕ́ЦЬ* зак. Непахв. Не хапіць, забракаваць. *Што табе, часу згалело, што ў сьвято шыяш, га? І ў нас ні згалело тых яблыкаў, што ты ішчэ да другіх у сат лазіш, раскол ты!* Старое Сяло Зэльв.

*ЗГАНО́ДАЦЬ* зак. Змарнаваць. *Ты толькі і глядзіш, кап усё у хаці зганодаць.* Ліпнішкі Іўеў.

*ЗГАРГАЛЕ́ЦЬ, ЗГІ́РГЯНЕ́ЦЬ* зак. Змерзнуць. *Алі ш згаргалела стоячы на астаноўцы, такі марос узяўся пад вечар.* Галасавічы Шчуч. *Такі холад, покуль дайшлі, то моцно згіргянелі.* Луцкаўляны Гродз. *Юрак, пакуль прышоў з лесу, згіргянеў зусім, такі марос велькі.* Лазы Ваўк.

*ЗГАРДАБУ́ЛІЦЬ* зак. Зрабіць, змайстраваць на хуткую руку. *Ось згардабуліў вам, цёцё, катух для курэй.* Пачарнейкі Свісл.

*ЗГА́ТШЫЦЬ* зак. *Знішчыць. Яшчэ адну сікеру згатшыў, дзе ціпер нову ўзяць.* Сялявічы Слонім.

*ЗГЕЛТАВА́ЦЬ* зак. Зразумець, асэнсаваць, дадумацца. *Памажы ёй, сама яна ні згялтуя, як зрабіць.* Біцеўцы Шчуч.

*ЗГРА́ЗАЦЬ* зак. Забрудзіць, спэцкаць. *Здайся, даўно мыла падлогу, а ўжо згразалі. Ці ты мый, ці не – адзін толк.* Косцевічы Астр.

*ЗГРАЙСАВА́ЦЬ* зак. Здратаваць, стаптаць, скамечыць. *Усю пасьцель зграйсаваў зь дзеўкаю.* Мяжырычы Зэльв.

*ЗГРЫ́ЖА* ж. Сварка, лаянка. *Было ўсё ціхо, а як узяў гэту халеру, то пачалася ў хаці згрыжа.* Куляшы Шчуч.

*ЗГРЫ́ЗЦІСЯ* зак. Змучыцца, зведаць вялікія перажыванні. *Згрызлася толька ў чарзе, столька выстаяўшы.* Астравец. *Яна так згрышшыся, такоя беднай бабе перажываня, высахла ўся.* Косцевічы Астр.

*ЗГРЭ́ТАШЫЦЬ* зак. Здратаваць. *Я ш старалася, столькі сілы паклала на тых градах, а ён усё згрэташыў.* Хрустава Свісл.

*ЗДЗЁР* м. Тлушч з нутранога сала. *Добра сьвіня была, вядро здзёру натапіла.* Лаўрынавічы Свісл.

*ЗЕ́ЛЬЁ* н. 1. Пустазелле. *Ні ў пору сталі палоць, то зельё заглушыла ўсе бураке.* Крывічы Зэльв. 2. Зёлкі. *Парашкоў старая ніякіх ні п'е, усё зельям лечыцца.* Крывічы Зэльв.

*ЗЕ́ЛЬНІЦА* ж. Свята, якое адзначаецца пятнаццатага жніўня. Прачыстая. *Зельніца натта ш вялікае сьвята, яно перад Спасам, сярэдзінай аўгуста яго сьвяткуюць.* Баруны Ашм.

*ЗЕЛЯНІ́ЦЬ* незак. Зелянецца. *Ужэ жыто пасходзіло і падрасла рунь, зеляніць здалёк; На грудзе ўся трава высахла, а дзе ніжай – ішчэ зеляніць.* Крывічы Зэльв.

*ЗЕ́НЬКІ* мн. Экспр. Вочы. *Ні ўспеў зенькі пралупіць, а ўжэ да столу лезяш.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*ЗЁ́МП* м. Плынь паветра. *Тылько аччыніш дзьверы, так і дасьць зёмп халонны.* Вішнеўка Бераст.

*ЗДАЛІ́ЦЦА* зак. Здоўжыцца (пра адлегласць). *Ох ы здалілася дарога дадому.* Дубаўцы Ваўк.

*ЗДА́ТНЫ* прым. Прыгожы. *Свэтар такі здатны сабе зьвязала, лепшы за куплёны.* Рагозніца Маст.

*ЗДАТЫНАВА́ЦЦА* зак. Засаромецца. *Ён пачырванеў, здатынаваўся, і крычаць на яго ні было як.* Драгуці Воран.

*ЗДА́ЦЦА* зак. Ударыцца, стукнуцца аб што-н. *Нага ў калені баліць, як здаўсё каленам ап камянь, падаючы з ровара.* Старое Сяло Зэльв.

*ЗДЗЯРБАНІ́ЦЬ* зак. Неакуратна скасіць. *Паслаў сына касіць дзялку, дак той так здзярбаніў яе, што ні пазнаяш, дзе кошано, а дзе не.* Кашалёва Навагр.

*ЗДРЫ́НДЗЕЦЦА* зак. Памерці. *Ён быў зусім хваруткі, пажыў крыху, а потым узяў і здрыньдзеўся.* Вярэйкі Ваўк.

*ЗДУДУ́ЛІЦЦА* зак. Моцна змёрзшы, знерухомець. *Чаго здудуліліся, скарэй ускоквайце ў хату.* Сурынка Слонім.

*ЗДЫ'РБІЦЦА* зак. Памерці. *Так спалохаўся, што чуць ні здырбіўся ат страху.* Тужаўляны Гродз.

*ЗЕ'НЬКАЦЬ* незак. Груб. Глядзець. *Чаго зенькаяш? Рабіць трэ хуччэй.* Правыя Масты Маст.

*ЗЖАБУРЭ'ЛЫ* прым. Перакіслы. *Ні пі ты, дзетка, гэтая малако. Яно ўжэ жжабурэло. Мо, атстоіцца, то сыр зробім.* Бярозаўка Лід.

*ЗЗЯ'ДУХА* м. і ж. Чалавек, схільны да сваркі, які заядаецца з іншымі. *Сьвякруха нека зьзядуха, усю пору ёй нешто ні так.* Рыбакі Шчуч.

*ЗЛАДЗЕ'ІЦЬ* незак. Рабіць, лічыць (каго) злодзеям. *Што ты міне зладзеіш, я нігды ні ў кого ні краў!* Грабава Зэльв.

*ЗЛАЦЕ'МЛІВА* прысл. Сярдзіта, са злосцю. *Злацемліва пазіралі суседзі, як маю дачку зьнялі з магазіна, думалі, што яна там нажылася. Прывалка Гродз.*

*ЗМАЛЕ'НЬКАГО* прысл. Змалку. *Ён і змаленькаго гэдыкі здыхляк, адно ўсё хварэя.* Старое Сяло Зэльв.

*ЗЛУ'ПКА* ж. Лубянка. *Узяла злупку зярно насыпаць.* Малі Астр.

*ЗМАЛЯВА'ЦЬ* зак. Надзьмуць. *Чаго ты губы змаляваў, што табе ні наравіцца?* Белалозы Дзятл.

*ЗМЫ'ВАК* м. Ануча для мыцця посуду. *Недзе змывак заваліўся, няма чым посуд памыць.* Альхоўка Навагр.

*ЗМЫ'ДЛІК* м. Змылак. *Мыла трэбо купіць, бо ўжэ тылько змыдлік застаўся.* Чарлёнка Маст.

*ЗМЭ'НЦІЦЬ* зак. Іран. З'есці. *А казаў, што есьці ні хочаш, а то ш глядзі, змэнціў усё.* Каліноўская Свісл.

*ЗМЭ'РТАЦЦА* зак. Разбэсціцца, выйсці з-пад кантролю. *Саўсім змэртаўся наш Стась, начаваць нат ні йдзе дахат.* Хамічы Маст.

*ЗМЯРГАВА'ЦЦА* зак. Іран. Дамовіцца. *Ні зьмяргаваліся яны-такі.* Тупалы Карэл.

*ЗНЕ'ХТАВАЦЬ* зак. Прынізіць. *Знехтавала яго зусім.* Міратычы Карэл.

*ЗНІБЕ'ЦЬ* незак. Балець (не моцна, але надакучліва). *Зубы ў міне нешта знібяць, можа ўчора ў ногі змёрс.* Мыслова Слонім.

*ЗНОЎ* пабоч. Да таго ж. *Хворы я ці здаровы – што табе. Ты, зноў, ні дохтар, ні вылячыш; Я ні паеду туды. Ты, зноў, ужэ быў там.* Старое Сяло Зэльв.

*ЗНЮ'ШЧЫЦЦА* зак. Скруціцца ў клубок (пра сабаку). *Як холад на дварэ, дак сабака знюшчыцца каля віранды і ляжыць.* Уселюб Навагр.

*ЗНЯБО́ЖЫЦЦА* зак. Знясіліцца. *Нешта ты, Ганка, зьнябожылася, чуць іозеш.* Панарка Смарг.

*ЗНЯХА́ЯЦЬ* зак. Зганіць, абгаварыць каго-н. *Зусім зьняхаялі дзеўку. Ціпер баіцца бедна вачэй падняць.* Ганчары Лід.

*ЗО́ДА* ж. Пральны парашок. *Пяць пачкаў купіла зоды, хай будзя ў запасі.* Лаўрынавічы Свісл.

*ЗРАМНІ́НА* ж. Палатняная прасціна. *Шчэ й ціперака пара зрамнін маю.* Уселюб Навагр.

*ЗРАСТУ́ХА* ж. 1. Месца перасячэння дарог. *Як узьехала я ў зрастуху, дык і стала – ня ведаю, куды далей: прама ці ўправа.* Баруны Ашм. 2. Жыццёвае раздарожжа. *У дзявоцтве стаяла я на зрастусі, ні знала, чым займацца.* Баруны Ашм.

*ЗРАЧЭ́НЯЦ* м. Чалавек, які можа сурочыць. *Ні паказвай яму сваё дзіця, а кажуць, шо ён зрачэняц.* Брольнікі Навагр.

*ЗУ́БЫ* мн. Сельскагаспадарчая прылада, матычка. *Німа часу стаяць, трэба браць зубы ды йсьці ў агарот.* Вострава Слонім.

*ЗУДЛІ́ВЫ* прым. Надакучлівы, бурклівы. *Зудзіць кожны дзень, такі ўжо зудлівы чалавек.* Ліпнішкі Іўеў.

*ЗЫ́БІЦЦА* незак. Глядзець на каго-н. з павышанай цікавасцю. *Чаго ён так зыбіцца на міне, мо нешта ўгледзець хоча.* Сянькоўшчына Слонім.

*ЗЫ́РАВАТА* прысл. Холадна, сыра. *Адзявайся цяплей, бо раніцай яшчэ зыравата.* Хадзяўляны Дзятл.

*ЗЫ́РКІ* прым. Гарачы, страсны, палкі хто-н. *Мой бацько зыркі да працы.* Савічы Шчуч.

*ЗЫЧЛІ́ВА* прысл. Шчасліва, удала, добра. *З Богам, сваточкі! Зычліва вам даехаць!* Ст. Гудагай Астр.

*ЗЭ́ЛЬНІК* м. Зэдлік. *Старому чалавеку добро сядзець на зэльніку каля печы.* Галынка Ваўк.

*ЗЭ́ШЫТ* м. Сшытак. *Зноў пачала новы зэшыт! На цібе й ні набярэсься йіх.* Пагароднa Воран.

*З'Я́ДУХА* ж. Непахв. Сварлівая жанчына. *Ні руш гэту з'ядуху, тылько лялясаць потым будзя.* Стральцы Маст.

*ЗЯЗЮ́ЛЬКА* ж. Курыца шэрага колеру. *Сваіх курэй я ўсюды пазнаю. Дзьве белыя, дзьве чорныя і дзьве зязюлькі.* Пераганцы Воран.

*ЗЯМНЯ́* ж. Зямля. *У нас зямня ні так родзіць, як у вашум калхозі; Лесь на земню, там ношкамі хадзіцімяш, не меў ты рукі мне, старому, выкручваць.* Старое Сяло Зэльв.

# І

*ІГРА́ННІК, ІГРА́Ч* м. Той, хто іграе, музыкант. *Малы ішчэ хлопяц. Што вы зь яго хочаця, каб добры іграннік быў вам?* Грабава Зэльв. *Прышоў ішчэ адзін іграч. Раздавай карты.* Грабава Зэльв.

*ІЗДА́ЦЦА* зак. Набыць худы, змарнелы выгляд. *За гэты гот стары натта іздаўся, худы стаў гаш страшно глядзець.* Драпава Зэльв.

*ІЛ* м. Прагорклае, ёлкае сала. *Стары ўжо гэты іл і нісмачны.* Лылойці Смарг.

*ІНЦЫ́ПАР* м. Чорт. *Чаго ён носіцца, як інцыпар той?* Галімшчына Іўеў.

*І́СКВА* ж. Аса. *Ісква як укусіць, то ні тоя, што пшчала. У нашай старой ігрушы былі завёўшыся ў дупле, то я знаю.* Косцевічы Астр.

# К

*КАБЯ́ЛАК* м. Скрутак (ваты). *У аптэцы нек дастала кабялак ваты.* Савічы Зэльв.

*КАБЯ́ЛЬНІЦА, КАБЯ́ЛКА* ж. Жанчына, якая варожыць на картах. *У суседняй вёсцы есьць кабяльніца, так ўсю праўду скажа.* Ваўковічы Навагр. *Наслухаясься гэтых кабялкаў, дак жыць ні захочаш.* Роскаш Навагр.

*КАВА́НКА* ж. Кій, кавенька. *Ён бес каванкі ні мох шагу ступіць.* Роскаш Навагр.

*КАВЕ́НЧЫЦЦА* незак. Мучыцца, пакутаваць. *Кавенчылася цётка перат сьмерцю нядоўга.* Зачэпічы Шчуч.

*КАВЁЛЫ* мн. Мыліцы. *Кап ты век хадзіў на кавёлах.* Старая Рудня Смарг.

*КАВІ́ЛКА* ж. Прылада для вымярэння плошчы. *Кавілка зламалася, і брыгадзір не змог перамераць соткі.* Налібакі Навагр.

*КАВЯЛА́* ж. Іран. Кульгавая жанчына. *Нейкая ш кавяла па дарозя йдзець.* Старая Рудня Смарг.

*КАДАЎБЕ́Ц* м. Шпакоўня. *У новым кадаўбцы ўжо шпакі жывуць.* Вілейшы Свісл.

*КАДЛУ́БАК* м. Бочачка для захоўвання сала. *Паставілі на вышках дубовы кадлубак.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*КАЗДОРА* ж. Кураслеп. *Сёлета натто рано каздоры распусьціліся ў лесе.* Генюшы Навагр.

*КАЗЕ́ДРЫКІ* мн. Падбярозавікі. *Казедрыкаў набрала адных, от суп будзя смашны.* Чарлёнка Маст.

*КАЗЕ́РЫЦЦА* незак. Задавацца. *Канчай казерыцца! Ўсе мы знаям, які ты!* Тракелі Воран.

*КАЗЁ́НКА* ж. Казённая сякера. *Дзед узяў казёнку і пайшоў у лес.* Востухава Карэл.

*КАЗЛЫ́* мн. Ткац. Прыстасаванне, на якім развіваюць ніткі. *Казлы – ніці на іх разьвівалі.* Масцішча Навагр.

*КАЗЮ́РА* ж. 1. Казяўка, кузурка. *Ні тапчы жука, хай паўзець. Усякая казюра, дзеткі, хочыць жыць.* Косцевічы Астр. 2. Чалавек з нікчэмнымі магчымасцямі. *Ён у гэтай справе казюра, тут не для яго дзяла.* Косцевічы Астр.

*КАЗЯНЯ́* н. Казляня. *У нашае казы адно казяня нарадзіласё, больш ні прывяла.* Грабава Зэльв.

*КАЛАБЫ́* мн. Бліны. *Напякла калабоў, паела й пашла на работу.* Старая Дубавая Гродз.

*КАЛАНА́ТЫ* прым. Каляны. *Алі ш і выкупіла ты сабе мацір'ял – каланаты нейкі, абдзёрціся можна. Будзіць табе мода.* Косцевічы Астр.

*КАЛАСАВІ́К* м. Дождж, які ідзе ў час, калі калосіцца жыта. *Пайшоў каласавік – жыта забуяя.* Нача Воран.

*КАЛБАТУ́ХА* ж. Яечня з разбоўтаных яек, у якую дабаўлены мука і малако. *Ай, смачна калбатуха, мусі, много яяк убіла?* Моцеўцы Шчуч.

*КАЛБУ́ЧЫЦЦА* незак. Зніж. Бурчаць (у жываце). *Бывало, пойдзяш на работу ні еўшы, а пасьля так ужо ш у жываце калбучыцца, хоць уцякай на гуліцу, каб людзі ні чулі.* Леснікі Лід.

*КАЛІВА́РА* ж. Могілкі. *Людцы, чулі, каліварy нашу трахтарамі хочуць зраўняць!* Раневічы Свісл.

*КАЛМА́Ч* м. Непахв. Калматы. *Ужэ мо з гот ні стрыжэцца калмач гэты. Зарос, як у папа косы; От калмач гэты твой сабака. Можно шэрсьць стрыхчы.* Валькевічы Зэльв.

*КАЛМЫ́ГА* м. і ж. Экспр. Неахайны чалавек. *От калмыга, нават ні адзеняцца чысьцей.* Вішнеўка Бераст.

*КАЛО́КВІНА* ж. Чаромха. *Налaмі калоквіны, пастаў у букет.* Кватары Бераст.

*КАЛО́ТКА* ж. Замок. *Нашто на гэтыя дзьверы калотку вешаць?* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*КАЛПЕ́КША* м. і ж. Экспр. Неахайны, неакуратны чалавек. *Трэбо вымыць хоць калпекшу гэту малую, й тады пойдзямо.* Вялікія Азёркі Маст.

*КА'ЛУШ* м. Асудж. Гультай. *Ляжыць цэлы дзень у лошку, калуш гэты, нічагутко рабіць ні хоча. Пра такіх кажуць: ляжыць, як бык, бо ён так прывык.* Вялікія Азёркі Маст.

*КАЛХІ'ДА* ж. Абразл. Высокая і тоўстая жанчына. *Ну, калхіда, пачакай, наясіся ты зарас.* Труханавічы Дзятл.

*КА'ЛЬВІНА* ж. Каліва. *Ось паглянь якая кальвіна, уся ў малінах, аш чырвона ў вачах.* Руда Яварская Дзятл.

*КАЛЬТЭ'ЛЯ* ж. Калыска, якая падвешвалася да столі. *Дзеці спалі ў кальтэлі, якую сплялі з лазы.* Балотца Навагр.

*КАЛЮ'ЖЫЦЬ* зак. Падаць, утвараючы лужы, бруд на вуліцы (пра дождж). *Гэты дошч усё калюжыць і калюжыць, па дарозі ні прайсьці.* Свіслач Гродз.

*КАЛЭ'МША* м. і ж. Жарт.-іран. Неакуратна апрануты чалавек. *Адзеньса акуратней, калэмша ты, да людзей ш ідзеш.* Монькавічы Маст.

*КАЛЯЖА'НКА, КУЛЯЖА'НКА* ж. Сяброўка, супрацоўніца, калега. *Да мяне сёня мае прыйсьці каляжанка мая.* Кямелішкі Астр. *Яна мая куляжанка. Некалі дзяўкавалі разам.* Косцевічы Астр. *Гэлю ведаю даўно, каляжанкамі калісь былі, па танцах разам хадзілі.* Стральцы Маст.

*КАЛЯШО'ЎКІ* мн. Галошы. *Балото на дварэ, а я каляшоўкі знасіла саўсем.* Уселюб Навагр.

*КАМЕ'НЬЧЫК* м. Невялікі чыгунчык з ручкай збоку. *Дастаньця с печы каменьчык дэй скоранько атцэджвайця ўжэ бульбу! Хопіць ёй варыцца.* Вольжава Лід.

*КАМІНА'РУС* м. Той, хто чысціць каміны, камінар. *Ну й вымазаўсо ты, чорны, як камінарус.* Рэпля Ваўк.

*КАМЯРО'ЎКА* ж. Каляровая спадніца. *Камяроўкі фарбавалі, шылі с купленага мацяр'ялу.* Тарасаўшчына Навагр.

*КАМАНДУ'ЛІ* мн. Дзве палкі, прымацаваныя ззаду сучкі для кіравання ёю. *Камандулі зь бярэзіны рабіліся, мацаваліся да капылоў, імі кіравалі сучкаю.* Руда Яварская Дзятл.

*КАМУ'Х* м. Ком зямлі. *Вазьмі камух і шыбані ў курыцу, а то ўсе грады павыдзіраіць.* Косцевічы Астр.

*КАНАЁ'НЦЫ* прым. Моцна хворы. *Вэрця ляжала была канаёнца, аля травамі адлячылі, й ходзіць ужэ.* Стральцы Маст.

*КАНАПЛЯ'НЁ* н. Поле, на якім раслі каноплі, канапляні́шча. *Па канапляні бураке пасадзілі; Канаплянё згаралі, а каноплі сеяць тут больш ні будзям, а на другом месцы.* Старое Сяло Зэльв.

*КАНАЎКА* ж. Невысокая бочка. *Гурке засалі ў канаўцы.* Цецяроўка Бераст

*КАНДЖУК* м. Чарот. *Летам у нас як панарасьце канджуку, та рэкі за імі ні відаць.* Старая Руда Гродз.

*КАНДЭТНАЯ* прым. Шчаслівая. *Ляжу я кандэтная, бо сын ля міне пасопвая.* Пушчыкі Свісл.

*КАНІСКО* м. 1. Вялікі конь. *Такі каніско, то дзе ты яму хамута дабярэсься.* Грабава Зэльв. 2. Непахв. Конь. *Ні зь месца вос, хоць ты забі гэтаго каніска.* Грабава Зэльв. 3. Непахв. Пра чалавека здаровага, але гультаяватага. *От каніско, адно па сяле бегая, а работы зь яго німа.* Грабава Зэльв.

*КАНОПНІНА* ж. Ільняная тканіна. *Добрая сукенка с канопніны.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*КАНЧАТКІ* мн. Гасцяванне, частаванне, калі даядаецца і дапіваецца тое, што засталося ад папярэдняга вялікага балю. *Стары, хадзем на канчаткі.* Пачарнейкі Свісл.

*КАПАНІКІ* мн. Саджанцы. *Трэба ўзяць капанікі і завясьці да дачкі. Яна прасіла, каб у садзе панасаджваць.* Астравец.

*КАПАЧЫ* мн. Іран. Ногі. *Чаго сядзіш як пан? Адымі капачы свае, дай прайсьці.* Азярніца Слонім.

*КАПЕЛЮХ* м. Гумар. Капялюш. *Здымі хоць свой капелюх, ты ж можа ні ў гумне, а ў хаці; Малы ішчэ, малакасос, а ўжэ капелюх насадзіў, і што-то я!* Грабава Зэльв.

*КАПУСТА* ж. У час вяселля выкананне музыкамі песняў за грошы вясельнікаў па іх заяўках. *Грошы за капусту на карысць маладых ідуць.* Касцяні Слонім.

*КАПУЦІ* мн. Лёгкія сандалі. *Наш Ігнась сёніка ўжэ ў новых капуцях ходзіць.* Забагонне Зэльв.

*КАПУЦЫ* прым. Здаровы, таўставаты, няўклюдны чалавек. *Той капуцы, з Гуменік, як уваліць, дык бедны трахтарыст гаш ногі задраў.* Сурынка Слонім.

*КАПЦЁРКА* ж. Самаробная лямпа. *Трэ капцёрку запаліць.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*КАПЫШКАЦЦА* незак. Корпацца, рабіць што-н. марудна, капашыцца. *Спраўная баба, усюды подбегам, усё ў яе руках гарыць, куды ні глянь – парадак. А то другая капышкаіцца цалы дзень, а знаку німа.* Косцевічы Астр.

*КАПЯШКА* ж. Капа. *Сена таго засталося прывясьці дзьве капяшкі, а яна ўсё бядуіць.* Косцевічы Астр.

*КАРАГО'ДЗІЦЦА* незак. Скардзіцца. *Усё карагодзіцца, што рукі яму баляць і сярэдзіну адымаіць.* Косцевічы Астр.

*КАРА'ЗІЦЦА* незак. Капрызнічаць. *Усё ў яго ест, чаго ён толькі каразіцца.* Масцішча Навагр.

*КАРАЛЁ'К* м. Маленькае парася, недаростак. *Дзясяцьця парасят гадуя, алі адно няўдалая -- каралёк.* Ст. Гудагай Астр.

*КАРА'ТЫ* прым. Шурпаты, з патрэсканаю тоўстаю карою. *Гэты камель натто караты, у рукі ні ўзяць – дзярэцца.* Грабава Зэльв.

*КАРВЭ'НТ* м. Канверт. *Бабульцы трэ было паслаць пісьмо, а ў міне карвэнта ні было.* Зарачаны Воран.

*КАРДЫ'НА* ж. Цюлевая фіранка, гардзіна. *У нас на вокнах новыя кардыны.* Вішнеўка Бераст.

*КАРНІ'СТРА* ж. Каністра. *Бінзіны ў карністры пашці німа, трэба дакупіць.* Варняны Астр.

*КАРУКІ'* мн. Сані, у якія запрагаецца конь. *Карукі – гэта вялікія сані, у якія запрагаіцца конь, а малыя санкі, што прывязваюць да карукоў, як возяць дровы, – гэта сабачкі.* Косцевічы Астр.

*КАРУЧКІ'* мн. Кароценькія саначкі-прыцэп, якія чапляюцца да саней пры перавозцы лесу. *На каручках лес вазілі на станцыю, ззаду прычаплялі іх.* Дайноўка Астр.

*КАРШПЕ'ТЫ* мн. Шкарпэткі. *Суконныя каршпеты табе трэбо звязаць.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*КАРЧА'К* м. Дужы, каржакаваты чалавек. *О, гэты Іваначко карчак, ты яго ні абможаіч.* Грабава Зэльв.

*КАСАВА'ЦЬ* незак. Касіцца. *Пажар касуя на гумно, каб і яно ні ўзялося гарэць!* Дзярэчын Зэльв.

*КАСМІРО'ЎКА* ж. Тонкая шарсцяная каляровая хустка. *Мела две касьміроўкі, думала, да сьмерці хватіць, а во хусткі панасіліся, а йшчэ трэба жыць.* Косцевічы Астр.

*КАСНЯ'К* м. Шнурок. *Ах ты неўдаль, зноў ходзіш з нізавязанымі касьнякамі!* Васілішкі Шчуч.

*КАСУ'ЛЯ* ж. Сошка. *Хто ў мяне касулю забраў, ніяк ні даведаюсё.* Стокі Свісл.

*КАТЛАМЫ'ЙНІЦА* ж. Здзекл. Жанчына, якая любіць абгаворваць іншых. *Гэта катламыйніца тулькі языком пляскаць умея.* Пачарнейкі Свісл.

*КАЎБА'К* м. Адпілаваны ад бервяна невялікі кавалак. *Разрубай тыя каўбакі, што на дрывотні, печ запалім.* Дварчаны Шчуч.

*КАЎДУ́Н*[1] м. Выраб з цёртай бульбы і мяса, калдун. *Каўдун просто робіцца: труць картоплі на тарку, троху мукі ўсыплюць, у тоё цесто мясо закатаюць і тушаць у сагане. Каўдун як яйко выглядае.* Сурынка Слонім.

*КАЎДУ́Н*[2] м. 1. Каўтун. *Бало, часто хварэлі каўдуном: на галаве косы зліпаліся.* Грабава Зэльв. 2. Толькі мн. Непахв. *Доўгія непрычасаныя валасы. І чаму табе ні пастрыхчыся, як чалавеку, загадаваў каўдунэ і трасеш галавою, як конь у горач.* Грабава Зэльв.

*КАЎДЭ́РАК* м. Коўдра. *Накрыла малога новым каўдэркам.* Курчоўцы Воран.

*КАЎТУН* м. Зацірка з дабаўленнем бульбы. *Малако сьвежа есьць. Трэбо апчысьціць пару бульбін і зварыць каўтуна.* Бярозаўка Лід.

*КАЦМА́Н* м. Неакуратны чалавек. *Усе ў іх кацманы, як маці, так і дзеці.* Кватары Бераст.

*КАЦЫ́К* м. Пяшч. Кот, коцік. *А гось і кацык наш прыбех. Дай яму малачка.* Валькевічы Зэльв.

*КАЦЯ́К* м. Бульбяная каша. *Во, паем кацяку і буду ісьці.* Бобра Шчуч.

*КАЧАЛЭ́ХА* м. і ж. Экспр. Неахайны чалавек. *Гэта качалэха нат спанніцу ні памыя, век у гразі сядзіць.* Саленікі Слонім.

*КАЧЭ́ЧНІК* м. Качыная ферма. *Мой тата на качэчніку робіць.* Сапоцкін Гродз.

*КАША́К* м. Кот. *Палянь, які кашак здаровы с тваею кошкаю ходзіць.* Забагонне Зэльв.

*КАШАЛА́* ж. Калоша, калашына. *Даўней порткі свабодныя насілі, кашолы шырокія.* Косцевічы Астр.

*КАШЭ́НЬ* м. Кішэнь. *Бацькі парвуць кашані, для дзяцей зьбіраючы, а дзеці – ад бацькоў хаваючы.* Косцевічы Астр. *Прышый ты мне кашэнь да пальта! Каторы ўжо дзень так ходзіш.* Вішнева Смарг.

*КАШЭ́РНЫ* прым. Вельмі худы. *Ён стаў такі кашэрны, як ражон.* Вялікае Сяло Шчуч.

*КВАДРАТО́ВЫ* прым. Квадратны. *Мне жыць тады давялося ў квадратовым пакоі – усе сьцены роўныя.* Валдоцішкі Воран.

*КВА́ЧАК* м. Пэндзаль. *Вазьмі квачак і намалюй мне што-нібуць.* Першамайск Шчуч.

*КВАШО́НКА* ж. Квашаніна. *Закалолі парэсятка, сала ні было на ім, нат квашонка і тая слаба варыцца.* Руда Яварская Дзятл.

*КВОЧ* м. Клочча. *Гэты квоч нават на мяшке нігодны.* Руда Яварская Дзятл.

*КВЯТНІ́ЦА* ж. Ваза. *Нарві цвятоў у квятніцу.* Гнезна Ваўк.

*КЕ́БІКІ* мн. Глупства. *Толькі ты можаш такія кебікі рабіць.* Паплаўцы Бераст.

*КЕ́НДУХ* м. Страўнік. *Коні напхнулі кендухі травой.* Лішкі Бераст.

*КЕ́НТАЦЦА* незак. Няньчыцца, важдацца (з кім, чым). *Дзеда ні натта ўгаворыш, каб з унукам пабыў. Кажыць: і тоя рабіць трэба і тоя, німа мне калі з малым кентацца.* Косцевічы Астр.

*КІ́БЕЛЬ* м. Посуд для вадкасці. *Дзетачка! Набяры кібель вадзічкі і дай мне папіць. Стамілася я з дарогі.* Жадзейкі Ваўк.

*КІ́ДАНЕЦ* м. Чалавек, які садзіць бульбу. *Бульбу хутка пасадзім, будзя аш шэсьць кіданцаў.* Луцкаўляны Гродз.

*КІДА́НІЦА* ж. Жанчына, якая садзіць бульбу. *А скольківў цібе кіданіцаў?* Жукоўшчына Дзятл.

*КІ́ДКІ* прым. Жвавы. *Сын мой такі кіткі, што ўсюды яго поўно.* Азярніца Слонім.

*КІЛПА́* ж. Пятля на звера (лісу, зайца). *Зайцы ў сат панадзіліся. За сёняшняю ноч сколька яблынаў пагрызлі. Трэба дзе дроту патхадзяшчага знайсці, кілпу паставіць, можа ўлезіць каторы.* Косцевічы Астр.

*КІНІ́ЦА* ж. Канцавая частка поясу. *Трэба яшчэ патшыць кініцу пояса – і ўсё будзе.* Баруны Ашм.

*КІ́НШЧЫК* м. Аматар кіно. *Адно па кінах ходзіць кіншчык гэты, а дома ні пасядзіць.* Грабава Зэльв.

*КІ́НШЧЫЦА* ж. Аматарка кіно. *От ужэ кіншчыца гэта Гандзя.* Грабава Зэльв.

*КІСЛА́ТЫ* прым. Плаксівы. *Натта кіслатае дзіця ўрадзілася, ўсё плача і плача.* Малая Воля Дзятл.

*КІ́СЛАЎКІ* мн. Парэчкі. *А гэты кусьцік во які харошы, колькі кіславак на ім.* Сурынка Слонім.

*КІСЛІ́НА* ж. Парэчкі. *Варэня с кісьліны ўкусна, алі сахару трэбо много сыпаць.* Капачы Маст.

*КІСЛУ́ШКА* ж. Страва з кіслага малака і цыбулі. *Трэба, мусіць, да салёнікаў кіслушкі зрабіць.* Дарані Свісл.

*КІПТУ́Р* м. Кепка. *Вось які кіптур купіў.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*КІШКА́Р, КІШКУ́Н* м. Непахв. Ненаедны. *Некі кішкар гэты наш паршук: што ні дай – усё зьесьць і ўсё мало яму, а сам худы.* Старое Сяло Зэльв. *Кішкуна гэтаго ні накорміш, колькі ні кармі.* Валькевічы Зэльв.

*КІЯХІ'* мн. Кукурузныя пачаткі. *Ідзі наламай кіяхоў, зварым у салёнуй вадзе.* Клешнякі Шчуч.

*КЛАДАВІ'ЦЦА: КЛАДАВІЦЦА НА ДОЖДЖ.* Незак. Збірацца на дождж. *Ужэ с самюткаго ранку кладавіцца на дошч. Мо па палудні і пойдзя.* Грабава Зэльв.

*КЛАДЗЕНЁ* н. Кладка, складванне. *На адно кладзенё гэтаго сьверына зь месяц пойдзя, а тагды ў сярэдзіні будзям даводзіць да ладу; Канчаюць кладзенё стога.* Грабава Зэльв.

*КЛЕ'ІЦЬ* незак. Непахв. Біць, лупцаваць. *У яго німа пачакай. Раз заслужыў, то і стаў клеіць па галаве; Будзя табе клеіць гэтаго хлопца. Што ён вінават, рас яго падгаварылі ўзяць грошы.* Валькевічы Зэльв.

*КЛЕ'ЙНІЦЫ* мн. Папера для аклейкі вокнаў. *Намачы мыла, абмаж клейніцы і прыцісьні да дубэльта. І клеіць лёхка і адымаць будзіць добра – выцяр мокрай анучай і чыста.* Споны Астр.

*КЛЕ'ШЧЫ* мн. Прылада ў выглядзе дзвюх злучаных ў адным месцы дошак, з дапамогай якой ціснуць сыр. *Прынясі с каморы клешчы, будзем сыр давіць.* Мажэйкі Воран.

*КЛЁ'Ш* м. Абажур пэўнай формы. *Перат калядамі трэба вымыць клёш, натта запыляны.* Варняны Астр.

*КЛУ'МАК* м. Слімак. *Пасьля дажджу клумкаў цэлы гароччык, баісса нагою ступіць.* Жылічы Маст.

*КЛУ'НІЦА* ж. Дубінка. *Калісь за гэткую справу клуніцаю ў лоб білі.* Юшкавічы Свісл.

*КЛЭ'КТАЦЬ* незак. Таптаць. *Чаго ты клэкчаш маё балота?* Юшкавічы Свісл.

*КЛЭ'ЎСЬ* м. Зневаж. Літовец. *У нашай вёсцы адзін клэўсь пасяліўся.* Пагародна Воран.

*КЛЮ'КАСТЫ* прым. Насаты. *Такі клюкасты, што аш спалохацца можна.* Лушпакі Воран.

*КЛЮ'КАЎКА* ж. Вешалка. *Павесь хустку на клюкаўку, ні валяй па лавах.* Клешнякі Шчуч.

*КЛЮКА'Ч* м. Насаты чалавек, насаль. *Некі брыткі яе кавалер – клюкач гэты.* Старое Сяло Зэльв.

*КЛЮ'ШНІ* мн. Прылада для вывазу дроў з лесу. *Дровы клалі на клюшні й вывозілі канём зь лесу.* Баруны Ашм.

*КЛЯ'ПКІ* мн. Шлёпанцы. *Ужэ можна ў кляпках хадзіць, цёпло.* Брузгі Гродз.

*КНЭ'ЦЫ* мн. Кураняты. *Кнэцы – так я называю куранят.* Пачарнейкі Свісл.

*КО'БЫРДАМ* прысл. Стрымгалоў. *Кобырдам выляцела яна с кухні.* Баяры Свісл.

*КО'ВАНКА* ж. Металічны кубак. *Налі кіпяточку ў кованку, трэба папіць гарачага чаю.* Каліноўская Свісл.

*КО'ДРА* н. Маленькая неперасыхальная сажалка. – *А дзе Міцюк? -- А ён на кодру пашоў. Якіясьці капканы там паставіў.* Тракелі Воран.

*КО'МІН* м. Шафа для посуду. *Хай сьцякуць лышкі, тады паложыш у комін.* Ішчална Шчуч.

*КО'МЧЫЦЬ* незак. Камячыць. *Злажы ўсё акуратнянько, а не ты комчыш гэту сукенку.* Грабава Зэльв.

*КОН* м. Бідон для малака. *Дзісь карова дала поўны кон малака.* Лішкі Бераст.

*КО'НАЎКА* ж. Непахв. Рот. *Маўчы ўжэ, конаўку напхаўшы, ні мармычы. Зьеш, тагды скажаш.* Грабава Зэльв.

*КО'НІК* м. Адно з двух прыстасаванняў на версе падсядзёлка для фіксацыі паска. *На кульбацы конікі менныя аш блішчаць.* Руда Яварская Дзятл.

*КО'РПАЦЦА* незак. Камячыцца, мяцца, карабаціцца. *Ні павесіў, кінуў пінжак, то дзе ён ні будзя корпацца*; *Нешто цягня рукаў і корпаяцца плячо; Завелькія чаравікі, таму і корпаюцца.* Валькевічы Зэльв.

*КО'РШКАЦЦА* незак. Корпацца. *Цалюткі дзень у гароччыку коршкаяцца, ніяк ні споля.* Гудзевічы Маст.

*КО'СНІК* м. Стужка для заплятання валасоў. *Косьнікі красівыя упляці у косы, да касьцёлу ш пойдзям.* Жукевічы Бераст.

*КО'ТКА, КО'ШКА* ж. Крук, якім дастаюць вядро са студні. *Коткаю вядро дастань з студні; Ні было кошкі ў суседа, і вядро так і засталосё ў студні.* Уселюб Навагр.

*КО'ТУС* м. Пасудзіна, у якой замешваюць гліну. *Ні бяры котус, бо гразны. У ём жа мож гліну месяць.* Гарадзечна Навагр.

*КО'ШЛЯ* ж. Скошанае за пэўны адрэзак часу (дзень, вечар). *Сёня пойдзіця да сена раней. Трэба ўчарашняю кошлю разьбіць, а пазаўчарашняю – паварочаць.* Косцевічы Астр.

*КРАКАЧЭ'* мн. Жабы. *У балоці кракачэ крэхчуць.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*КРА'МА* м. Нямыты посуд. *А крамы колько назьбіраласё, калі ш я яе памыю.* Ёцавічы Дзятл.

*КРАПАЦЕ'ЦЬ* незак. Крапаць. *От табе на! Адно пачалі на вос класьці сено, ужэ і дошч крапаціць. І што тут рабіць: ці скідваць з воза ці дакладаць вос?* Крывічы Зэльв.

*КРАПІЎНІЦА* ж. Курыца, якая вывела куранят употай. *Думала, прапала мая добрая курыца. Ан – крапіўніца. Гляжу – вядзе байструкоў.* Баруны Ашм.

*КРАПУШКА* ж. Булка з макам. *Сьпякла крапушак пару бляхаў, дык дзеці мігам пахваталі. Маку ні было, сьпякла б больш.* Леснікі Лід.

*КРАСНАЛЮДАК* м. Гном. *Я табе раскажу каску пра красналютка.* Грабава Зэльв.

*КРАСОНКА* ж. Керасінавая лямпа. *Тады ш сьвятла такого ні было, запалім красонку й прадзем даўжэй.* Міклашоўцы Маст.

*КРАТОВІНА* ж. 1. Куча паточанай кротам зямлі. *Трава добра, аля каса тупіцца, бо кратовінаў поўно.* Грабава Зэльв. 2. Нара, вырытая кротам. *Паліваяш-паліваяш, а вады ні відно, мусіць, у кратовіну цячэ.* Грабава Зэльв.

*КРУГЛЯК* м. Жаночая безрукаўка на ваціне. *Такі марос стаіць, кап кругляка ні паддзела саўсім ба замерзла.* Вінькоўцы Лід.

*КРУЛЯВАЦЬ* незак. Пасвіць (жывёлу). *Я ат самаго ранку кароў крулявала, то нічого гэтаго ні бачыла.* Біцеўцы Шчуч.

*КРУПЯНІЦА* ж. Падсмажаная кілбаса, начыненая дранай бульбай. *Во, еш гэты кусок крупяніцы, з малаком натто смашно.* Верцялішкі Гродз.

*КРУТАГОЛОВІК* м. Той, хто круціць галавою. *Што ні скажы, усё пакручвая галавою і мармыча: неа, ні гэдык. От крутагаловік гэты.* Савічы Зэльв.

*КРУЦЕЛЬ* м. Суніца. *Дзеўчына мая назьбірала цэлы збаночак круцялёў.* Бакунова 2 Іўеў.

*КРУЧ* м. Двухсотграмовая бутэлька. *Мой дзет, калі йдзець грабіць сена, бярэць с сабой круч з воткай. Паграбіць троха і палыкнець, тады, казаў, спрытней грабецца.* Малі Астр.

*КРУЧ* ж. Вір. *Ні плыві туды, бо там такая круч, утапіцца можно.* Кронькі Шчуч.

*КРУЧАЙКА* ж. Маток нітак на верацяне. *А ў хаці кручайка лёну асталася.* Капці Дзятл.

*КРУШАВЕЯ* ж. Завіруха. *Гэто ш пасьля той крушавеі склеп ні аччыняяцца, дзьверы сьнегам заваліло.* Гудзевічы Маст.

*КРЫВЯНДА* ж. Калека, «скрыўленая» хваробай (жанчына). *Век замуш ні возьмуць крывянду гэту; Крывянда, а задаецца, і ўсе ёй нідобрыя.* Старое Сяло Зэльв.

*КРЭДАНС* м. Буфет. *Прынясі с крэдансу шклянак.* Рэпавічы Бераст.

*КРЭ'КАЦЬ* (гусі, куры, качкі) мн. Хатняя птушка. *Цэлу ноч у курніку крэкаць хадуном хадзіла, мо спалохаў хто.* Пачарнейкі Свісл.

*КРЭ'МІЦЬ* зак. Начышчаць крэмам, ваксаваць. *Нараніцы ён ні толькі свае, але і даччыны і жончыны боты крэміць.* Верцялішкі Гродз.

*КСЁ-КСЁ-КСЁ!* Выкл. Так падклікаюць кароў. Грабава Зэльв.

*КУБІ'НЕЦ* м. Вялікі мяшок. *Сколька такіх кубінцаў папарвалася кідаючы на зямлю. Відома, поўныя...* Вішнева Смарг.

*КУДЗЯЛО'ВІКІ* мн. Ватныя порткі. Адзявай *куфаку і кудзяловікі, і будзя цёпло.* Харосіца Навагр.

*КУДО'СІЦЦА* незак. Мітусіцца. *Усе на сьвеці кудосяцца.* Юшкавічы Свісл.

*КУДРАВЕ'Ц* м. Назва пакаёвай расліны традэсканцыі. *Воля добра гаспадыня, сколька ў яе кветак у хаці, а які файны кудравец ля покуці віецца.* Сурынка Слонім.

*КУДРА'ЎКА* ж. Галавешка. *У пецы дагаралі кудраўкі.* Нагорнікі Дзятл.

*КУЁ'ЧЫЦЬ* незак. Неадабр. Гаварыць неразборліва. *Што ты там куёчыш, бытта сам сабе. Скажы добра!* Вугляны Смарг.

*КУЖЫРУ'ФКІ* мн. Тапкі. *Дзісь новыя кужыруфкі купіла ў магазіне. Во, дома добро хадзіць будзя.* Баруны Ашм.

*КУЗЁ-КУЗЁ'!* выкл. Так падклікаюць жарабят. Дзярэчын Зэльв.

*КУКСА'Ч* м. Кулак. *Што ты сваім куксачом тут махаяш? Я цібе ні баюса.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*КУКУ'ЛЯ-КУКУ'ЛЯ-КУКУ'ЛЯ!* выкл. Вокліч, якім падзываюць свінню. *Як трэба сьвіней звaць, дык кажаць: кукуля-кукуля-кукуля! Або: дзю-дзю-дзю! А хто дык завець: дзюдзя-дзюдзя-дзюдзя! Ці сьвінка-сьвінка-сьвінка!* Косцевічы Астр.

*КУЛЁ'МА* ж. Экспр. Неахайная, непрычэсаная жанчына. *Прычашыся, кулёма, людзі ўсе сьмяюцца, што грэбня ні маяш.* Лішкі Бераст.

*КУЛЁ'НІК* м. Запанка. *Зашпілі мне ў кашулі кулёнікі. А то рукі мае згрэбачы, ні маяць кала іх спрыту.* Падольцы Астр. *Рукавы ў кашулях на сьвята кулёнікамі зашпільвалі. Вун як стройна!* Косцевічы Астр.

*ПАКУЛДЫБА'ЦЬ* незак. Пайсці кульгаючы. *Мой стары ўжэ некуды пакульдыбаў, мусіць, да Пецькі Марцэсінага.* Дзевяткі Бераст.

*КУЛЯ'БА* ж. Нага. *Надзявай доўгія штаны, а то кулябы табе паадбірая.* Манчыцы Свісл.

*КУЛЯГО'ЎНЫ* прым. Той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі, дружбацкі. *Сашка чалавек кулягоўны, ён з усімі добра. Васолы такі.* Варняны Астр.

*КУПРЫ'ЦА* ж. Насечкі ў жорнавым камені, у якія трапляе зерне і потым мелецца. *Зярня пападая ў купрыцу і меляцца паціху.* Руда Яварская Дзятл.

*КУРА'ВА* ж. Мяцеліца. *Аля ш на дварэ курава, снегам усё пазавальвало.* Радзявічы Маст.

*КУРАКІ'* мн. Галавешкі. *Здэцца й куракоў ужэ німа, а штось пахня.* Шоўкі Ваўк.

*КУРАХА'Н* м. Певень. *Адрубай сёні курахану галаву.* Баяры Свісл.

*КУ'РДА* ж. Жанчына малога росту. *Мэтар росту мая курда гэта, а рабіць станя – дак ні справісса зь ёю.* Мілявічы Маст.

*КУРМЯ'ЛІШКІ* мн. Гальян. *Нічого добраго ні налавіў, акрамя курмялішак.* Несутычы Навагр.

*КУРО'ВАТКА* ж. Курыца з куранятамі, кураводка. *Мая куроватка ўжо кінула вадзіць куранят.* Уселюб Навагр.

*КУРПЯЛЕ'* мн. Гурбы снегу. *Курпяле на ўсей дарозі.* Масцішча Навагр.

*КУРТА'Ч* м. Куртаты сабака. *Натто паганы твой куртач, здэцца, разарваў бы, кап сарваўсё з ланцуга.* Грабава Зэльв.

*КУРЧАНЁ'* н. Кураня. *Курчаняты вывяліся, алі, мусі, ніводнай курачкі ні будзіць, усе пятушкі.* Ракаўцы Смарг.

*КУСТАВА'ТЫ* прым. Дзікаваты (пра чалавека). *Іхняя дзяўчына як дзяўчына, а хлопяц трохі куставаты, баіцца ўсіх.* Лешчанка Навагр.

*КУ'ХКАЦЬ* незак. Квактаць. *Гэта кура кухкая, трэба яе на яйцы садзіць.* Навумавічы Гродз.

*КУХМА'РЫЦЬ* незак. Жарт. Кухарыць. *Я буду калыхаць дзіця, а яна хай ідзе на кухню ды кухмарыць, а то і палуднаць пара ўжэ.* Валькевічы Зэльв.

*КУ'ХНЯ* ж. Вогнішча. *Мы ў кухні бульбу пяклі, як каровы пасьвілі.* Вішнеўка Бераст.

*КУЧКАВА'ЦЬ* неазк. Асыпаць, акучваць (агародніну). *Пайду капусту кучкаваць.* Мяжырычы Зэльв.

*КУ'ЧМА* м. і ж. Неадабр. Чалавек (часцей жанчына) з бруднымі, ускудлачанымі валасамі. *Ні дзеўка, а кучма нейкая.* Солы Смарг.

*КУШЛА* м. і ж. Недарэка. *Скінь ты гэта паліта, бу чысты кушла ў ім.* Дамейкі Лід.

*КУШЛАВАТЫ* прым. Няўважлівы. *Сяргей там ні ўбачыў ніц, бо кушлаваты быў.* Нача Воран.

# Л

*ЛАБАЙДА'* м. і ж. Непахв. Неакуратны чалавек. *Цэла лабайда наша Маня, ні мыяцца, галавы ні чэша, век у грязным ходзіць.* Вялікія Азёркі Маст.

*ЛАБАЙДЛІВЫ* прым. Гаваркі. *Ну й твая жонка лабайдлівая, гаворыць і гаворыць не сьціхаючы.* Таркачы Дзятл.

*ЛАБІДУДА* м. і ж. Здзекл. Неразумны чалавек. *Лабідудай усё жыцця пражыў, піў, нідзе ні рабіў, нават хаты сває ні мая.* Гудзевічы Маст.

*ЛАБЭДРЫК* м. Фартух. *Як да стала падаваць будзяш, лабэдрык адзень.* Труханавічы Дзятл.

*ЛАБЭШНІК* м. Груб. Лоб. *Ні бегай моцна, лабэшнік растаўчэш.* Белякі Дзятл.

*ЛАГАВІЦЦА* незак. Класціся (спаць). *Ужэ цёмно, хадзем лагавіцца спаць.* Канюхі Ваўк.

*ЛАГАШКА* ж. Шырокі загон. *Цэлу лагашку засадзіў цыбуляю.* Масцішча Навагр.

*ЛАГЕРЫ* мн. Шырокі воз для сена ці саломы. *Тым летам бацьку конь панёс, дык лагеры ў шчэпкі, а яму нічога.* Раневічы Свісл.

*ЛАДАЎНІЦА* ж. Частка сячкарні, у якую кладуць салому для рэзкі сечкі. *У ладаўніцу кладзем салому, і сьлімак цягня яе ў нажэ – рэжа сечку.* Старое Сяло Зэльв.

*ЛАДЫНКА* ж. Гладыш. *Як хочаш, налі малака з ладынкі і папі.* Арлова Гара Шчуч.

*ЛАЗЕЙКІ* мн. Санкі. *Сёдня купіла маяму хлопцу лазейкі.* Малая Бераставіца Бераст.

*ЛАЗАР* м. Чалавек, прыкуты хваробай да ложка. *Сын яе – лазар, гадоў шаснасьця маіць, а на ногі і ні ўстаніць. Бедны хлопяц: ні жывець, а мэнчыцца.* Косцевічы Астр.

*ЛАЗГІМАХ* м. Здзекл. Пра абыякавага, нядбайнага чалавека. *Ды які ён гаспадар, лазгімах некі.* Лозкі Дзятл.

*ЛАЗІННІК* м. Бат. Альяс. *Вазьмі папробуй соку з лазінніку папіць. Кажаць добра ат кашлю памагаіць.* Астравец.

*ЛАЗОЎКА* ж. Гатунак бульбы. Масцішча Навагр.

*ЛАЗУ'Н* м. Саракалітровы бідон. *Схадзі на ферму, там табе цэлы лазун малака дадуць.* Масцішчы Навагр.

*ЛА'ЙБА* ж. Стары, зношаны транспарт (машына, веласіпед, воз і інш.). *Выкочвай сваю лайбу, мо даедзям як да касьцёлу й назат.* Стральцы Маст. *А ён на сваёй лайбі шчэ як лятае, ні патрапіць вокам.* Сурынка Слонім.

*ЛА'ЙДА* м. і ж. Пра чалавека, што пляткарыць, шмат гаворыць. *Хопіць вам лайду слухаць, бо яна гаворыць сваё і чужоя.* Вярэйкі Ваўк.

*ЛАЙДАРЭ'* мн. Старое адзенне. *Павыкідай ты гэтыя лайдарэ, нашто яны табе здаліся.* Купіск Навагр.

*ЛАМА'НІК* м. Саматканы дыван, тканы вузкімі рознакаляровымі палосамі. *Дыван называіцца ламанік, бо як ткуць яго, часта мяняюць калёры нітак. Як бы ламаіцца дыван на гэтых палосках.* Косцевічы Астр.

*ЛАМАНІ'ЦА* ж. Ламаніна, стан арганізму. *Нека ламаніца: ўсё сьпіну ломіць.* Грабава Зэльв.

*ЛАМАСА'ЦЦА* незак. Біцца. *Хлопцы ламасаліса пасьля вяселя, насы адзін аднаму паразьбівалі.* Струга Маст.

*ЛАНІ'СІКА* прысл. Летась, мінулым годам. *Ланісіка баба была ў брата ў гасьцях.* Вярэйкі Ваўк.

*ЛАПАНУ'ЦЬ* зак. Успыхнуць. *Папер лапануў і згарэў за сакунду.* Лашаны Смарг.

*ЛАПА'ТА* ж. Разам звязаныя дзве дужкі насіць салому, сена. *Лапатаю ні шмат саломы возьмяш.* Вострава Слонім.

*ЛАПАТКАВА'ЦЬ* незак. Ісці, зазнаючы фізічныя цяжкасці. *Ну й дарошка ў вас, дзьве гадзіны лапаткаваў, аш упрэў.* Пацавічы Маст.

*ЛАПАТУ'НЧЫК* м. Невялікі трактар, звычайна «Т-15». *Мы бульбу ў гэтум годзі ўсё на лапатунчыку вазілі.* Смільгіні Воран.

*ЛАПЕ'ЗА* ж. Тоўстая жанчына. *Але яна жош і лапеза – келаграмаў сто якіх будзя.* Уселюб Навагр.

*ЛА'ПІН* м. Кавалак матэрыі, лапік. *Шукаю дзе які лапін, трэба спадніцу залатаць.* Замасцяны Шчуч.

*ЛА'ПЛЕНЫ* дзеепрым. Латаны. *Хоць і лапляны пінжак, аля чысты і харошы, можно хадзіць і на работу, ні будзя брытко.* Грабава Зэльв.

*ЛАПУ'ТКІ* прым. Палахлівы. *Нашыя гусі лапуткія, як дзікія.* Капці Дзятл.

*ЛА'ТЫ* мн. Прагоны плоту. *Бура ўсе латы зваліла, трэбо ісьці паднімаць.* Радзявічы Маст.

*ЛАХАМЭ́ЙЖА* ж. Зневаж. Неахайная жанчына. *Гэта лахамэйжа ніяк ні можа хату да паратку прывесьці.* Пархімаўцы Бераст.

*ЛАХАНДЗЕ́ЦЬ* незак. Вельмі шмат гаварыць. *Ну чаго ты лахандзіш, як сарока?* Гнезна Ваўк.

*ЛАХНІ́ЦЬ* незак. Груб. *Гаварыць абы-што. Перастань лахніць! Цібе ўжо й слухаць праціўна.* Вайкунцы Воран.

*ЛАХЦІ́ЦЬ* незак. Вельмі хутка гаварыць. *Ні лахці гэдак, бо нічога я ні пайму, што ты гаворыш.* Канюхі Ваўк.

*ЛА́ШЧАЧКА* ж. Карова, якая яшчэ ні разу не цялілася. *У вёсцы ў нас многа лашчачак, сытыя ўсе, вядомо ш ні цяліліся.* Сянькоўшчына Слонім.

*ЛЕ́ДЗЕНЬКІ* прым. Лёгенькі. *Накінь летнік, ён ледзенькі.* Баяры Свісл.

*ЛЕ́ПА* ж. Мокры снег. *Ну й лепа на дварэ. Так пляжыць, што вачэй ні раскрыць. Калі ўначэ ні падмерзьня, то вады па калено будзя.* Гуды Лід.

*ЛЕ́СКІ* мн. Веснічкі, брамка. *У нас летась цяля на лесках павесіласё.* Лаўрынавічы Свісл.

*ЛЁ́КУС* м. Расол з-пад селядца. *Раней, калі куплялі селядзец, дак нават лёкус пілі, так смачно было.* Бенін Навагр.

*ЛЁ́РКА* ж. Самагонка. *Хлопцы атправілі аднаго па лёрку. Цэлы слоік прынёс, але сам ўжо, мусіць, пакаштаваў.* Гароднікі Ашм.

*ЛІБАЗІ́ЦЬ* незак. Невыразна гаварыць. *Чаго ты лібазіш, што маленькі, гавары як трэба.* Ятвезь Ваўк.

*ЛІ́ВАЯ* прым. Левая (рука). *Кажа, ні магу падняць: ліва рука баліць; Па лівую руку хата стаіць, як ісьці ад лесу.* Грабава Зэльв.

*ЛІ́МЗГАЦЦА* незак. 1. Лашчыцца. *А ён такім і застаўся, вялікі, а ўсё роўна да маткі лімзгаіцца.* Масцяны Астр. 2. Часта аблізвацца, смакуючы страву. *Наварыла капусты кіслай, бульбы паранай. Дык мой так лімзгаўся, так любіць.* Масцяны Астр.

*ЛІ́НУЦЬ* зак. Нечакана знікнуць, збегчы. *Дзе ты, хлопча? От ужэ лінуў с хаты, як толькі папрасіла схадзіць папасьвіць каравэ, падмяніць бацька.* Грабава Зэльв.

*ЛІ́ПЕНКА* ж. Жылое глінабітнае памяшканне. *У нас, калі робяць з гліны, завуць ліпенкаю.* Масцішча Навагр.

*ЛО́МАЦЕНЬ* м. Асудж. Гультаяваты і ні на што не здатны чалавек. *Ты, ломацень, ішоў бы лепяй дахаты, бо ад цябе ўсё роўна ніякай пользы.* Каўбаскі Гродз.

*ЛУЖНІКІ* мн. Маслякі. *Мы ўчора пасьля дажджу набралі цэлы кошык лужнікоў.* Харосіца Навагр.

*ЛУПАСІЦЬ* незак. Лупцаваць. *Дзет стаў ганяцца за намі і лупасіць усіх папаратку.* Мяжырычы Зэльв.

*ЛУПСЯК* м. Масляк. *Назбіраў поўны кош лупсякоў. Добрыя грыбы, алі ш натта лупіць іх не люблю.* Баруны Ашм.

*ЛУСКІ* прым. Мяккі, пульхны. *Зямля пасьля дажджу луская, як пірох.* Біцеўцы Шчуч.

*ЛУЦАЦЬ* незак. Сачыць, праследаваць. *Сёні цэлу ноч брыгадзір кагось луцаў.* Пушчыкі Свісл.

*ЛУЧКІ* мн. Сагнутыя драты, на якія нацягваюць плёнку, каб засцерагчы агародніну ад марозу. *Сёння паставім лучкі, а заўтра нацягням плёнку.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ЛУШПАВІННЕ* н. Шалупінне ад бульбы. *Чаму ты лушпавінне ні кінуў у парнік?* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ЛУШПОНІКІ* мн. Бульба, звараная з лупінамі, не ачышчаная. *Лушпонікаў саган наварыла, і еш с селяццом.* Каралін Зэльв.

*ЛЫГА* ж. Глыба грунту. *Як Нёман разышоўсо, та цэла лыга з берагу адваліласа.* Мяшэтнікі Маст.

*ЛЫГМА* м. і ж. Асудж. Той, хто гаворыць няпраўду. *Каму ты верыш? Гэта лыгма нагаворыць табе бочку арыштантаў.* Бярозаўка Лід.

*ЛЫГМАНІЦЬ* незак. Нагаворваць, паклёпнічаць. *Вы мне ні лыгманьце пра яго, я ўсю праўду знаю.* Нагародавічы Дзятл.

*ЛЫЖЭЧНІК* м. Паліца для посуду. *Чысты посут пастаў на сваё мейсца, на лыжэчнік.* Пераганцы Воран.

*ЛЫТМАН* м. Абразл. Непрыгожы, неахайны чалавек. *Наш новы аграном лытман некі, ні адзежы на ём, ні прычоскі.* Лозкі Дзятл.

*ЛЭБАРДЫ* мн. Груб. Ногі. *Задраў лэбарды і ляжыць.* Вялікая Бераставіца Бераст. *Ні патстаўляй свае лэбарды, а то праходзіць цяшка!* Бастуны Воран.

*ЛЭБАХІ* мн. Вантробы. *Выкінь ты гэтыя лэбахі сабакам, чаго ўсё зь імі носісься.* Мацвееўцы Ваўк.

*ЛЭБКА* ж. Карова без рог. *Наша карова лэбка, бо натто любіць біцца з другімі каровамі.* Купіск Навагр.

*ЛЭМБЫ* мн. Сцёблы травяных раслін. *Лэмбы ў лілії растуць пад вадой.* Гожа Гродз.

*ЛЭПШЫ* мн. Зношаны хатні абутак. *А тыя лэпшы яшчэ сам дзет шыў.* Страча Астр.

*ЛЮДЗІ'НА* ж. Жанчына. *Яго жонка – гарацкая, вучаная. А такая простая людзіна! Ні гардая.* Косцевічы Астр.

*ЛЮДЗІ'НКА* ж. Жанчына. – Ні адзін ён такі нішчасьлівы. Пэнсіі на хлеп хваціла п і жыў ба п. – А мая ты людзінка, ці ж гэта лёхка жыць аднаму на старасьці? Косцевічы Астр.

*ЛЭЎГАЦЬ* незак. Есці трошкі. *Альбо яна наесца як чалавек, адно лэўгая.* Манчыцы Свісл.

*ЛЭХ-ЛЭХ-ЛЭХ!* Выкл. у ролі выказніка. *Цяперака цягнясься, а потум бехчымяш: лэх-лэх-лэх!* Грабава Зэльв.

*ЛЭ'ХАЎКА* ж. Кулін. Поліўка (звычайна з мукі). *Нічога дзісь ні варыла.* Мо, хоць пасёрбаяш лэхаўкі з намі. Табала Лід.

*ЛЮДО'ВІК* м. Застар. Дом культуры ў вёсцы. *Цяперака найбольш кажуць дом культуры, а старыя гавораць людовік ці людовіч дом.* Грабава Зэльв.

*ЛЮСЬ*. У значэнні выклічніка. Лінуць, наліць. *Як толькі я атхілілася, ён люсь мне сваю гарэлку і кажа: выпіў. І каб я выпіла. Німа дурных, я зьмеціла гэто.* Грабава Зэльв.

*ЛЮ'ТАР* м. Злосны, люты чалавек. *Ён нікого ні пашкадуя, нат бацькоў, лютар гэты.* Грабава Зэльв.

*ЛЯДА'КІ* прым. Благі. *Хлопяц такі лядакі, што глядзець моташна.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ЛЯДА'ЧЫ* прым. Крыклівы (пра дзіця). *Алі ўжэ і лядача, крычыць і крычыць.* Каменка Бераст.

*ЛЯЖА'Й* м. Гультай, які любіць палежваць; лежань. *На печы і на печы качаяцца, на работу ні выпраш яго, ляжая гэтаго.* Грабава Зэльв.

*ЛЯЖА'К* м. Асудж. Лежань. *Паднімай таго лежака, хай ідзе пакосіць раненька.* Дубароўшчына Дзятл.

*ЛЯМПУ'ХА* м. і ж. Экспр. Вялікі, дзябёлы (пра чалавека і жывёлу). *Гэта карова такая лямпуха, а малака мала дае.* Навасёлкі Ашм.

*ЛЯМПЯ'К* м. Хлеб, які не ўдаўся. *Бяры хоць лямпяк еш, а то зусём згаладаўся.* Рымцелі Смарг.

*ЛЯ'НЯ* н. Пакаранне. *Усе лужы памераў, ідзі ўжэ дахат. Ну, будзя табе дзісь ляня.* Стральцы Маст.

*ЛЯ О'СЬ* у знач. выкл. Глянь. *Ля ось твая кнішка.* Студзенікі Свісл.

*ЛЯ'ПА* м. і ж. Экспр. Чалавек, няздатны да размовы. *Ён такі ляпа, зусім гаварыць ні ўмея.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*ЛЯПЁ'ЧДА* ж. Іран. Няўдалае печыва. *Ні пірох, а ляпёнда нека вышла. Цесто ні падыходзіло.* Монькавічы Маст.

*ЛЯПІ'ЦЦА* незак. Брацца. *Ні ляпіся, дзетка, за машыну, вымажэся.* Косцевічы Астр.

*ЛЯ'ПКА* ж. Прыстасаванне ў выглядзе акрайка скуры, гумы на ручцы для знішчэння мух. *І дзе ляпка падзелася? Мухаў цэлая хата!* Казакоўшчына Воран.

*ЛЯПНЯ'К* м. Абразл. Няўдаліца. *Ляпняк наш сусет, ні ведая, як каня запрэхчы.* Лозкі Дзятл.

*ЛЯПО'РТ* м. Экспр. Плёткі. *Гэтая баба хутка такі табе ляпорт па гораду разьнясе, што ні аткарастаесься.* Ашмяны.

*ЛЯПУ'ТКА* ж. Грыб лісічка. *Схадзіў бы ў лес, хоць ляпутак назьбіраў п, калі баравікоў ні ўмееш шукаць.* Пераганцы Воран.

*ЛЯ'РВА* ж. Заст. Лічынка камара, матыль. *Цяпер кажуць матыль, а старыя казалі лярва.* Гарны Гродз.

*ЛЯРДЭ'РНІК* м. Вялікая драўляная лыжка, якой памешваюць суп. *Трэба Міхала папрасіць, каб лярдэрнік новы выразаў з ліпы, а то суп ні зварыш.* Сенна Навагр.

*ЛЯРНЭ'ТКА* ж. Бінокль. *Праз лярнэтку можно далёко ўбачыць.* Вішнеўка Бераст.

*ЛЯСКАВА'ЦЬ* незак. Хварэць на панос. *Цяля так начало ляскаваць, што напэўно ні выжывя.* Вярэйкі Ваўк.

*ЛЯТА'РКА* ж. Ліхтарык. *Чаму так слабо лятарка сьвеціць, хіба пітаня выгарало?* Старая Дубавая Гродз. *Зь лятаркай баяцца няма чаго, неяк дойдзім.* Варняны Астр.

*ЛЯТКІ'* прым. Рухавы, лёгкі. *Бацько мой яшчэ яткі, хоць і гадоў мая.* Лагады Шчуч.

*ЛЯ'ТНІЦА* ж. Летняя кухня. *Маці ў лятніцы каўбасы на вяселе робіць, так каты туды толькі і лезуць.* Раневічы Свісл.

*ЛЯЎФЕ'РЫК* м. Від вышыўкі. *Як успомню, як калісьці на вячорках вышывалі ляўферыкі, то пачынаю ўспамінаць сваё дзявоцтва.* Гнезна Ваўк.

## М

*МАГАЗЫНЭ'РКА* ж. Жанчына-прадавец, прадаўшчыца. *Магазынэрка наша натта ш моцна захварэла, у бальніцу ложаць.* Старая Рудня Смарг.

*МАГЕ'РА* ж. Асудж. Какетлівая жанчына. *Прышла і вычыпурваяцца магера гэта.* Каменка Дзятл.

*МАГЦІ'* у знач. пабочн. Магчыма, можа быць. *Махці, яна й прыедзіць у сыботу.* Завельцы Астр.

*МАДНЕ́Й* прысл. Не так, як ва ўсіх. *А ў гэтых людзей усё мадней, усё паўтара людскага.* Кямелішкі Астр.

*МАДЫРАВА́ЦЦА* незак. Свавольнічаць, дурэць. *Дось мадыравацца! Бо дабром ужо ні кончыцца. Натта разышліся, зара плакаць будзіця; Ні мадыруйся! Стой спакойна!* Косцевічы Астр.

*МАДЭ́СЫ* мн. Нешта цікавае, забаўляльнае. *Вось табе і мадэсы.* Дабраволя Свісл.

*МАЁ́ВЫ* прым. Зялёны. *Гэту маёву сукенку адзявай, та ў траве ніхто ні знойдзя, як будзям у хованкі гуляць.* Ляткі Маст.

*МА́ЖЫ* мн. Воз для перавозкі сена. *Раней мала ў каго было сваё поле, а мажы тым болей, сена наносілі самі пасьцілкамі.* Баруны Ашм.

*МАЗГАВЕ́ШКА* ж. Памянш. Мазгаўня. *О, цяпер ні вымяш с плоту сваю мазгавешку, як упёр. Хто цябе прасіў сюды лазіць, мазгаўня нілюцкая, га?* Грабава Зэльв.

*МАЗГАТАЦЬ* незак. Моцна стукаць, біць. *Напіўся і сьпіць у хаця закрыўшыся. Жонка прышла, стукала, стукала ў дзьверы, а ён і ні павярнуўся навет. Давай тады яна мазгатаць у вакно.* Косцевічы Астр.

*МАКО́ЙКА* ж. Вышываная карціна на сцяне. *Маі макойкі павышываны крэсьцікам.* Масцішча Навагр.

*МАЛАДЗЯ́ЧЫНА* ж. Маладое мяса. *Маладзячыны хоча, старої каровы ні хоча рэзаць на мясо.* Крывічы Зэльв.

*МАЛАШТЭ́ЎКА* ж. Мяла. *Вазьмі малаштэўку і патаўчы бульбу, пакуль гарачая.* Гольні Бераст.

*МАЛЁ́ЎКА* ж. Каляровы аловак. *Чым тут замалюяш, малёўкаў німа; Надзя, дай мне малёўку.* Канюхі Ваўк.

*МАЛЁ́ЎНІКІ* мн. Каляровыя алоўкі. *А яму гэтыя малёўнікі хоць кожны дзень купляй, усё сьпісзае.* Пачарнейкі Свісл.

*МАЛІДАВА́ЦЬ* незак. Заяўляць, даносіць. *Хадзіў у вайну малідаваць на суседа сваго, усё жыцця зайздросьціў яму.* Стральцы Маст.

*МАЛЯВА́НКА* ж. Дзяўчына з ярка намаляванымі вуснамі. *Унь, пашлі нашы маляванкі ў клуп.* Пушчыкі Свісл.

*МАМАЛЫ́ГА* ж. Падліва. *Шчэ мая маці рабіла мамалыгу с сала, цыбулі і мукі, ціперачы я раблю.* Гуменікі Слонім.

*МАМРЫ́ЗА* м. і ж. Неадабр. Панурысты, негаваркі чалавек. *Сядзіць гэты мамрыза, слова ад яго ні выцяняш.* Вялікае Сяло Шчуч.

*МАНА'* *ж.* 1. Тое, што прываблівае, маніць да сябе. *Пчолы добро чуюць за вёрсты, дзе канюшына расьце, бо яна ману мая; Бачыш, дзеткі, як пчолы на кветку садзяцца, іх туды мана цягня.* Крывічы Зэльв. 2. Прыманка. *Бывала, як панадзяцца сарокі ў хлеў, усе яйкі выпіваяць. Тады тата прывяжыць на шэст кала хлява ману, кавалак хлеба ці сланіны, патпілнуіць і застрэліць каторую.* Косцевічы Астр.

*МАНЦЕ'ШКА* ж. Мянташка. *Як ляпну манцешкай – іскры пасыплюцца.* Жукевічы Бераст.

*МАРА'ТЫ* прым. Брудны. *Паглядзі, які ў цібе мараты твар, ідзі памыйся.* Погіры Дзятл.

*МАРГАЛЕ'* мн. Міргание (ў вачах). *Іду-іду і ўжэ сусім аслабеў, пайшлі маргале ў вачох, нічого ні бачу – і падаю.* Старое Сяло Зэльв.

*МАРГАЦЕ'ЦЬ* незак. Імжэць (пра дождж). *Сёні на дварэ маргаціць дошч.* Мяжырычы Зэльв.

*МАРДА'Ч* м. Экспр. Мардаты. *Гэты Генік такі мардач, твар расплыты; Мардаты і той хлопяц, але ні такі мардач, як гэты.* Валькевічы Зэльв.

*МАРКО'ЎНІКІ* мн. Аладкі з морквы. *Заўтра раніцай напяку маркоўнікаў, мая малая любіць.* Астравец.

*МАРМЫШЭ'* мн. Вермішэль. *Хутко зварыць можно есьці: усыпаў мармышэ, і раз-два гатовыя, забяліў і еш сабе – ні голат.* Дзярэчын Зэльв.

*МАРСКА'ТЫ* прым. Маршчыністы. *Унучкі во ні вераць, што баба калісьці маладая была. Думаяць, што такая марскатая й сівая й нарадзілася.* Косцевічы Астр.

*МАРТВІ'ЦЦА* незак. Сумаваць, тужыць, пераживаць. *Матка мартвілася па сваім сыне, які не вярнуўся з вайны.* Пагародна Воран.

*МАРХВЕ'НЯ* ж. Страва з морквы на малацэ. *Прасіла ў яе пазычыць малака, бо мархвеня хацела прыгатовіць.* Пагародна Воран.

*МАРШЧАКІ'* мн. Скураныя лапці. *Той стары быў абуты ў маршчакі.* Ракаўцы Смарг.

*МАРЫКАВА'ЦЬ* незак. Працаваць мараком, быць на моры. *Пасьля войска я застаўса марыкаваць на Балтыцы тры гады.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*МАРЫНЭ'С* м. Маянэз. *У нас рэтка калі марынэс прывозяць, хіба на святы толькі.* Пашкавічы Воран.

*МАСКАЛІ'* мн. Кулін. Салодкія пернікі. *На Пятро пад цэрквай будуць прадаваць маскалі.* Леснікі Лід.

*МАСЛОЎНЯ* ж. Маслабойка. *Трэбо сьмятаны адліць з маслоўні, бо плюхае прас край.* Сурынка Слонім.

*МАСТАЛЫГА* прым. Галёнка ў жывёл. *Масталыгу добра на халодная варыць.* Косцевічы Астр.

*МАСЦІГАВА'ЦЦА* незак. 1. Масціцца. *Думаю, дзе мой стары падзеўся. А ён кала хлопцаў масьцігуіцца як лепяй сесьці.* Косцевічы Астр. 2. Заляцацца. *Владзюк хворы быў, ніўдалы, алі жаніцца хацеў кап с файнай дзеўкай. Увідзіць дзя якую стройнаю і давай да яе масьцігавацца.* Косцевічы Астр.

*МАТО'РНЕНЬКІ* прысл. Жвавы, хуткі. *Ой, які ты маторненькі, унучак! Баба за табой не справіцца.* Монцішкі Смарг.

*МАТЫ'КА* ж. Здзекл. Пра непаваротлівую жанчыну. *Але ж узяў сабе жоначку, матыка, адным словам.* Панікарты Дзятл.

*МАТЫЛЯ'ЦЦА* незак. Завіхацца. *Уборка пачалася, то ўвесь дзень матыляяцца па полі.* Тужаўляны Гродз.

*МА'ЦЕРДУШКА* ж. Мята. *Навары мацярдушкі, папі й будзяш здаровы.* Каргаўды Воран.

*МАЦЮ'ХА* ж. Свінаматка. *Дзесяць парасяткаў прывяла гэта мацюха.* Калантаі Ваўк.

*МАЧА'ЦЦА* незак. Біцца. *На васэлі хлопцы так мачаліся, што ажно плот паламалі.* Морына Іўеў.

*МАЧУ'ЛА* ж. Лужына. *Нясіця на дарогу ў мачулу. Мы туды ўсё ніпатрэбная выкідаім.* Лашаны Смарг.

*МАЧУ'ЛЯ* н. Макрата, сырасць. *Глянь, якоя мачуля на дварэ, ўсё мокрае, ні за што ні ўзяцца.* Накрышкі Дзятл.

*МАХАБЛУ'Д* м. Экспр. Прайдзісвет, прайдоха. *Той добры быў махаблут. Ні аднаго абдурыў.* Панарка Смарг. *Гэта, брат ты мой, такі махаблут, што я це дам. У яго праўды ніколі не даб'ешся.* Косцевічы Астр.

*МЕ'ЛІЦА* ж. Пасудзіна, у якой труць мак. *Німа нат у чым маку змалоць, Ганьдзя меліцу забрала.* Азёркі Маст.

*МЕРКАВА'ЦЬ* незак. Раўнаваць, выказваць рэўнасць. *Мяркуя ш сваю староціну да сусеткі...* Гудагай Астр.

*МЕСТЫКО'ЛІЦЦА* незак. Прыладжвацца, уладкоўвацца. *Сеўшы на крэсла, яна пачала местыколіцца.* Воўпа Ваўк.

*МЕ'ШКА* ж. Корм для свіней. *Дала мешкі кабану.* Масцішчы Навагр.

*МЖА'ЎКА* ж. Імжа. *Цэлы дзень на дварэ мжаўка.* Талькаўцы Ваўк.

*МІДЗІЛЯ́Н* м. Лаянк. Свавольнік. *Я свайму мідзіляну надзяру вушы.* Жукевічы Бераст.

*МІ́КРА* ж. Крошка хлеба. *Пазьбірай усе мікры с стала.* Жукевічы Бераст.

*МІ́НЛІЦА* ж. Вялікая міска. *Пералі малако ў мінліцу, хай кісьня.* Масцішча Навагр.

*МІ́НТАЦЬ* незак. Мянцiць. *Трэба часьцей мінтаць касу, кап файна касіла.* Краглі Дзятл.

*МІНЮ́ЦІНА* ж. Узмац. Мінута. *І мінюціны ні пасядзіць вісус гэты, усё па руках лазіць.* Крывічы Зэльв.

*МІСТЫКО́ЛІЦЬ* незак. Майстраваць. *Што ты там містыколіш? Ужэ ш німа дзе ступіць за тваімі хлявушкамі.* Пачарнейкі Свісл.

*МЛЮ́ГА* м. і ж. Млявы. *Такі ўжэ млюга, ідзе-ідзе і садзіцца, як стары, нямоглік гэты!* Грабава Зэльв.

*МО́БЫЦЬ* пабочнае слова. Можа быць, мабыць. *Кап схадзіў у той лес, дзе мы ўчоры былі, мобыць, ішчэ і назьбіраў бы трохо лісіцаў.* Старое Сяло Зэльв.

*МОГІ́ЛЬЦЫ* мн. Могілкі. *Доўга над ім на могільцах бацюшка пеў.* Масцішча Навагр.

*МО́ДЗЕ* прысл. Можа дзе. – *Куды гэту бульбў дзяваць? -- Та модзе ў вядзёрко якоё высып.* Жыдомля Гродз.

*МО́ЎША* ж. Вусень. *Але ш гэта моўша і страшная.* Студзенікі Свісл.

*МО́ЧА* ж. Дажджлівае надвор'е, макрэча. *Хоць ты на двор ні вылась, моча такая. І ўжэ два нні так.* Старое Сяло Зэльв.

*МО́ЧАК* м. Вялікая бочка. *Поўны мочак гуркоў насалілі.* Лішкі Бераст.

*МУДРЫ́ЛА* ж. Мачанка. *Сёння я на сьнядання рабіла мудрылу, от намачаліся.* Ліпнішкі Іўеў.

*МУ́ЛЯНІК* м. Мазоль. *Гадзіну віламі памахаў – і ўсе рукі мулянікамі пабіло ў інцілягента гэтаго.* Радзявічы Маст.

*МУ́ЛЯЦЬ* незак. Капаць, выбіраць (бульбу). *Маці пойдзя на тарфянік бульбу муляць.* Парэчча Слонім.

*МУРМУЛЯ́ДА* ж. Мармелад. *Дзецям купіла трохі мурмуляды, нех парадуюцца.* Канвелішкі Воран.

*МУРО́К* м. Пячурка. *У нас і мурок і пячурка называяць, гэта тоя самая.* Косцевічы Астр.

*МУ́РША* ж. Дробныя кавалкі, крошкі торфабрыкету. *Муршай распальваюць печку.* Алекшыцы Бераст.

*МУ'СКАРНА* прысл. Цяжка. *Так мускарна яму арыхмецiка даецца.* Жукевiчы Бераст.

*МУСЯ'ЦЬ* пабочнае слова. Мусiць. *І ты, мусяць, нi паехаў бы, каб нi тоё дзерава на хату, га?* Дзярэчын Зэльв.

*МЫДЛЯ'РКА* ж. Мыльнiца. *Хто гэта даўней тыя мыдляркi знаў, можа паны. А цяпер у каждага ёсь.* Косцевiчы Астр.

*МЫ'ЛIЦЬ* незак. Надзiмаць (губы). *Ну чаго ты мылiш губы, хто цiбе чапая, зноў раўцi будзяш.* Змяёўцы Дзятл.

*МЫТО'К* м. Той, хто мые. *Які сь цябе мыток, ты аднаго кашаля картопяль нi памыў.* Грабава Зэльв.

*МЭ'КДА* ж. Абразл. Неахайная жанчына. *Палянь на гэту мэкду – нiзашпiляна, нiпрычэсана – да людзей сабраласа.* Пачарнейкi Свiсл.

*МЭ'НТАЛЯМ* прысл. Вельмi хутка. *Як убачыў, што госьцi прыехалi, мэнталям выляцяў с хаты.* Ляхавiчы Зэльв.

*МЭТ* м. Хват. *Старшы твой сын – мэт, спраўны хлопяц. А вот мнейшы – зусём нi такi.* Косцевiчы Астр.

*МЭ'ТНЫ* прым. Бойкi, спрытны (чалавек). *О, ён хлопяц мэтны! Усюды свайго даб'ецца.* Косцевiчы Астр.

*МЯЗГАЛЕ'ЗIНА* ж. Дубец. *Зара як вазьму якую мязгалезiну, то хутко супакоiсса.* Мастаўляны Лiд.

*МЯКЕ'КА* м. i ж. Экспр. Мяла, цяльпук. *Каб гэто спраўны чалавек, то ён зрабiў бы, а гэта мякека адно на печы палежвая; Неку мякеку ўзяў, што нiчого рабiць нi ўмея.* Старое Сяло Зэльв.

*МЯ'ЛIЦА* м. i ж. Экспр. Абжора. *Вось гэты мялiца, усё падабраў са стала.* Вярэйкi Ваўк.

*МЯЙЛО'* н. Вараная страва з нацёртай бульбы. *Сёння на вячэру звару мяйло ды некалькi яяк патсмажу.* Даргунь Гродз.

*МЯ'ЛЯ* ж. Адходы пры абiваннi iльну. *Прынясу мялю карову падаслаць.* Белякi Дзятл.

*МЯНТА'* ж. Невялiкая драўляная лапатка, якой дастаюць з печы патэльню. *Вымай мянтой з печы патэльню, кiдай блiн на стол, налiвай цеста i йзноў стаў патэльню на саганы. Вот i напячэш сабе блiноў.* Варняны Астр.

*МЯСТУ'Н* м. Матрац. *Купiла на лошко новы мястун, а то стары падраўсё i спружыны вылазяць.* Харосiца Навагр.

*МЯТЛА'* ж. Гумар. Жвавы чалавек, якi хутка ходзiць. *О, яна iшчэ такая мятла, што зь ею нi сыдзясься.* Грабава Зэльв.

*МЯ'ЦIВА* н. Бацвiнне буракоў (бурачнiк). *Я сьвiням цэлы ворах мяцiва ў дзень даю. Ядуць аш гай шумiць.* Навасёлкi Ашм.

## Н

*НАБАМБЕ́РЫЦЬ* зак. Груб. Наліць (набраць) зашмат. *А ты што, хіба больш ні магла вады набамберыць?* Малыя Эйсманты Бераст.

*НА́БЕРАДКІ* мн. Абрэзкі скуры на аброці, якія не даюць каню глядзець назад. *Конь з мухамі, дык я наберактi зрабіў і прышыў да аброці.* Баруны Ашм.

*НАБЫ́ЦЬ* зак. Павялічыцца ў памеры, напоўніцца, разбухнуць, набрыняць. *Вумянё набыло, можно падаіць Красулю; Ужэ пупяхі набылі, хутко распускацца будуць; Рука натто набыла, каб заражэня ні было, глядзі.* Старое Сяло Зэльв.

*НАБЭ́БНІЦЬ* зак. Наліць многа. *Алі ш ты мне і набэбніла супу. Ці ш столькі зьем?* Гута Іўеў.

*НА́ВАЛАЧКА* м. і ж. Непахв. Валацуга. *Цэлы дзень недзе валачыўсё, навалачка гэты.* Старое Сяло Зэльв.

*НАВАЛКАВА́ЦЦА* зак. Добра паесці, наесціся. *Ну дзякуй вам, навалкаваўся – на тры дні хопіць.* Пагародна Воран.

*НАВЕ́ДВАЧ* м. Наведвальнік. *Ён ужэ даўно стаў наведвачам у іхнюй хаці, звыкся.* Сурынка Слонім.

*НА́ВЕСЬ* ж. Іней. *Раніцай навясь на дрэвах, неба сінюткая, любата глянуць.* Лылойці Смарг.

*НАВУ́ЗНІК* м. Аброць. *Які ты гаспадар, калі навузьніка каню не можаш адзець.* Габрыялаўшчына Ашм.

*НАВУ́РЗГАЦЦА* зак. Насёрбацца. *Даўней навурзгаіся халадніку поснага з бульбай – і сыт. А цяпер папробуй дагадзі дзецям зь ядой.* Косцевічы Астр.

*НАВЯСНЕ́* прысл. У пачатку вясны. Навясьне ўжэ цяпло, хоць і сьнех ляжыць. *Грабава Зэльв.*

*НАГАГЕ́НЯНЫ* прым. Скурчаны ад хваробы, насуплены. *Хворы ваш Янак пэўно, заўсягды нагагеняны некі ходзіць.* Пачарнейкі Свісл.

*НАГЕ́РЗАЦЬ* зак. Экпр. Напісаць. *Валя ш Шураю нагерзаюць пісьмо і рагочуць.* Накрышкі Дзятл.

*НА́ГІ* мн. Козлы. *Ось зара будзям дровы рэзаць, ідзі па нагі.* Новы Двор Свісл.

*НАДАЛУ́ЖЫЦЬ* зак. Дагадзіць. *Нігды ёй ніхто ні надалужыць: усё бурчыць і бурчыць, німа ёй спасу.* Гуды Лід.

*НА́ДАЎПКА* ж. Драўляны брус, прызначаны для замацавання палазоў. *Вот ліхо! Вёз дровы, зачапіўса за пень і паламалася надаўпка.* Віньkoўцы Лід.

*НАДАЎЧЫ* прым. Той, які перадае. *У парцізанаў была свая надаўчая станцыя. Яны ўсё расказвалі, як жывуць, як нешта б'юць.* Старое Сяло Зэльв.

*НАДЖЭ'РГАЦЬ* незак. Экспр. Напісаць. *Сяду і пісьмо дацэ наджэргаю.* Накрышкі Дзятл.

*НАДЗЮДЗЮ'КАЦЦА, НАЗЮЗЮ'КАЦЦА* зак. Выпіць шмат спіртнога, напіцца. *Наш Міхась так на васэлі надзюдзюкаўся, што цягнулі дахаты.* Асіпаўцы Воран. *Назюзюкаўся ўжо, чорт лысы, дык ляжы, а то, бач ты, йшчэ хочыць нешта.* Астравец.

*НАДЗЯВО'ЧЫЦЦА* зак. Стаць дарослай, прыгожай дзяўчынай. *Паглядзі, Ганніна дачка, ні пасьпелі аглянуцца, як надзявочылася.* Гадуны Гродз.

*НАДУ'БІЦЦА* зак. Цёпла апрануцца. *На вуліцы цёпло. Што надубіўсё, як зімой.* Рыбакі Шчуч.

*НАДУ'ТЫ* дзеепрым. Пакрыўджаны. *Злосны некі, надуты ходзіць твой гаспадар.* Старое Сяло Зэльв.

*НАЖЭ'НДЗЯ* н. Начынне. *Вазьму нажэньдзя і пайду печ рабіць.* Клешнякі Шчуч.

*НАЗМЫ'СНЯ* прысл. Наўмысна. *Назмысьня ён ні мох так зрабіць, ён чалавек добры.* Русакі Бераст.

*НАЙМА'ННІЦА* ж. Наймальніца. *Хай да Рыбака сходзіць гэта найманніца, то там будзя каго наняць жжаць жыто.* Грабава Зэльв.

*НАЙПАСЛЕ'Й* прысл. Пазней за ўсіх. *Я фсігда найпасьлей прыхадзіла дахаты. Дацямна на полі была.* Варняны Астр.

*НАКАПІ'ЧЫЦЬ* зак. Сабраць, накапіць. *Жыве галодніцаю, а грашыскаў тых накапічыў зь мяшок; Усяго накапічыла, можно і замуж ісьці.* Грабава Зэльв. *Двоё робяць, дзіво што накапічылі ўсяго.* Грабава Зэльв.

*НАКАРАМЫ'ЗГАЦЬ* незак. Неахайна напісаць. *Накарамызгаць пісьмо да брата.* Мыслова Слонім.

*НАЛА'ПЛЕНЫ* дзеепрым. Налатаны. *Ужэ налаплена шапка, можаш класьці на голаў ды ісьці на двор.* Грабава Зэльв.

*НАЛІВА'ЧКА* ж. Падсмажаная каўбаса, начыненая цестам з ячневай мукі. *Налівачка ні просто сь цеста робіцца, туды яшчэ і скварак дабаўляюць, і прыправы ўсякія.* Сабаляны Гродз.

*НАЛІ'ЦЦА* зак. Апухнуць. *Пасьля сну хлапец наліўся як груша.* Ракаўцы Смарг.

*НАЛЫ'КАЦЦА* зак. Асудж. Ап'янець, упіцца. *Во налыкаўся як сьвіня і слова сказаць ня можа.* Вішнева Смарг.

*НАЛЯ'СНІК* м. Тонкая аладка. *Дай налясьнікаў паесьці.* Ганчары Свісл.

*НАМАРАФЭ'ЦІЦЦА* зак. Начапурыцца, выстраіцца. *Намарафэцілася, як лялька, і толькі яе й бачылі. Вот такая помач, ты тут дома адзін калупайся.* Вішнева Смарг.

*НАМО'НАЦЬ* зак. Накупляць, набыць. *На цябе ні намонаш адзежы, чаму ты яе так ўжэ дзярэш?* Ліпнішкі Іўеў.

*НАМЫ'ЖЫ* мн. Шнуркі. *Завяжы дзіцяці намыжы, бач, паразьвязваліся.* Багуславова Шчуч.

*НА-НА-НА'!* Выкл. Так падклікаюць сабак. *Лыско наш пабех недзя. Пайду паклічу. На-на-на!* Грабава Зэльв.

*НАПАРА'ЦЦА* зак. Запасціся, дастаць у патрэбнай колькасці. *Дзе я вам напараюся гэтых цукерак?! Як дай, так дай! Аднымі цукеркамі й жылі п.* Косцевічы Астр.

*НАПА'СКА* ж. Час пасьбы (з раніцы да абеду). *Уначэ падаў дошч, цэлу напаску сённячы каравы хадзілі як пабітыя.* Галынка Ваўк.

*НАПІ'НДЖАНЫ* прым. Экспр. Шыкоўна апрануты. *Аляй ты дзісь напінджаны, хібо на канцэрт пойдзяш?* Вішнеўка Бераст.

*НАПІ'ЦАВАЦЦА* зак. Груб. Наесціся. *Карова прышла с поля, напіцавалася гаш стогня.* Малдавічы Дзятл.

*НАПЛЯСНЯ'ЦІЦЬ* зак. Нанесці бруду, наслядзіць. *Госьці то госьці, алі сколькі наплясьняцілі. Трэба станавіцца падлогу перамываць.* Падольцы Астр.

*НАПРУ'ДА* м. і ж. Зневаж. На надзьмутага чалавек. *А той напруда ўвесь вечар слова не вымавіў.* Ятвезь Ваўк.

*НАПЯРЭ'СПЯХІ* прысл. Навыперадкі, хто хутчэй. *Як на работу -- ледзьвя валакуцца, а як з работы -- бегма, напярэсьпяхі бягуць дахаты.* Грабава Зэльв.

*НАПЯРЭ'СЦІГІ* прысл. Наперарэз. *Хацеў уцякчы, так напярэсьцігі выбяглі двaіх і паймалі каня.* Старое Сяло Зэльв.

*НАРА'ЎНЫ* прым. Упарты. *Конь Бома натто нараўны.* Камаровічы Карэл.

*НАРУГА'ЦЦА* незак. Не слухацца, жартуючы, рабіць супраць волі другога. *Ні плач! Дзет жа наругаіцца. Дастаніць ён табе гэты мячык, толька драбіну трэба ўзяць.* Косцевічы Астр. *Ні наругайся мне, а то бацьком раскажу.* Вугляны Смарг.

*НАРЫ'СХРАСТ* прысл. Насцеж. *Чаго ты рашчыніў дзьверы нарысхраст?* Погіры Дзятл.

*НАРЫ'ШНІКІ* мн. Набадры. *Зара біз нарышнікаў егдзяць, коням дрэнно.* Гарны Гродз.

*НАСАЛО'ДА* ж. Асалода. *Маладыя с такой насалодай скакалі, што ўняць да раніцы ні маглі.* Нача Воран.

*НАСАЎСІ'М* прысл. Назусім, назаўсёды. *Насаўсім прышоў з войска;* Аддаю насаўсім гэты ножык табе, як падарунак. *Крывічы Зэльв.*

*НАСЕ'ННІК* м. Нагулянае дзіця, байструк. *Хлопяц той паехаў, а яна з насеннікам асталася.* Руда Яварская Дзятл.

*НАСЁ'ЛЫ* мн. Жэрдкі для пераносу сена. *Вазьмі насёлы і пойдзям па сено, бо туды возам ні даедзяш.* Роскаш Навагр.

*НАСІ'СКО* м. Узмац. Вялікі нос. *Такі насіско, што ў людзей ні бывая, як дзюп у арла.* Крывічы Зэльв.

*НА'СЛІШЧА* н. Сцелішча. *Гані каровы на наслішча, лён ужэ паднялі.* Парэчча Дзятл.

*НАСЛЯДАВА'ЦЬ* зак. *Дзеці ног ні выціраяць прышоўшы, насьлядуяць... Ізноў ст.інавіся мый падлогу.* Косцевічы Астр.

*НАСМЯ'ТАК* прысл. Моцна (збіць). *Што ні паслухаў, та насьмятак малога зьбіла.* Паплаўцы Бераст.

*НАСНЯГА'ЦЬ* зак. Нападаць, намесці (пра снег). *За ноч столька сьнегу насьнягаіць, што раніцай с хаты ні вылязіш.* Косцевічы Астр.

*НАСТАКАНІ'ЦЦА* зак. Здарожыцца. *Цяшко з малою ў дарозі. Настаканісса, покуль прыедзяш.* Мастаўляны Лід.

*НАСТРАМА'ХА* ж. Роўна складзеная паленіца дроў. *Малайцы, хлопцы, добрую настрамаху склалі за дзень. Зімою будзя што паліць.* Уселюб Навагр.

*НАСУПЯВА'ТЫ* прым. Насуплены, сумны, хмуры. *Чаму ты сёня насупяваты? Можа, баліць што?* Панарка Смарг.

*НАСУ'РКА, НАСЮРКА* ж. Насавая хустачка, насоўка. *Насурку ні забуцься, можа, плакаць будзіш. Маладой трэба хоць адну сьлязу пусьціць.* Косцевічы Астр. *Чаму ты ніколі насюркі с сабой ня носіш? Ня маіш чым носа выцярці.* Варняны Астр.

*НАСЫПА'ННІЦА* ж. Жанчына, якая насыпае. *І насыпаннік, і насыпанніца, то чаму вы дваіх ні спраўляяцяся насыпаць у мяхе (жыта)?* Крывічы Зэльв.

*НАТА'ЙЗА* ж. Гальштук. *Натайза падыходзіць да кашулі, якрас па цьвету добро.* Лагады Шчуч.

*НАТАПТА'ЦЦА* зак. Наесціся (звычайна густой стравы). *А маім кашы тоўчанай с халаднікам захацелася, даўно ні елі. Зварыла, дык з навіны так натапталіся, што чуць ат стала паатпаўзалі.* Косцевічы Астр.

*НАЎДЫ'* прым. Кепскі, дрэнны. *Наўды ў цібе сусет, Маня!* Бярэжкі Зэльв.

*НАФУФЫ'РЫЦЦА* зак. Апрануцца па-святочнаму, прыбрацца. *Самі яшчэ шпігаўкі, а туды ш. Нафуфырыліся ды на танцы.* Дабраўляны Смарг.

*НАХАРО'МІЦЦА* зак. Іран. Прыняць важны выгляд. *Бачылі як брыгадзірко нахароміўсё перат пратсядацялям.* Сурынка Слонім.

*НАЦВІ'ЧЫЦЬ* зак. Набіць. *Трэбо нацьвічыць яго добро, кап нікуды ні бех.* Хацькоўцы Ваўк.

*НАЦУ'ХЛІЦЦА* зак. Асудж. Напіцца, нажлукціцца. *Адно п'е і п'е гэту воду, а есьці ні есьць. Нацухліцца і ляжыць; Ужэ нацухліўсё? Пакуль паўзбанка квасу зарас ні вып'я, то нікому пакаштаваць ні дасьць.* Старое Сяло Зэльв.

*НАЦЯ'СЦІСЯ* зак. Вельмі захацець. *То ўжо мый рукі, як нацялася.* Масціішча Навагр.

*НАЧО'ВАЧНІК* м. Драўляная дзіцячая калыска, якая вяроўкамі прымацоўваецца да столі. *Палянь, як там дзіцё ў начовачніку? Мо, ні сьпіць ужэ.* Вінькоўцы Лід.

*НАЧО'ЎКІ* мн. Перан. Непахв. Кішэчнік. *Ужэ з гадзіну за сталом і ўсё трубіць і трубіць, ніяк начоўкі сваё ні напхая. От прожар гэты!* Крывічы Зэльв.

*НАШУ'ЙКА* ж. Ноша, пакунак, клунак. *Ідзеш, шчэ й нашуйку на сабе нясеш, давай памагу.* Грушанцы Іўеў. *Нашуйка ў міне цяшкая, да сына ш еду.* Лагады Шчуч.

*НЕ'БЫСЬ* злуч. Як быццам. *Месяц так ясна сьвеціць, ну, небысь дзень.* Луцкаўляны Гродз.

*НЕДАЛЭ'ЖНЫ* прым. Няздольны, няздатны, недалужны. *Ой, які ты, Стасю, недалэжны, нічого рабіць ні ўмеяш, і як ты жыць будзяш.* Боркі Дзятл.

*НЕДАПЫ'РАК* м. Зневаж. Малы і худы чалавек. *Такія хлопцы сваталіся, а яна за некаго недапырка пашла.* Пагародна Воран.

*НЕ'ЖАР* м. Сухая балотная трава, трыснёг. *Нежар на балоце расьце, ніякая скаціна яго ня есьць.* Баруны Ашм.

*НЕЗАБА'ВЯЧЫСЯ* у ролі прысл. Неўзабаве, хутка. *Я доўго ні буду ў крамі, нізабавячыся прыду; Хутко, нізабавячыся прынёс аўса каню.* Валькевічы Зэльв.

*НЕКІШЭ'ННЫ* прым. Адабр. Знаходлівы ў размове, які па слова ў кішэню не лезе. *О, ён на язык бойкі, нікішэнны чалавек.* Шастакі Шчуч.

*НЕ́МЧЫК* м. Самаробны ножык-складанік з драўлянай ручкай. *Немчыкам добро грыбэ зразаць у лесі.* Самуйлавічы Маст.

*НЕ́РАПА* ж. і м. Асудж. Чалавек, які надта многа есць. *От ты таксама некая нерапа. Ясі, покуль ні зьляжаш.* Дамейкі Лід.

*НЕ́РВЕННЫ, НЭРВЕННЫ* прым. Хворы на нервы, нервовы. *Зь ім хай ні заводзіцца, бо так і трэсьня па галаве, ён нэрвянны.* Старое Сяло Зэльв. *От нервенны, гаш рукі трасуцца.* Старое Сяло Зэльв.

*НЕ́ТРА* м. і ж. Здзекл. Ненаедны чалавек, абжора. *Гэты нетра ўсю хату аб'еў.* Ятвезь Ваўк.

*НЕЎДАЛО́ТА* м. і ж. Няўдалы, няздатны чалавек, няўмека. *Ну й няўдалота ш ты! Навет у хаця добра ня прыбярэш.* Палушы Астр.

*НЕЎНАРО́ЎНЫ* прым. Якому цяжка ўнаравіць. *Мой мужык неўнароўна натура, цяшко з ім.* Мяльканавічы Слонім.

*НЕ́ШТА-НЕКАЕ* займ. Штосьці. *Хадзі, я табе нешта-некае раскажу.* Сінькі Бераст.

*НЕШЫХО́ЎНЫ* прым. Няўдачлівы, якому не шанцуе. *Дзень сёня некі нішыхоўны, за што ні вазьмуся, усё з рук валіцца.* Біцеўцы Шчуч.

*НІГО́ДНЕНЬКІ* прым. Ніводзін. Столькі дзіцей, і нігодненькі ні паможа. Рыбакі Шчуч.

*НІДАЛЭ́НГА, НЕДАЛЭ́НДА* м. і ж. Нязграбны, няспрытны ў рухах, няўклюдны чалавек; недалуга. *Бываіць і маладая, а спрыту ня маіць, усё хоць як палучаіцца. Нідалэдга адным словам.* Косцевічы Астр. *Грышка Жменькаўскі нейкі нідалэнга.* Рымцелі Смарг. *Алі ш ты і недалэнда! Усё ў цябе з рук валіцца.* Вугляны Смарг.

*НІДО́ЙДА* м. і ж. Нязграбны, няўклюдны чалавек. *Нідойда гэта нігды па-люцку ні зробіць, усе за ёй перарабляць трэбо.* Пачарнейкі Свісл.

*НІЗВЯЗЛО́ЦЦЯ* н. Няўдалы, няздатны чалавек, няўмека. *Дзяржы ты мацней, нізвязлоцця ты нішчасная! Усю муку с табой рассыпіш.* Косцевічы Астр.

*НІРО́ДНІЦКІ* прым. Чужы. *Ціпер некія людзі нірдніцкія сталі, анны анных кусаюць.* Руда Яварская Дзятл.

*НІСПАДЗЁ́ЖНЫ* прым. Ненадзейны. *Коні етыя ніспадзёжныя, ні давядуць да хаты.* Драпава Слонім.

*НІЎДАЛО́ЦЦЯ* н. Няўдалы, няздатны чалавек, няўмека. *Малады, здайся, а такоя ніўдалоцця. Трэба кап ужо й свая галава капавала, як лепяй зрабіць.* Косцевічы Астр.

*НІХЛЮ́ТА* м. і ж. Асудж. Няўклюдны, нехлямяжы, нерастаропны чалавек. *Ніхлюга гэта нігды гароччыку ні апрача.* Стральцы Маст.

*НІЦЕ́ЛЬНІЦЫ* мн. Прыстасаванне для зацягвання нітак у кроснах. *Ніткі ў ніцельніцы і бердаю прыбіваям.* Руда Яварская Дзятл.

*НО́ЧВЫ* мн. Непахв. Жывот. *Пакуль ночвы накладзе, то з-за стала ні вылязя. Яму тры порцы трэба ззесьці, каб наеўсё.* Грабава Зэльв.

*НО́ЦІЦЬ* незак. Спяваць. *Зноў пачалі ноціць штосьці.* Хацькоўцы Ваўк.

*НУДА́* ж. Вош. *У яго нуда завялаца ў галаве.* Лішкі Бераст.

*НУДЗЬБА́ ж. Нудота. Як на гэтум хутары маладым жыць, адна нудзьба; Нудзьба заела п, каб ні гэто радзіво, жывучы аднаму ў полі.* Грабава Зэльв.

*НУДЗЬБО́ТА* ж. Тое, што і нудзьба. *Агортвае нудзьбота, як астанесься адзін у хаці, трэба, каб хто быў с табою. Хоць стары, аля жаніся, весялей будзя вам.* Валькевічы Зэльв.

*НУ́РЫЦЬ* незак. Перабіраць (бульбу). *У капцы ўся бульба пагніла, нурыць хучэй трэбо.* Радзявічы Маст.

*НЭ́НДЗІЦЬ* незак. Ныць. *Што ты за маці?! Дзіця ні можаш дагледзіць... Чаго ён нэндзіць цэлы дзень?* Путрышкі Гродз.

*НЭ́ЦКІ* мн. Маленькія начоўкі. *У нэцках раней дзяцей купалі.* Ваўкавічы Навагр.

*НЮ́ХЧЫЦЬ* незак. Зніж. Настойліва выведваць што-н. у каго-н. *Усё нюхчыць і нюхчыць, і чаго?* Масцішча Навагр.

*НЯБЫ́ТКА* м. і ж. Нябачанка. *Што ты нібытка, што цібе ні ўгледзяць? Угледзяць, ні бойся.* Канюхі Ваўк.

*НЯВЕ́ДАМА* прысл. Невядома. *І дзе гэто ён цягаўсё? Няведама колькі чакай, а яго ўсё німа і німа; І няведама, дзе шукаць гэтых кароў, бо нідзе ні відно.* Старое Сяло Зэльв.

*НЯВЫ́ВАЛКА* ж. Зневаж. Няўдалы чалавек. *Ну й нявывалка, усю прыгажосць сапсавала.* Міратычы Карэл.

*НЯГЕ́ДА* м. і ж. Гультай. *Нягеда ты, Андрэй, нічого ні хочаш рабіць.* Ляхавічы Зэльв.

*НЯДБА́ЙЛІШЧО* м. і ж. Узмац. Нядбайла. *Такі ўжэ нядбайлішчо, што сьвет ні бачыў.* Старое Сяло Зэльв.

*НЯДЗЕ́ЛЬНІЦА* ж. Тая, хто нядзелюе. *І нядзельніца наша прышла.* Грабава Зэльв.

*НЯДЗЕ'ЛЯВАЦЬ* незак. Быць дзе-н. цэлы дзень у нядзелю. *Пайду на цэлы дзень да Агаты. Яна ж хворая, буду там нядзеляваць.* Грабава Зэльв.

*НЯЗРЫ'ВЫ, НІЗРЫ'ВЫ* прым. Нярупны. *Нізрывы чалавек гэты Антось.* Бачанцы Ваўк.

*НЯЛЁ'НТЫ* прым. Негаваркі, замкнёны, нелюдзімы. *Ты п лепяй у міне спытаў, а то сам некі сьмешны, хацеў ад гэтава нілёнтава нешта пачуць.* Старая Руда Гродз.

*НЯЎЖЭ'* прысл. Няўжо. *Я ні думаю, каб гэто так было. Ніўжэ ён мох гэто зрабіць – чужую жонку ад мужыка забраць.* Старое Сяло Зэльв. *О'СЯКА* прысл. Вось. *Осяка зарас памагу, толькі па гаспадарцы ўпраўлюся.* Лаўрынавічы Свісл.

# П

*ПААДХЛЯБЕ'НЬВАЦЬ* зак. Паадчыняць. *Паатхлябеньвалі ўсе дзьверы наўсьцяж, рыхтык вясна на дварэ.* Студзенікі Свісл.

*ПААСЯНЕ'ЦЬ* зак. Наступіць (пра восень). *Натто гарачо цяпер, баюсё калоць паршука. Хай паасянея, будзя халадней, тагды ні змарнуяцца мясо.* Грабава Зэльв.

*ПААШВА'БЛІВАЦЬ* зак. Палавіць. *Кот усіх мышэй паашвабліваў.* Пушчыкі Свісл.

*ПАБАДЗЯ'КА* м. і ж. Груб. Валацуга. *Гэты пабадзяка мой ужо каторы дзень начаваць ні прыходзіць.* Геранёны Іўеў.

*ПАВАДЗЭ'НЯ* н. Прыгода. *Была маладая, стольні павадзэняў было.* Міроўшчына Дзятл.

*ПАВАЛЕ'ЧЫНА* ж. і ж. Асудж. Марудны чалавек. *Рухам, рухам, а тош пляцесса як павалечына.* Ходараўцы Лід.

*ПАВА'РНІК* м. Воз для перавозу дроў. *Запрэглі каня ў паварнік, бо па дрова трэба ехаць.* Харосіца Навагр.

*ПАВАРО'ТНО* н. Выкуп за маладую на вяселі. *З маладого добрая паваротно ўзялі.* Касцяні Слонім.

*ПАВА'ГВАЦЦА* незак. Вагацца. *Едзя і павагваяцца ў брыццы.* Валькевічы Зэльв.

*ПАВЕ'ТРАЦЬ* незак. Непахв. Бадзяцца. *Дзе ваша Маня? Паветрала недзя; Кажуць ваш Ваня прыедзя дадому. А дзе ён дзеняцца. Паветраў па свеці ды йзноў дахаты прыедзя.* Конюхі Ваўк.

*ПАВУЧЫ'НЯ* н., зб. Павуцінне. *Такой парой і цёпла, алі ўжо ня лета. Рас павучыня плывець, значыць, скора восянь; Здымі, сынок павучыня ў кутку.* Косцевічы Астр.

*ПАВЯСНЕ'ЦЬ* зак., безас. У ролі выказніка. Пацяплець як на прадвесні. *У маццы павясьнело і ўжэ маразоў вецькіх ні было.* Грабава Зэльв.

*ПАГАНЯ'ЙЛО* м. і ж. Той, хто паганяе коней (пры малацьбе коннай малатарняй). *Хоць малы, аля добры паганяйло: коні ходзяць добро, ні бегаюць і ні ацстаюць.* Грабава Зэльв.

*ПАГАНЯ'ЦЬ: ПАГАНЯЦЬ МАЛАДОЕ.* Трымацца звычак маладых. Грабава Зэльв.

*ПАГАРТА'ХА* ж. Качарга. *Падай пагартаху, у печы дрова паварочаць трэба.* Каралін Зэльв.

*ПАГІБА'ЦЬ* зак. Пагнуць, зрабіць няроўным. *Была харошая скрыначка ат кавы, можно было што трымаць у ёй, так пагібаў усю. Нашто табе было гібаць?* Грабава Зэльв.

*ПА'ГІЛЬ* м. Дубец. *Вазьмі добры пагіль і загані карову ў хлеў.* Гнесічы Навагр.

*ПАГРАБА'ТЫЯ* мн. Тыя, хто грабуць сена. *Буслы не баяліся паграбатых, што пераварочвалі на балоце сено.* Харосіца Навагр.

*ПАДАВА'ЦЬ* незак. Перадаваць. *І сёніка будзя дошч, падавалі па радзіві.* Грабава Зэльв.

*ПАДАРО'ЖАЦЬ* зак. Падаражаць. *У гэтум року много ні было тых яблыкаў, таму хутко і падарожалі яны, нек ужэ з восяні.* Дзярэчын Зэльв.

*ПАДА'ЧНІК* м. Жалабок, які падае зерне ў жорны. *Падачнікам можна боляй ці меняй зярна падаваць на каменя.* Руда Яварская Дзятл.

*ПАДБЕ'ЛЬНІКІ* мн. Шампіньёны. *У нас падбельнікі рэтка хто й бярэ.* Пагародна Воран.

*ПАДБО'ЛКА* ж. Камерцыйная крама. *Каля самага базару падболка стаіць, там усяго поўно.* Васілевічы Слонім.

*ПАДВО'Й* м. Сухі мазоль на падэшве нагі. *Як быў падвой у мяне, то нагою ні абутая, ні разутая ні магла ступіць.* Плянта Навагр.

*ПАДДЗЫГА'ЦЬ* незак. Дакучаць. *Гаварыла я табе: ні лесь ты да іх, будзяш знаць, як паддзыгаць.* Стокі Свісл.

*ПАДКАЛЕ'НІКІ* мн. Гольфы. *Марыся надзявала падкаленікі толькі ў школу.* Харосіца Навагр.

*ПАДКАЛО'ЧАНІКІ* мн. Бульбяны суп на малацэ, зацёрты мукой. *Маці наварыла паткалочанікаў.* Пачарнейкі Свісл.

*ПАДЛЯТУ'ХА* ж. Падлетак. *Ты тады яшчэ падлятухаю была, калі немцы прышлі.* Уселюб Навагр.

*ПАДМЕ́ЦЦЕ* н. Апошні снег. *Кап ні гэто падмецце, та можно было п сеяць ужэ.* Масцішча Навагр.

*ПАДПО́ЛЬНІК* м. Падпольшчык. *Наш кравец Пчала пры Польшчы падпольнікам-камсамольцам быў.* Грабава Зэльв.

*ПАДРА́НКІ* прысл. На досвітку, перад світаннем. *Падранкі, як пачнуць пятухе сьпяваць, ні сплю ўжэ, і нек халаднавато у хаці робіцца, што адразу прачхнесься.* Грабава Зэльв.

*ПАДРЫНДАВА́ЦЬ* незак. Хадзіць, гуляць. *Дзяўчат вашых дома німа: мусіць, падрындаваць трохі пашлі дзе-небуць.* Ваўкавічы Навагр.

*ПАДРЫ́ЎКА* ж. Сетка для лоўлі рыбы. *Вясною добро падрыўкаю рыбу лавіць.* Падрось Ваўк.

*ПАДСМАЛЯ́НКА* ж. Скавароднік з кіслага цеста, спечаны на полымі. *Смашна пацсмалянка – то й хлеп добры будзя.* Лаўрынавічы Свісл.

*ПАДСТАРКАВА́ТЫ* прым. Немалады, пажылы. *Ішчэ дужы конь, хоць і пацстаркаваты; Хай сабе і пацстаркаваты ён, аля і ты ні сямнастоўка. Чаму табе ні выйсьці за яго. Жылі п сабе дваіх.* Грабава Зэльв.

*ПАДСЫ́ТА* ж. Цёрты мак, разбаўлены гатаванай салодкай вадой. *У нас у хаця ўсе патсыту любяць.* Ст. Гудагай Астр.

*ПАДТЫ́ННІК* м. Чыстацел. *Падтыннік натта добры для мыцця галавы.* Уселюб Навагр.

*ПАДХАДЗЯ́ШЧО* прысл. Як мае быць, шмат. *Зранку як пайшоў, то да палудня патхадзяшчо назьбіраў ягадаў чорных; Патхадзяшчо грыбоў набраў мой малы сёнячы.* Грабава Зэльв.

*ПАДХЛАПЕ́Ц* м. Малады хлопец, падлетак. *А гэта хто? Патхлапец твой?* Калантаі Ваўк.

*ПАДЦІКА́ЦЦА* зак. Падкрасціся. *Магілёвых малых ні першы рас віджу пад нашай малінаўкай. Некалі патцікаюся і так атпсюру, што дзісятаму закажаць.* Косцевічы Астр.

*ПАДЦЯЦЮ́РЫЦЬ* зак. Іран. Падрэзаць, пастрыгчы. *Такія былі валасэ харошыя, дак патцяцюрыла, гаворыць, так модно зара.* Ядуці Іўеў.

*ПАЗАБО́ЛЬВАНЫЯ* дзеепрым. Прыгнілыя. *Доўго ні паляжаць гэтыя яблыкі і грушы, бо ўсе пазабольваныя; Некі, кажуць рак нападая на сат, усё дзераво пазабольвано.* Старое Сяло Зэльв.

*ПАЗАДУВА́ЦЬ* зак. Занесці снегам (пра многія аб'екты). *Нігоднаго пянёчка ні бачу, усе сьнегам пазадувало.* Савічы Зэльв.

*ПАЗНАТА'* ж. Надта позні час. *Дзе ўжэ я заеду дахаты, пазната такая. Буду прасіцца ў вас пяраначаваць.* Валькевічы Зэльв.

*ПАЗУБА'ЦЬ* зак. Скончыць зубаць – вызначаць моц вараных лек, пастукваючы аб зубы. *Усе яйца пазубаў, то ні дзіво, што ведаяш, якое мацнейшо.* Грабава Зэльв.

*ПАЗЯХА'ЧКА* ж. Пазяханне. *Здэцца, і спаў німало, а от нека пазяхачка напала, усё пазяхаю і пазяхаю, як дзень велькі.* Старое Сяло Зэльв.

*ПАКАМЯ'ЧАНЫ* дзеепрым. Скамечаны, пакамечаны. *Ні павесіў на вяшак, а кінуў на запяк касьцюм, то дзе ён ні будзя пакамячаны.* Грабава Зэльв.

*ПАКАРА'ВІЦЬ* зак. Зрабіць каравымі (анучы). *Ногі пацеюць, то мяняя ганучы разоў со-тры за зьмену, то і пакаравіў усе, німа чаго ў боты абуць.* Грабава Зэльв.

*ПАКАТУ'ХА* ж. Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах, разносіць плёткі. *У нас на вёсцы ёсьць адна пакатуха, што па хатах плёткі разносіць.* Церахавічы Свісл.

*ПАКІ'ПВАЦЬ* незак. Кіпець у невялікай меры. *Я на трохо адхілюсё с хаты, а ты за гаршкамі палядзі, але ні круці, хай пакіпваюць, пакуль вярнусё.* Грабава Зэльв.

*ПАКЛЮ'ЧЫЦЦА* зак. Сагнуцца, пераламацца (пра каласы збажыны). *Ні будзя як жаць ячмень гэты, весь паключыўсё, каласэ ападаюць, як жнеш.* Грабава Зэльв.

*ПАКРЫ'ШАЧЦЫ, ПАКРЫШЦЫ* прысл. Патроху, пакрышку. *Як хочаш, п'о назьбіраяш тых грошай і пакрышаццы аткладваючы кожны месяц.* Грабава Зэльв. *Пакрысцы, много ні валі на яго, каб хоць гэто занёс, ён у нас стары, нідужы.* Старое Сяло Зэльв.

*ПАКУЛДЫБА'ЦЬ* незак. Пайсці кульгаючы. *Мой стары ўжэ некуды пакульдыбаў, мусіць, да Пецькі Марцэсінага.* Дзевяткі Бераст.

*ПАКУ'ЛЬСЦІКА* прысл. Пакуль што. *Пакульсьціка нікого ні было, можа пазьней падыдуць.* Грынкі Свісл.

*ПАКУЛЯ'НКА* ж. 1. Самаробная коўдра з грубай тканіны. *Акрывайса добро пакулянкай ды пасьпі трохо.* Вінькоўцы Лід. 2. Вялікая суконная хустка. *Калі ідзеш на работу, закручвай пакулянку на голаў, то і ў плечы цяплей будзя.* Вінькоўцы Лід.

*ПАКУ'ПНЫ* прым. Хадавы, ходкі. *Сёніка мёт – пакупны тавар: адно падай – раз-два разьбяруць.* Грабава Зэльв.

*ПАЛА́НКА* ж. Драўлянае карыта, якое выкарыстоўвалася падчас чысткі зерня. *Мо трэбо яшчэ які рас працярушыць гэто зерня, а тош паланка цэла сьмецця.* Вінькоўцы Лід.

*ПАЛАМА́НЦЫ* мн. Печыва з мукі, ламанцы. *На куцю зраблю паламанцаў.* Алекшыцы Бераст.

*ПАЛАЦЕ́НКІ* мн. Святочная спадніца з аборкамі. *У мяне калісь, дзяўчынай, былі прыгожыя з аборкамі палаценкі.* Баруны Ашм.

*ПАЛО́ХАЛА* н. Перан. Пудзіла (пра чалавека). *Куды ты ў людзі пойдзяш так, палохало.* Крывічы Зэльв.

*ПАЛУ́ДЗІЦЬ* зак. З'есці патаемна. *Відаць, палудзіў усе каўбасы, бо толькі воду папівая.* Пушчыкі Свісл.

*ПАЛЬЦЭ́ТКА* ж. Манжэта ў рукавіцах. *Спачатку вяжуць пальцэтку.* Масцішча Навагр.

*ПАЛЯ́* зак. Паглядзі. *Паля, паля, што атрымаласё.* Свіслач.

*ПАЛЯДЗЕ́ЦЬ* зак. Адведаць. *Падаю каравэ і пайду бацька паляджу. Кажуць, ён моцно захварэў; Зьбіраямсё да дзеда палядзець.* Старое Сяло Зэльв.

*ПАЛЯ́НТ* м. Палка для народнай гульні «Горад ці поле». *Ляці і прынясі другі палянт, бо ні дагулялі да канца, а гэты зламаўса.* Клінчаны Гродз.

*ПАЛЯНЫ́* прым. Палявы. *Бабок бывая лясны і паляны. Што на полі расьце, паляны , кажуць, лепяй памагая ад жывата; Паляны грып пры лесі, пры бярэзьніку на полі расьце.* Грабава Зэльв.

*ПАМАРА́НЖАВЫ* прым. Аранжавы. *Купіла сабе свэтар памаранжавы. Цёплы, алі натта ш яркі.* Косцевічы Астр.

*ПАНАДВО́РА* н. Двор каля хаты. Падворак, панадворак. *Панадвора даўно ні мецена, аш стыдна ад людзей.* Косцевічы Астр.

*ПАНЕ́НКА* ж. Кашаміравая хустка вялікага памеру, у кветкі. *Паедзяш у госьці, завяжы на голаў паненку, натто да цібе ідзе.* Вінькоўцы Лід.

*ПАНІКА́ЦЬ* незак. Падглядваць. *Што ты за ўсімі панікаяш? Для чаго гэто табе?* Міратычы Карэл.

*ПАНЫРНУ́ЦЬ* зак. Спатыкнуцца. *Відома, дзеткі, які там са старога хадок, а йшчэ зімой. Ідзеш і пад ногі ўглядаіся, кап ні панырнуць дзе, бо як паваліся, то й ні ўстаніш сам.* Косцевічы Астр.

*ПАНЯ́ТЛІВЫ* прым. Кемлівы. *Яму много ні трэба ражжоўваць. Ён раз-два ўсё пайме, панятлівы хлопяц. Мо вучоным будзя.* Старое Сяло Зэльв.

*ПАПАДВОЌНІЧУ* прысл. Пад вокнамі, каля вокнаў. *Як вяселё было, то колькі тых людзей было скрось: на панадворку і пападвокнічу, усё патаптали.* Савічы Зэльв.

*ПАПАРАЎНЫ* прым. Ветлівы. *Папараўныя ў яе дзяўке, нігды слова кепскага ні скажуць.* Леснікі Лід.

*ПАПРЫЯГДЖАЋЬ* зак. Папрыязджаць. *Папрыягджалі, як вяселё было, усе сынэ ж жанкамі і дачке з мужыкамі. Поўна хата людзей было.* Савічы Зэльв.

*ПАПСУЋЬ* зак. Сапсаваць. *Ну й нашто ты папсуў новаю цацку? Боляй ні буду купляць.* Варняны Астр.

*ПАПСЭ'ЛЬ* м. Іран.-ласк. Дзіця. *Папсэль гэты маленькі мой усе на ручкі просіцца. Пара ўжэ ношкамі топаць.* Пушчыкі Свісл.

*ПАПШЭЋІЦЬ* зак. Папсаваць. *Ні дам рады з гэтымі курмі, усе грады папшэцілі, усё павыграбалі.* Сцеркава Лід.

*ПАРАВЫ'* прым. Які памёр не заўчасна, пражыўшы доўгае жыццё. – *Памёр такі Юзюк. – І так добра пажыў, дзівяты дзісятак пачаў, паравы.* Косцевічы Астр.

*ПАРАСО'ЛЬКА* ж. Парасон. *Можа будзя дошч, то вазьмі парасольку.* Брузгі Гродз.

*ПАРАСЯЋКА* ж. Свіння (з малымі парасятамі). *Гэту парасянку ні накормісся, такая галодная, як ходзіць с парасятамі.* Селішча Навагр.

*ПАРАХРОЋ* м. Громаадвод. *Ні стой каля парахрону, як гром грыміць.* Барташы Шчуч.

*ПАРКАЛЁЎКА* ж. Хустка з паркалю. *Паркалёўка ценкая, ні тоя што штапельная. Сама на гарачыню: і слонца на галаву ні пячэць, і ні душна.* Косцевічы Астр.

*ПАРКАЛІЋКА* ж. Сукенка з паркалю. *Я ні хадзіла ў паркалінцы як другія, зь ядвабу сукню мела.* Солы Смарг.

*ПАРТАМАНЭЋКА* ж. Кашалёк. *Дзесьці тая партаманэтка прапала. Там столькі грошай было.* Кудрычы Бераст.

*ПАРУЌА* ж. Сырадой. *Эх і смаката – парука, адразу с-пат каровы, ды й ш чорным хлебам.* Баруны Ашм.

*ПАРЦЯЋКА* ж. Спадніца з ільняной тканіны. *Добра парцянка, лёгенька. І сачык харошы. Акурат як касьцюм.* Чахоўшчына Лід.

*ПАРЭЋДЖЫ* мн. Парэнчы. *Абгалялёдзяла клатка, лядзі трымайся за парэнджы, каб ні ўпаў, яг будзяш рэчку пяраходзіць.* Дзярэчын Зэльв.

*ПАРЭ'НЧА* ж. Зямля, скутая марозам. *Зіма ўжэ, а сьнегу німа, усюды відаць парэнча.* Праважа Воран.

*ПА'СВІНЁ* н. Пасьба. *Мы ўжэ старыя, ні можам бегаць за каровамі. Пасьвінё ўжэ ні для нас: да яшчэ цэлу стаду кароў! І маладому надаесьць пасьвінё за цэлы дзень.* Валькевічы Зэльв.

*ПАСЕ'ТАК* м. Сіта. *Падай пасетак, муку трэ прасеіць.* Масцішча Навагр.

*ПАСІВЕ'ЛЫ* прым. Зацвілы. *Выкінь сьвіне той хлеп пасівелы.* Грынкі Свісл.

*ПАСІ'ТАК* м. Кавалак палатна або іншае прыстасаванне для працэджвання чаго-н. (пераважна малака), цадзілка. *Малако прас пасітак працадзі, а шуму выцісні катам, яны ўжэ даўно палююць.* Масцішча Навагр.

*ПАСЛЕ'Д* м. Апошняя порцыя самагонкі. *Сівы паслед адлілі асобна.* Руда Яварская Дзятл.

*ПАСМАРГО'ЎКІ* мн. Рамонкі. *Пасмаргоўкі растуць на полі.* Пачарнейкі Свісл.

*ПАСО'ЙКА* ж. Ручка ў вядры. *Ішла раням па воду, дэй пасойка зь вядра адарваласа.* Вольжава Лід.

*ПАСТАВЕ'Ц* м. Сталярны стол. *Бацько дастаў гэты паставец недзе ў сябрука, хоча сталярнічаць вучыцца.* Вераб'евічы Навагр.

*ПАСТРАШНЕ'ЦЬ* зак. Набыць кепскі выгляд у выніку бяды, хваробы. *Даўно ня відзяла Лёдзю. Так пастрашнеўшы, схудаўшы ўся. Кругі пад вачыма чорныя...* Косцевічы Астр.

*ПАСТРО'ІЦЦА* зак. Управіцца. *Ідзі, памажы сястрэ пастроіцца, хоць па карову схадзі прыгані.* Новы Двор Свісл.

*ПАСТЭ'ЎНЫ* прым. Кармавы. *Цэлу дзялку пастэўных буракоў за дзень апалола.* Брузгі Гродз.

*ПАСХО'ДЗІЦЬ* зак. Пачаць свяціць (пра нябесныя зоркі). *Як зоры пасходзяць, я табе Коўш пакажу і Палярную зорку.* Савічы Зэльв.

*ПА'СЯ* ж. Скрынка для захоўвання зерня. *Пася разы ў тры больша за кубэлак.* Масцішча Навагр.

*ПАСЯЛУ'ШНІК* м. Чалавек, які любіць хадзіць па чужых хатах, затрымліваецца ў іх. *Дзе гэта ты, пасялушнік, лазіш цэлы дзень зранку?* Краснае Шчуч. *Мой стары такі пасялушнік, пайшоў і пайшоў па сяле.* Дзембрава Шчуч.

*ПАТАЛА'ШНІК* м. Абразл. Чалавек, які не мае ніякага сталага занятку. *Што ён можа зрабіць, паталашнік гэты, анно цягаяцца па сьвеці.* Лявонавічы Дзятл.

*ПАТО'ЛЯ* ж. Клопат. *У хаці вяселя, та ўсім патолі хватая.* Жылічы Маст.

*ПАТРА'ЦІЦЬ* зак. Страціць. *Гэта баба гарутная, усіх дзяцей у вайну патраціла. Сын у войску быў – забілі, а двух дачок вывязьлі немцы.* Косцевічы Астр.

*ПАТРАША'НКА* ж. Вантрабянка. *Патрашанку ўжэ зрабілі, ні кавалачка вантробаў ні засталосё.* Пятакі Ваўк.

*ПАТРО'БАВАЦЬ* зак. Паспрабаваць. *Патробуй толька вазьмі матоцык!.. Дахаты ні варачайся!* Косцевічы Астр.

*ПАЎБІРА'ЦЬ* зак. Павыбіраць. *Много гуркоў нарасло, пайду паўбіраю, да пасолім.* Грабава Зэльв.

*ПАЎВАЖА'ЙКА* ж. Няпоўны воз. – *Ну й прывязьлі Мінаравы сена, нейкую паўважайку.* – *Дзе там паўважайку, у ляжэйках толька.* Косцевічы Астр.

*ПАЎВЭ'ДЗГВАЦЬ* зак. Забрудзіць. *Дзе вы так сваю адзежу паўвэдзгвалі?* Аляксандравічы Дзятл.

*ПАЎЗБІ'РВАЦЬ* зак. Пасабіраць, вырваць усё. *У гэтум лесі грыбоў ні будзя, тут много людзей бывая, і ўсё паўзьбірвалі; Малы лес, так і ягадаў ужэ німашака, усе за нядзелю паўзьбірвалі, як наехало гэдулькі людзей.* Грабава Зэльв.

*ПАЎЛЕ'ТКА* ж. Вялікая цёплая хустка. *Адзявай паўлетку, бо голаў застудзіш, тады будзя с табою вазіцца.* Курчаўцы Бераст.

*ПАЎМА'ЦЬ* зак. Павымаць. *Як гаршке паўмаю с печы, то дроў накідаям у печ, кап сохлі на заўтры; Як прыдзя вясна, гэтыя дубэльты паўмаям і ў сьверан пазаносім.* Грабава Зэльв.

*ПАЎПАДА'ЦЬ* зак. Павыпадаць. *Кажаш, ні старая, а чаму ў цябе ўсе зубы паўпадалі?* Крывічы Зэльв.

*ПАЎСА'К* м. Паўпаліто. *Прыгожы ў цябе паўсак. Дзе ты купіла яго?* Студзенікі Свісл.

*ПАЎСЕ'СЦІСЯ* зак. Уз'есціся на каго-н. *І чаго ён паўсеўса на міне, што я яму кепско зрабіў?* Старая Дубавая Гродз.

*ПАЎСКУ'БАЦЬ* зак. Павыскубаць. *Стох як стох быў, а гэто пасьля ночы нехто паўскубаў яго; Стрыхчы ні ўмея, то адно паўскубаў, як авечку.* Валькевічы Зэльв.

*ПАЎША'ФАК* м. Кухонны шапік. *Палажыла п ты гэтыя лошкі ў паўшафак, а то мухі насядуць.* Брольнікі Навагр.

*ПАЎШТУ'ЧАК* м. Пяць скруткаў (палатна). *За паўштучак палатна пры Польшчы можно было шмат хлеба купіць.* Уселюб Навагр.

*ПАЎШЧЭ́ВАК* м. Падаконнік. *Нічого ні стаў на паўшчэвак, а то вокна будуць пацець.* Купіск Навагр.

*ПАХУДА́ЦЬ* зак. Пахудзець. *Пытаюся: «Нешта ш ты пахудаў?» А ён сьмяецца: «Любоў, цётка, сушиць».* Косцевічы Астр.

*ПАХЫ́РЛАЦЬ* незак. Зніж. Захварэць, пахварэць. *Чаго вы ўсе пахырлалі?* Масцішча Навагр.

*ПАЦЁ́МАЦЬ* незак. Мацаць, абмацаць. *Гэто ў цібе шарсьцяная сукенка? Ну, пацёмай, як ні верыш.* Канюхі Ваўк.

*ПАЦЁ́МНАЧЫ* прысл. Ноччу. *Пацёмначы прывалоксо грошай прасіць, дню яму німа.* Стральцы Маст.

*ПАЦІ́НА* ж. Бацвінне. *От, я сёні паціны наелася.* Пушчыкі Свісл.

*ПАЦЭ́СІЯ* ж. Пацеха. *Цэла пацэсія з гэтаго хлопца.* Грабава Зэльв.

*ПАЦЯ́ГНУТЫ* прым. Худы, змарнелы. *Такі ўжэ пацягнуты твар у яе.* Бачанцы Ваўк.

*ПАЦЯГУ́ХА* ж. Неадабр. Жанчына, якая любіць хадзіць без справы па чужых хатах. *На маю бабу называлі пацягуха: як толькі аходзіцца, так і пайшла па суседзях.* Пруды Гродз.

*ПАЧАПА́РКА* ж. Неадабр. Жанчына, якая дрэнна выглядае. *С такою пачапаркаю стыдно на людзі выйсьці, ці ў цібе чіма ч чго адзець да абуць?* Радунь Воран.

*ПАЧО́К* м. Вялікая скрыня для захоўвання зерня, мукі. *Поўны пачок муке стаіць у каморы.* Віньковўцы Лід.

*ПАЧУПО́ЧАК* м. Вяршыня. *Вароны сядзяць на пачупочку – на марос.* Пушчыкі Свісл.

*ПАШЛЭ́МАЦЬ* зак. Цяжка пайсці, ледзь падымаючы ногі. *Ужэ ваш стары пашлэмаў дахаты.* Задворані Свісл.

*ПАШНУРАВА́ЦЬ* зак. Пайсці. *Пастаяў ён, пастаяў, падумаў і пашнураваў пяшком.* Старая Рудня Смарг.

*ПЕРАБІРА́НІК* м. Саматканы дыван, вытканы ніткамі аднаго колеру па чорнай ці белай аснове. *Маладая была, вочы сьветлыя мела. Дываны ткала й сабе, й сёстрам. Пярабіранікі файныя: і чырвоныя на чорным полі, і жоўтыя, і зялёныя... Ні спомніць усіх!* Косцевічы Астр.

*ПЕРАБІРА́НКА* ж. Бульба, адабраная для пасадкі. *Маім шэсь воркаў перабіранкі.* Дайлідкі Астр.

*ПЕРАГО́НКА* ж., адз. Адстаянае малако без смятаны. *Якая з гэтае перагонкі карысьць, анна вада, нават смаку малако ні мая.* Філонаўцы Лід.

*ПЕРАКРЭ́СТ* м. Скрыжаванне. *Раней я жыла пры тым перакрэсьце.* Масцішча Навагр.

*ПЕРАМЕ́ШКА* ж. Перашкода. *Мо хіба якая перамешка будзя, а так найімянно прыеду. Хачу паглядзець тваю новую квацеру.* Грабава Зэльв.

*ПЕРАПСЮ́РЫЦЬ* зак. Ударыць, стукнуць каго-н. *Зарас як перапсюру гэтай дубінай!* Старая Рудня Смарг.

*ПЕРАЧА́ЎРАЦЬ* зак. Перахварэць. *От, пярачаўраў, і лепш стало.* Калантаі Ваўк.

*ПЕРШЫНА́* ж. Трава першага ўкосу. *Першына троху падмокла, а атава добро высахла.* Сурынка Слонім.

*ПЕСКАВА́ТКА* ж. Зямля з пясчаным грунтам. *За пескаваткаю пачынаецца лес.* Малая Лапеніца Ваўк.

*ПЕ́ХТАМ* прысл. Пешшу. *Папрывыкалі на алтобусах егдзіць, пехтам ніхто ўжэ ні хоча і дзесяць мэтраў прайсьці.* Стральцы Маст.

*ПЕЧАНКО́ВА КАЎБАСА* ж. Вантрабянка. *Свіню закалолі. Сёня печанкову каўбасу рабіць будзям.* Вярэйкі Ваўк.

*ПЕ́ЧЫСКА* н. Месца, дзе стаяла печ. *Гэту качаргу я на печыску знайшоў.* Старая Дубавая Гродз.

*ПІВУ́ТКА* ж. Кнігаўка. *Каля нашай рэчкі некалі півуткі ўсе лёталі.* Нача Воран.

*ПІ́НДА* ж. Гальштук. *Да белай кашулі прычапіў чорну пінду, і харашэ.* Вішнеўка Бераст.

*ПІНЭ́СКА* ж. Прышчэпка для бялізны. *Вазьмі пінэскі, прышпілі бялізну на дроці.* Галынка Ваўк.

*ПІ́ПАЦЬ* м. 1. Дзюбка ў пасудзіне. *Ладышка бяс піпця, а збанок с піпцям, і лепяй малако ліць зь яго.* Грабава Зэльв. 2. Выступ. *Піпаць некі быў, то было як рукою узяцца.* Грабава Зэльв.

*ПІРАПІРЫ́НДАВАЦЬ* незак. Бавіць час пустымі размовамі. *Сядзіць сабе, пірапірындываіць зь Віктусям. Ні скаціня ні давана, ні вады ні прынесяна, а яму ні ў галаве.* Косцевічы Астр.

*ПІ́ТКА* ж. Пітво. *Дзе гэта піткі напіцца, такая гарачыня.* Стокі Свісл.

*ПІТУ́Н* м. Непахв. Піток. *От пітунэ! Каб бутэлькі гарэлкі трох ні выпіць. Як вам ні брытко!* Старое Сяло Зэльв.

*ПІХА́ТЫ* прым. П'яны. *Ну ўжэ Коля Манін пасунуўса дахаты піхаты. Мо й мой такі прыдзя, тады я яму пакажу.* Грацавічы Бераст.

*ПІ́ШЧЫКІ* мн. Кончыкі пальцаў на руках. *Ну й халадзіна! Так зьмерзла, што аж у пішчыкі заходзіць.* Косцевічы Астр.

*ПЛАВУ́Н* м. Кошык для лоўлі рыбы. *Плавуны – гэто кошыкі біс каблучка, бальшыя, рыбу лавіць. Іх плялі з ракіты, з ракіты яны мацнейшыя, даўжынёй метра паўтара, шырына каля паўметра.* Драчаны Свісл.

*ПЛАН* м. Надзел зямлі пры хаце. *Нашай карові сена хватая с плану.* Сурынка Слонім.

*ПЛАСТУ́ГА* ж. Карп. Добры ўлоў быў. *І карасёў паўнютка, і пластуга папалася.* Астравец.

*ПЛЕХ* м. Страха. *У дзеда Антося стаяць два хлявушкі пад адным плехам.* Малая Бераставіца Бераст.

*ПЛІСНЯ́К* м. Зялёная сыраежка. *Німа сёлета грыбоў ў леся, адныя плісьнякі.* Пазборцы Смарг.

*ПЛІ́ТНІЦА* ж. Куча камення. *Каля яго хаты плітніца вялікая, камняў колькі хочаш можно набраць.* Забор'е Шчуч.

*ПЛУГА́НІЦЦА* незак. Груб. Плесціся. *Куды ты нанач плуганісься? Цёмна ўжэ.* Вайшнарышкі Ашм.

*ПЛЫ́ТА* ж. Грамафонная пласцінка. *Гэту плыту паслухаям.* Лішкі Бераст.

*ПЛЮ́КВІЧКА* ж. Кнопка. *А ці ш ёсьць у цябе плюквічка?* Гуменікі Слонім.

*ПЛЮ́НДРА* ж. Неахайная. *Да яе ў хату ні ўлесьці, плюндра нека, як у сьвініцы усяроўно.* Валькевічы Зэльв.

*ПЛЯВУ́ЗГАЛО* м. і ж. Пра таго, хто шмат гаворыць. *Плявузгало ты, спыніся, дай чалавеку слово сказаць!* Шылавічы Слонім.

*ПЛЯ́НТ* м. Застар. Пляц. *У горадзі хату паставіў, добры плянт далі; У міне, старое, кажуць, завелькі на анну душу плянт, хочуць адрэзаць.* Савічы Зэльв.

*ПЛЯСКА́ЦЬ* незак. Таптаць, дратаваць. *Аселіцы і касіць ні будзя чаго, бо кожны дзень то гусі, то авечкі плешчуць.* Грабава Зэльв.

*ПЛЯХО́ТКА* ж. Зношаная кашуля. *Дзет, скінь ты гэту пляхотку, адзень што чысьцейша.* Лунна Маст.

*ПЛЯ́ЦКА* ж. 1. Хлебнае печыва круглай формы. *Цэлу дзешку пляцак напякла. Дзеці ўсе за дзень выцягалі.* Радзявічы Маст. 2. Мн. Сухары. *Хлеба зашмат было, дык я пляцак зь яго нарабіла, у печы скора высахлі.* Волькавічы Ашм.

*ПЛЯШЧА́К* м. Абчасанае з двух бакоў бервяно. *Вунь за хлявом ужо ляжаць пляшчакі, баню класьці буду.* Баруны Ашм.

*ПОТАЦЬ* незак. Часта і многа піць. *Што ты ўсё погаіш гэту ваду?* Панарка Смарг.

*ПО'КАТАМ* прысл. Імкліва. *Покатам злес с печы, як ты прышоў.* Баяры Свісл.

*ПО'КУСТ* м. Пакост. *Покусту як трохі дасі ў кіт, то мякчэйшы будзя; Покуст даліваюць у краску, як загусьня.* Валькевічы Зэльв.

*ПО'РАЗ* прым. Праз. *Мы ішлі пораз ручаі, ды намачылі ногі.* Селішча Навагр.

*ПО'СЛЯКО* прысл. Пасля. *Зайдзі посьляко да міне.* Купіск Навагр.

*ПО'СЫЛКА* ж. Люлька, калыска. *Паклала я дзіцятка ў посылку, калыхаю, а яно ні сьпіць.* Руда Яварская Дзятл.

*ПО'СЯЧЫ* прысл. Затым. *Цяперака гурочкі папалю, посячы па ягады ў лес зьлятаю.* Ваўкавічы Навагр.

*ПО'ЎЗАНІЦА, ПО'ЎЗАНКА* ж. Спадніца для копкі бульбы. *Ні забуць поўзаніцу налатаць, капанё зара; Як капаяш бульбу ў поўзанцы, усе ш такі ні так выгвадзаясься.* Стокі Свісл.

*ПО'ЧАПКА* ж. Вяшак на адзенні. *Алесь так ужо дзярхануў яго за каўнер, што аш почапка адарвалася. Хай во прышывая цяпер.* Мардасы Ашм.

*ПРАВАРЫ'НА* ж. Бервяно, брус. *Праварына выгніла, мус хату патпіраць.* Лаўрынавічы Свісл.

*ПРА'ВЯДНО* прысл. Правільна. *Як правядно рашыш, то ўсё сайдзецца ў задаццы тваёй, сынку!; Ён правядно кажа: з гэтым расколам ні зьвязвайся, а то давядзе да цюрмы.* Старое Сяло Зэльв.

*ПРА'ВІЦЬ* незак. Кіраваць. *Меньшы хлопяц хапая з рук лейца, хоча сам правіць.* Струбніца Маст.

*ПРАГА'ПІЦЬ* зак. Празяваць, правароніць, прапусціць. *Прагапіў такую карову, а купіў блыху неку.* Калантаі Ваўк.

*ПРАГО'РА* м. і ж. Неадабр. Пражэрлівы, ненасытны чалавек. *Ну й прагора, есьць і есьць.* Кронькі Шчуч.

*ПРАДА'ЎКА* м. Прайдзісвет. *Прадаўка ён быў у маладосьці.* Ваўкавічы Навагр.

*ПРА'ЙДА* м. і ж. Хітры чалавек. *Ну й прайда, ён любого правядзе.* Парэчча Слонім.

*ПРА'ЛКА* ж. Пральная машына. *Пралку трэба купіць, як усе людзі, а то як сабака працую.* Лушчыкі Воран.

*ПРАМАРШЧЫ'ЦЬ* зак. Неадабр. Патраціць. *Усё дабро сваё прамаршчыў, бо піўната много.* Нача Воран.

*ПРАТА́К* м. Вельмі рэдкае рэшата. *На пратак мякіна пройдзе, а салома астанецца.* Дзераўная Слонім.

*ПРАТУВА́Р* м. Рэдк. Тратуар. *Як у сяле, то мало хто ведая тыя пратувары, усе па бруку ходзяць; Па бруку егдзяць, а па тратувары ходзяць.* Валькевічы Зэльв.

*ПРАЦО́ЎКЛЫ* прым. Кіслы. *Ні еш гэтае малако, яно працоўклае, жывот балець будзе.* Петралевічы Слонім.

*ПРАЦУ́НДАЦЬ* зак. Непахв. Прахадзіць без справы, прашвэндацца. *Працундала цэлу раніцу, нат ні аходзілаċа, свіня галонныя вішчаць.* Стральцы Маст.

*ПРАШАЛЁ́ХАЦЬ* зак. Спаласнуць. *Пабегла анучу ў рэцы прашалёхаць.* Ст. Гудагай Астр.

*ПРАШЧА́ЙКІ* мн. Буркі. *Так граско на гуліцы, прашчайкі ўсе макрусянькія. Трэбо на печ кінуць пасушыць.* Леснікі Лід.

*ПРОНТ* м. Электрычны ток. *Ні пускай дзяцей да рызеткі, можа забіць пронтам.* Галынка Ваўк.

*ПРО́ТХЛЯ* м. і ж. Зніж. Той, хто шмат есць. *Калі ўжэ гэта протхля наесца, вечно галонна.* Стральцы Маст. *Алі ш протхля, увесь мёт зьеў.* Талькаўцы Ваўк.

*ПРО́ХАРЫЦЦА* незак. Іран. Без прычыны лезці ў вулічныя сваркі, бойкі. *І гэты малы нечага прохарыцца, шукае бяды на сваю голаў.* Сурынка Слонім.

*ПРО́ЦЯГ* м. Крав. Шывок пры фастрыгаванні вырабу. *Калі фастрыгуюць, процях (доўгі сьцяжок) рукамі робяць.* Масцішча Навагр.

*ПРЫБРА́ТЫ* дзеепрым. Прыбраны. *Натта нявеста файна была прыбратая.* Вугляны Смарг.

*ПРЫ́ВАЛАК* м. Ложак з дошак пры печцы. *О ля на прывалак кладавіся, выграяська каля самюткай печы.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*ПРЫКА́ЗАВАЦЬ* незак. Галасіць па пакойніку. *Ганна перад людзьмі ўсяго разы два бралася прыказаваць.* Пагародна Воран.

*ПРЫКА́СВАЦЬ* незак. Прывязваць. *Раней прыкасвалі да бэлькі люльку і гушкалі малоя.* Жылічы Маст.

*ПРЫКАСЦЮ́МІЦЦА* зак. Жарт. Апрануцца ў касьцюм. – *Нешта ж Зыгмусь сёня прыкасьцюміўся. Можа, й праўда на старасьці гадоў жаніцца надумаў? -- Магіла ўжэ ажэніць гэтага Зыгмуся.* Косцевічы Астр.

*ПРЫ́МА* ж. 1. Падмурак. *Вясковыя хаты стаяць на нізкіх прымах.* Вялікія Ёдкавічы Бераст. 2. Падваліна, першае звяно зруба. *Алесь закладаў прымы ў кожнай хаці ў сяле.* Лаўрынавічы Свісл.

*ПРЫМАДЫТАВА'ЦЬ* зак. Уладкаваць, упарадкаваць. *Гэта ж зяць мой, дай бох яму здароўя, прымадытаваў тут столік. Можна й вядро паставіць, і палажыць што-кольвек.* Косцевічы Астр.

*ПРЫМАНТЛЯВА'ЦЬ* зак. Экспр. Прыйсці. *Я да цібе пяшком прымантлюю.* Дзевяткавічы Слонім.

*ПРЫМЕРКАВА'ЦЬ* зак. Прыраўнаваць. *Быў прымеркаваўшы жонку, а божачка, што рабілася... Чуць ні пабіліся.* Косцевічы Астр. *Павадзіліся ўжо, ні дружаць. Прымеркавала да мужыка.* Ст. Гудагай Астр.

*ПРЫМЫ'ЛЬНІК* м. Прылазнік. *Разьдзявайся тут, у прымыльніку, у лазьні натта душна – на дух бабы лілі.* Кямелішкі Астр.

*ПРЫПІ'НКА* ж. Шпілька для валасоў, заколка. *Дзяўчаты модзяцца, прыпінкамі валасы папрышпільвалі. Стройна!* Варняны Астр.

*ПРЫПЛЁ'НТАЦЦА* зак. Неадабр. Прыйсці, прыцягнуцца. *Мы ўжэ даўно дахат прышлі, а ён тылько ціпер прыплёнтаўсо.* Стральцы Маст.

*ПРЫ-ПРЫ-ПРЫ'!* выкл. Вокліч, якімклічуць куранят. *А, кап на вас каршун! Пры-пры-пры! Ніяк не апсядуцца мае кураняты.* Баруны Ашм.

*ПРЫПЯКО'ЛАК* м. Ступенька для лазу на печ. *Такі майстра печ рабіў, забыўся прыпяколак зрабіць. Каб залесьці на печ, драбінку трэба патстаўляць.* Косцевічы Астр.

*ПРЫСВІРЭ'ПІЦЦА* зак. Прыстасавацца. *Яна табе прысьвірэпіцца да каго хочаш і да чаго хочаш, і будзя жыць прыпяваючы.* Пачарнейкі Свісл.

*ПРЫСТУПІ'ЦЦА* зак. Прыстаць да каго-н. з надакучлівымі просьбамі, прапановамі; прычапіцца. *Мая ты людзіна, чаго ты прыступілася да мяне? Ці я там была, што буду пра гэта казаць?* Ст. Гудагай Астр.

*ПРЫСУПО'НІЦЦА* зак. Экспр. Прылашчыцца да каго-н. *Ну чаго ты да мяне прысупоніўсё, як куранё да маткі, вінаваты, сам бачыш.* Сурынка Слонім.

*ПРЫСЦЁ'ПКАЦЬ* зак. Прышыць збольшага, на скорую руку. *Німа мне калі прышываць, хай дзеўчына прысьцёпкая трохі, каб ні адарваласё сусім, а ўвечары я прышыю акуратня.* Грабава Зэльв.

*ПРЫЧЫ'ЛАК* м. Папярочная сцяна паміж пакоямі. *У нас прычылак тонкі, усё чутно, што гаворaць у другой палавіні хаты.* Шоўкі Ваўк.

*ПРЭ'ЛЯТ* м. Жоўтая канюшына. *Каровы ў панскі прэлят улезуць, як загуляямса. От даставалі ад бацькоў.* Лойкі Гродз.

*ПТАШКЕ'* мн. Хлебнае печыва (у выглядзе розных птушак), якім частуюць дзяцей у хаце нявесты за дзень да вяселля. *Дзяціскі паляцелі да Юлькі па пташке, ўзаўтра ш у яе вяселя.* Стральцы Маст.

*ПУ'ДЗІК* м. Верабей. *Пудзік прыляцеў, на галінку сеў.* Ляпёшкі Іўеў.

*ПУЗЫ'Р* м. Паветраны шар. *На машыну вешаюць пузыры.* Уселюб Навагр.

*ПУЛЬСЭ'ТКА* ж. Манжэта. *Белых нітак ні хватала, дык я прыдумала пульсэткі і каўнер з другіх нітак зьвязаць. І ні так пэцкацца будуць.* Косцевічы Астр.

*ПУНКТО'ВІК* м. Маларослы чалавек. *Як залезе ў машыну гэты пунктовік, то яго з-за руля ні відно.* Уселюб Навагр.

*ПУНТ* м. Куплет (песні, верша). *У гэтай песьні аш дзесяць пунтаў.* Тупалы Карэл.

*ПУХАВІ'К* м. Маладое цеста, якое падыйшло на дражджах. *Пухавік ужэ гатоў, пара замешваць.* Сурынка Слонім.

*ПУ'ХВА* ж. Футарал для акуляраў. *Палажы акуляры ў пухву, а то шкло абдзярэцца.* Вішнеўка Бераст.

*ПУШЧЭ'ЙШЫ* прым. Горшы. *Гэтта зямля пушчэйшая, адзін пясок. А там што хочаш садзі, усё вырасьціць, як гай.* Косцевічы Астр.

*ПЫТЛЯ'Р* м. Спец. Чалавек, які пытлюе (муку). *Пытляр пытлюе, абдзірае муку.* Масцішча Навагр.

*ПЮ'РНІК* м. Пенал. *Носяць ручкі ў пюрніку дзеці.* Кватары Бераст.

*ПЯВУ'ХА* ж. Пявуння. *Адамава Дануся такая пявуха, на ўсю вёску.* Панарка Смарг.

*ПЯРУ'НАМ* прысл. Вельмі хутка. *З лесу мы пярунам ляцелі, за пяць хвіляў у хаці ўжэ былі.* Вішнеўка Бераст.

*ПЯРУ'НСКІ* прым. Кепскі. *Мой дзяцько такі пярунскі, ніяк яму ні ўнаровіш.* Доўгая Шчуч. *Од жаш пярунскі хлопяц! Ні слухая нічога: ці ты казаў, ці ты не.* Дамейкі Лід.

*ПЯРХА'ТЫ* прым. Паршывы. *Ні вадзіся с катом, бо ён некі пярхаты, яшчэ якоі заразы набярэсся.* Лявонавічы Дзятл.

*ПЯ'ТРЫЦЬ* незак. Сушыць. *От пятрыць сёніка на дварэ. Хутко сено высушыцца.* Грабава Зэльв.

*ПЯЧЭ'ЛЬНЯ* ж. Чарэнь. *Калісьці ўзьлезім на печ і грэімся на пячэльні. Добра з марозу.* Астравец.

*ПЯЮ́Н* м. Певень. *Філіпчынага пяюна ўсе ў вёсцы баяцца.* Юшкавічы Свісл.

## Р

*РАБАЦЬКО́* м. Чалавек, які шмат працуе. *Ён жа руплівы рабацько, усяку работу зробіць.* Шылавічы Слонім.

*РАВА́ЦІНА* ж. Роў. *Асцярожна, ні ўлесь у грась, там раваціна.* Аляксандравічы Дзятл.

*РАГАВІ́К* м. Кафля на вугал печы. *Рагавіка ні хапіла, таму паклалі две кахлі.* Гірдаўка Навагр.

*РАГАВІЧО́К* м. Сурвэтка. *Кажнаму кала талеркі паклалі рагавічок.* Міратычы Карэл.

*РАГЕША, РАЎГЕША* ж. Плакса, румза. *Адно зачапі – і ўжэ плача. От рагеша гэта дзеўчына; Раве і раве раўгеша гэта.* Крывічы Зэльв.

*РАДЗЁ́МАЧКА* ж. Ласк. Радзімка. *Ой, якая прыгожая радзёмачка ў цябе на шыйцы.* Кашалёва Навагр.

*РАДО́ЎНІЦА* ж. Чарга пасвіць кароў. *Карову маям, пасьвіць цяшко анным ды сын радоўніцу адбыць памагая.* Уселюб Навагр.

*РА́ДУНІЦА* ж. Вясёлка. *Ні ўспеў дошч адліць, а радуніца ўжо на небі.* Ваўкавічы Навагр.

*РАЖЭ́НДЗЯ* ж. Чаранок у граблях. *Сёння, калі працавалі, зламалі ражэньдзю ў граблях.* Гірдаўка Навагр.

*РАЗАГНА́ЦЬ* зак. Падзяліць (рой пчолаў на два). *Натто велькі рой пчолаў, трэба на два разагнаць.* Грабава Зэльв.

*РАЗБІРА́ЦЦА* незак. Распранацца. *Разьбірайся ты, бацька, ды спаць ідзі.* Пагародна Воран.

*РАЗВАДЗЯ́ТА* м. Апалонік. *Прынясі развадзягу, булёну налю, будзем абедаць.* Альхоўка Навагр.

*РАЗВАЖА́ЦЬ* незак. Забаўляць. *А ўнук бабульку на гітары разважае.* Задвор'е Навагр.

*РАЗВЫДРЭ́ЦЬ* зак. Груб. Вольна, нахабна сябе паводзіць. *Ты зусім развыдрэў, не слухаяш нікога, робіш абы-што.* Гальшаны Ашм.

*РАЗГАНЯ́ЦЬ* незак. Падзяляць (рой пчол напалову). *Пашоў бацько пчолы разганяць, бо дзьве маткі ўвадном вульі, могуць самыя падзяліцца і выляцяць.* Грабава Зэльв.

*РАЗГАРА́КА* м. і ж. Раскірака. *Усю хату заняў разгарака гэты, разгарачыўсё, і ні прайсьці за ім.* Грабава Зэльв.

*РАЗГО́Н* м. і ж. Неслух (пра падлетка). *Жэнік, разгон гэты, йзноў з урокаў уцёк. Ні хоча вучыцца ні твой божа.* Стральцы Маст.

*РАЗГРУВА́ЗІЦЬ* зак. Разбіць коламі, зрабіць гразкай, нязручнай для язды (дарогу). *Разгрувазілі дорогу, цяпер балота кругом, трэба пеша ісьці.* Галавічполе Шчуч.

*РАЗДАБЫ́РВАЦЬ* незак. Балбатаць. *Досі ўжо вам тут раздабырваць, ідзіцё дадому.* Дзяляцічы Навагр.

*РАЗДРАЖДЖАНЕ́ЦЬ* зак. Набрыняць вадою, размокнуць (пра глебу, дарогу). *Дзе ты заедзяш куды балотам гэтым: так раздражджанело, што калёса грузнуць; Сьнегу много, аля раздражджанеў увесь.* Грабава Зэльв.

*РАЗЗЯЛЯ́ПІЦЬ* зак. Зніж. Адчыніць насцеж дзверы. *Дзьверы разьзяляпіў – поўна хата мухаў паналятала.* Мастаўляны Лід.

*РАЗІ́НУЦЦА* зак. Узняць крык. *На ўсю вёску разінуліся.* Жукевічы Бераст.

*РАЗМАЗГАТА́ЦЬ* зак. Разбіць, размажджэрыць. *Зваліўся з матоцыка, галаву сабе размазгатаў, ляжыць увесь у крыві.* Косцевічы Астр.

*РАЙІВО́Н* м. Раён. *У райівоні быў, то купіў ровар сабе.* Крывічы Зэльв.

*РАЙІВО́ННЫ* прым. Раённы. *У Зэльві велька крама. Ведама ш, райівонная.* Грабава Зэльв.

*РА́ЙТКІ* мн. Прылада для навівання нітак у ткацкім станку. *Маці райткамі хутка намотвала ніткі.* Вялікія Ёдкавічы Бераст.

*РАКАВЫ́* прым. Рэдк. Гадавы. *Ракавоё сьвято, німожно рабіць, трэба сьвяткаваць.* Грабава Зэльв.

*РАКА́Ч* м. Фарбаванае палатно. *З ракача звычайна для мушчын шылі.* Брольнікі Навагр.

*РА́МЕЦ* м. Лаянк. Неахайны, брудны чалавек. *І ходзіць гразны як той рамец. Часу німа пераадзецца.* Дарані Свісл.

*РАМУ́ШАК* м. Раменьчык. *Дзеці, аспакойцяса, бо зара вас рамушкам пачастую.* Пачарнейкі Свісл.

*РАМЯ́НЫ* прым. Скураны. *Купіла сабе рамяныя боты. Такія мяхкія, цёплыя.* Косцевічы Астр.

*РАНГАВІ́СКА* ж. Ручка ў вілах. *Рангавіска для віл была драўлянай.* Харосіца Навагр.

*РАНДО́ЛЯК* м. Каструля (не для варкі). *У рандольку малако дзержым, мёт ці што другоё, аля ні варым есьці, бо для гэтаго чыгунэ есьцяка.* Грабава Зэльв.

*РАНКАВІ'ЧКА* ж. Ручка ў вілах. *Зрабі ранкавічку, Міша.* Харосіца Навагр.

*РАНКАЯ'СКО* н. Ручка ў вілах. *Ранкаяско трэба прыбіць да вілцаў.* Харосіца Навагр.

*РАНЭ'ТА* ж. Гатунак яблыкаў, ранет. *Ранэта – добрыя яблыкі, смашныя.* Валькевічы Зэльв.

*РАНЭ'ТКІ* мн. Гатунак яблыкаў, ранет. *Ранэткі салоткія, натта смачныя, што мёт. Еў ба б і еў!* Косцевічы Астр.

*РАРЫ'ТУС* м. Асалода. *Ну што табе за рарытус па лужах бегаць?* Драпуці Воран.

*РАСАМА'ХА* ж. Неахайная жанчына. *Алі ш і расамаха наша Яніна. І ў хлеў, і да людзей у адной адзежыня ходзіць.* Вішнева Смарг.

*РАСКЕ'ПА* м. і ж. Някемлівы, рассеяны, няўважлівы чалавек, расцяпа. *Ні рассыпай жа ш ты цукру, раскепа!* Панарка Смарг.

*РАСКЛЁ'БЫВАЦЬ* незак. Непахв. Раскідаць. *Ні расклёбывай ягады, бо зараз заробіш.* Уселюб Навагр.

*РАСПІ'РЫНДАВАЦЬ* незак. Прастарэкваць. *Стаяць сусеткі кала плоту і расьпірындуюць.* Трокенікі Астр.

*РАСТАРМЭ'ХА* м. і ж. Неахайны чалавек. *Растармэха! Ніколі ні прывядзе сябе ў парадак.* Пагародна Воран. *Растармэха гэта нігды на мейсца адзежы ні пакладзе, цалютку раніцу лётая па хаці, зьбірая.* Стральцы Маст.

*РАСШВА'БІЦЬ* зак. Пакалечыць. *Ён так руку рашшвабіў на рабоце, што да хірурга шшываць павезьлі.* Пагародна Воран.

*РАСТРАПЭ'ЙЛА* ж. Неахайная жанчына. *От ужэ растрапэйла нейкая! Ходзь бы валасы зьвязала.* Старая Рудня Смарг.

*РАСТРО'ПЫ* мн. Панчохі. *Трэбо адзяваць ужэ цёплыя растропы.* Вараны Бераст.

*РАСХЛЯБЯСТА'ЦЦА* незак. Экпр. Разрагатацца. *Зь якой радасьці так расхлябясталася?* Рымцелі Смарг.

*РАСША'СТАЦЬ* зак. Непахв. Распусціць (грошы), разматаць (набытак). *Як заробіць грошай, то за дзень рашшастая, а тагды ходзіць пазычая; Асаднік той, мусяць, чуў, што вайна будзя, бо за месяц усю гаспадарку рашшастаў і выяхаў адгэтуль.* Старое Сяло Зэльв.

*РАТАТО'НДА* м. і ж. Асудж. Няўдалы, няўклюдны хто-н. *Разьліла суп гэта ратат онда.* Бакшты Шчуч.

*РАТЛІ'СКО* н. Ручка ў вілах. *Ратліско ў вілах зламалася, трэба нова зрабіць.* Уселюб Навагр.

*РАТЭ́НДА* ж. Шырокае адзенне. *Зноў ты гэтую ратэнду надзела, здымі лепяй.* Мацвееўцы Ваўк.

*РАХУНКАВА́ЦЬ* незак. Мераць, адмяраць, разліноўваць. *Ты сёніка будзяш рахункаваць дошкі ці, можа, заўтры?* Міхалкі Свісл.

*РАХЭ́ЛЯ* ж. Груб. Неахайная жанчына. *У гэтай рахэлі нігды ў хаці паратку німа. Усё павуціням пазарастало.* Гуды Лід.

*РА́ЧЫЦЬ* незак. Раіць. *Рачу яму ісьці ў грамаду.* Масцішча Навагр.

*РО́ДЗІВІ* мн. Сваякі. *Тут усе мае родзіві пахаваныя, маці, тата, сёстры.* Руда Яварская Дзятл.

*РО́СЛЫ* прым. Прарослы, пахрошчаны. *З рослага жыта хлеба ні сьпячэш.* Дабраволя Свісл.

*РО́СТАЎКІ* мн. Устаўныя карункі ў навалачках. *На падушках былі прыгожыя з ростаўкамі навалачкі.* Баруны Ашм.

*РО́СТЫРКА* ж. Сварка. *Ростырка хутка ішла да свайго канца.* Вераб'евічы Навагр.

*РУБАСЕ́К* м. Вырубка. *Сёлета ў рубасеку было многа маліны.* Клецiск Свісл.

*РУБЕ́ЛЬ* м. Драўлянае прыстасаванне для разгладжвання бялізны. *На пячэ ляжыць рубель, дастань, будзям прасціралды качаць.* Лішкі Бераст.

*РУМЫ́НКА* ж. Дача. *Панараблялі румынкаў з гародамі, добра мець троха сваёй зямлі.* Руда Яварская Дзятл.

*РУМЫ́НКІ* мн. Жаночыя чаравікі з аздобаю. *Трэба румынкі заказаць, а гэто німа чаго на сьвято абуць.* Канюхі Ваўк.

*РУМЯ́НАК* м. Адзін з відаў рамонку, які выкарыстоўваецца як лекі; лекавы настой на кветках такога рамонку. *Калісьці ваша бабуля ўсё румянак заварвала; Гэтых чаёў ніхто і ні знаў. А румянак ад прастуды добра і ад жывата.* Косцевічы Астр.

*РУНКАВІ́СКО* н. Ручка у рыдлёўцы. *Дзет Міхал трымаўся за рункавіско.* Роскаш Навагр.

*РУСЛО́* н. Вясло. *Забыўся, мо, узяць русло.* Нягневічы Навагр.

*РУЧАНЫ́* мн. Апоры для драбін у возе. *Трымайся за ручаны, бо з воза зваліськя.* Купіск Навагр.

*РУЧНІ́ЦА* ж. Памінкі па нябожчыку праз год пасля смерці. *Праз месяц на ручніцу па дзеду паедзім.* Вялікія Сіранкі Астр.

*РУЧЭ́ЙНІК* м. Маленькі чарвячок, які будуе вакол сябе домік-трубачку. *Рыба ў возеры добра ловіцца на ручэйніка.* Купіск Навагр.

*РЫГВО'* н. Горла, частка дыхальнага канала. *Рыгво ў яго было тонкае і доўгае!* Вераб'евічы Навагр.

*РЫДЛАВА'ЦЬ* незак. Капаць зямлю рыдлёўкай. *Вясною ўсей гарот сама рыдлавала.* Ваўкавічы Навагр.

*РЫ'ДЛІ* мн. Вілы з двума рагамі для накладання гною на воз. *Бяры вунь рыдлі ды навальвай гною, німа чаго стаяць, калі другія працуюць.* Нязнанава Навагр.

*РЫ'ДЛЯ* ж. Рыдлёўка. *Бяры рыдлю, пойдзем капаць.* Рось Ваўк.

*РЫЗАВА'ЦЬ* незак. Ачышчаць зерне. *На работу брыгадзір заказваў, пшаніцу рызаваць.* Лаўрыновічы Свісл.

*РЫНДЭ'ЛАК* м. Рынка, пасудзіна з ручкай. *Малако вазьмі ў рындэлку.* Ганчары Свісл.

*РЫ'НДЗІЦЬ* незак. Зніж. Гаварыць без патрэбы. *І будзя рыньдзіць, плесьці абы-што, аш слухаць брытко.* Ольжава Лід.

*РЫНКАЛЯ'СКО* н. Ручка ў вілах. *Гэто ў нас называюць рынкаляско.* Брольнікі Навагр.

*РЫТО'РДА* ж. Накідка з воўны. *Накінь во рыторду на плечы, цяплей будзя.* Вінькоўцы Лід.

*РЫ'ХАЦЬ* незак. Кашляць. *Рыхаюць цэлымі днямі, а кажы ні піць вадэ, то ні слухаюць.* Валэйшы Воран.

*РЫХЦЮ'ТКО* прысл. Якраз, вельмі добра. *Рыхцютко падышла шыба да акна.* Глушкі Свісл.

*РЫЧАВА'ЦЬ* незак. Жаць. *Я даўней сама жыто рычавала, а зарас камбайны.* Кашалева Навагр.

*РЫШТАНТ* м. СваволЬнік, распуснік. *Рыштанта кусок... Прыедзя бацька – усё раскажу. Будзіш знаць, дзе ракі зімуюць.* Ст. Гудагай Астр.

*РЫШТА'НТКА* ж. СваволЬніца, распусніца. *Вот рыштантка!.. Ні пасьпела малако на губах апсохнуць, а ўжо курыць кінулася. Я це накуру! Аш поўсьць на табе будзіць курыць!* Косцевічы Астр.

*РЭ'ЖЫКІ* мн. Нажніцы. *Куды палажыў рэжыкі?* Свіслач.

*РЭ'ЗГІНА* ж. Ануча. *Дзе-якую рэзгіну знайдзі, памый падлогу.* Навасёлкі Маст.

*РЭ'ЗНІК* м. Кош, сплецены з нітак. *Рэзнік добры кошык, лёхкі натта.* Коласава Слонім.

*РЭ'ЗНІКІ* мн. Чатырохкантовыя выпечкі. *Маці напякла рэзнікаў, та дзеці усе казалі, кубікі зь іх будзям складаць. А рэзнічкі й праўды, кажна чатыры роўныя бакі мая.* Міратычы Карэл.

*РЭЙДЫ* мн. Старое адзенне. *Рэйды ўсе трэба на гару занесьці.* Купіск Навагр.

*РЭ'ПКІ* мн. Чырвоныя буракі. *Кацянька, схадзі, дзетка, у агарот і вырві рэпкі.* Купіск Навагр.

*РЭ'ПТУХ* м. Абразл. Стары, нямоглы чалавек. *Маладыя на работу йдуць і ён, рэптух, за імі, рассыплесся па дарозі.* Лявонавічы Дзятл.

*РЭ'СКОЛ* м. Неадабр. Непаслухмянае дзіця. *Дзе гэты рэскол толькі цягаецца па цэлых днёх?* Курчоўцы Воран.

*РЭ'СТАВАЦЬ* незак. Рэстаўраваць. *Гады два назат прыягджалі гэтую царкву рэставаць. Нешта пакінулі і паехалі ў Навагрудак.* Шчорсы Навагр.

*РЭ'ТКІ* мн. Ткацк. Частка кросен, якая складаецца з дошкі з дзіркамі, у якія ўцягваюцца ніткі. *Дрэнна дыркі ў рэтках бачу.* Шчорсы Навагр.

*РЭ'ШНІК* м. Планкі, якія набіваюць пры атынкоўцы. *Набіваюць рэшнік – тонкія планкі пры шчыкатурцы.* Масцішча Навагр.

## С

*САБАНІ'ЦЬ* незак. Падаць (пра дождж). *Палянь, які дошч на дварэ сабаніць, а ты яшчэ бехчы некуды хочаш.* Гуды Лід.

*САБА'ЧКА* м. Мужчынскі гальштук у выглядзе банта. *Бач, які кавалер. Шчэ сабачку яму трэбо выбраць, кап пат касьцюм патходзіла.* Вінькоўцы Лід.

*СА'ВЯНКА* ж. Вялікі кошык. *Але грыбоў шмат, я ўчоры цэлу савянку назьбірала.* Канюхі Ваўк.

*САГАНЕ'ЦЬ* незак. Моцна ліць (пра дождж). *Цалюткі дзень дошч саганіць, пазалівало ўсюды.* Машталеры Маст.

*СА'ДЗЯЦЬ* незак. Шчымець, пячы. *Рана садзяя йшчэ, ні магу нагі падняць; Як напёк перцам горла, то ўсё садзяя.* Старое Сяло Зэльв.

*САКУЯ'Ш* м. Цёплая кофта. *Насунь сакуяш, цяплей будзя.* Пушчыкі Свісл.

*САЛЕ'НЧЫКІ* мн. Салёныя агуркі. *Зарас я вам саленчыкаў дам.* Масцішча Навагр.

*САЛІБО'КІ* мн. Плечы. *Нешта пасьля ўчарашняй працы мне пачалі балець салібокі.* Уселюб Навагр.

*САЛО'ХА* ж. Непахв. Неахайная жанчына. *Гэта салоха адзежы сабе чысьцейшай ні можа знайсьці.* Стральцы Маст. *Вось ужэ дзе салоха, нігды ў яе ў хаце ні прыбрано.* Вярэйкі Ваўк.

*САЛТА́НКА* н. Хатняя расліна з чырвонымі кветкамі. *Ужо салтанка зацьвіла – хараша стала, як вясной.* Налібакі Навагр.

*СА́ЛЬНІЦА* ж. Драўляная кадушка для сала. *Ты ш ведаеш, сальніца стаіць у каморы.* Талькаўцы Ваўк.

*САЛЯДЫНО́ВЫ* прым. Бледна-зялёны. *Некі файны ў цібе швэдар, мне якрас такі салядыновы коляр падабаяцца.* Старая Рудня Смарг.

*САЛЯДЭ́РА* ж. Тоўстая каўбаса. *Нарабіла ўсяго – і сала, і салядэры, і паляндвіцы.* Уселюб Навагр.

*САЛЯ́НКА* Ж. Ступка. *У сенцах стаяла салянка.* Валеўка Навагр.

*САМАВО́ЛЕЦ* м. Свавольнік. *Бацька калісьці ў баньдзе быў, хадзіў па хатах і забіраў, што хацеў. І сын самавольцам расьцець, ніхто яму ні ўказ.* Косцевічы Астр.

*САМЫ́Я* займ. Самі. *Ні канешня табе заўтрыка прыходзіць, самыя ўправімосё з картоплямі, пасадзім за дзень; Хай самыя пасуць, раз намі гамбуюць.* Савічы Зэльв.

*СА́ПКА* прысл. Раптам. *Ні налівай многа малака, відзіш, як ён сапка бярэць. Захлібнецца дзіця, будзіць тады работы.* Косцевічы Астр.

*САПНУ́ЦЬ* зак. Адпачыць, перадыхнуць. *Змэнчыліса саўсім з гэтай бульбай, давайця сапнём трохо.* Радзявічы Маст. -- *Цяпер пойдзім бульбу зь ямы даставаць? -- Дай ты мне сапнуць хоць троху. Лётала карову піраважваць аж за Каняніцу, ні магу дух піравясьці.* Косцевічы Астр.

*САПУРА́ТНІК* м. Свавольнік. *Чаго расхадзіўся, сапуратнік, спакою табе німа.* Мыслова Слонім.

*САРАКО́ЎКА* ж. Бульба, якую садзяць прарошчанай, якая выспявая праз сорак дзён. *Саракоўку адразу прадыміш, а тады садзіш; прас сорак дзён можно ўжэ капаць.* Вялікае Сяло Шчуч.

*СА́РМА* ж. Неахайная жанчына. *Ну й сарма ты! Німа ў цябе паратку. Ні ў хаця, ні на рабоця.* Вугляны Смарг.

*САРО́ЧКІ* мн. Маленькія бульбяныя бліны. *Паеш лепш сарочак з маслам.* Задвор'е Навагр.

*САСНЯКІ́* мн. Лісічкі. *Учора ўсей сям'ёй па сасьнякі хадзілі, шмат хадзілі, шмат назьбіралі.* Лылойці Смарг.

*САТЛІЖА́ЦЬ* зак. Пацяплець, калі стала адліга. *Сатліжая – станя адліга; Цяпло стало на дварэ – сатліжало; І ішчэ ні рас сатліжая, бо вясна хутко, так уночы марос, а ўдзень атліга.* Грабава Зэльв.

*САТХА́ЦЬ* незак. Перажываць, охаць. *І чаго ты сатхаяш? Згубіў, так ні знойдзяш. Чаго ўжэ тут сатхаць. Пажывеш – набудзяш.* Грабава Зэльв.

*САХА́* ж. Частка сахі ў выглядзе доўгай жардзіны, да якой збоку прыпрагаўся конь. *Саха доўга была, да яе збоку конь прыпрагаўся і цягнуў.* Руда Яварская Дзятл.

*САХАРО́ТКА* ж. Салодкая страва з морквы. *Накармі дзіця сахароткай.* Масцішча Навагр.

*САЦАВА́ЦЬ* незак. Шанаваць, паважаць. *Мужык у яе нілюцкі, сусім яе ні сацуя.* Хадзяўляны Дзятл.

*СВЕСЬ* ж. Сястра жонкі. *У нас на жончыну сястру сьвесь называюць.* Жукоўшчына Дзятл.

*СВІ́НКА* ж. Грыб сямейства свінухавых з пласціністай шапкай жоўтага, бурага, лілова-шэрага колеру; свінуха. *Набрала цэлы кошык сьвінак.* Рымшыненты Смарг.

*СВІ́НКІ* мн. Від грыбоў. *Летась вунь колькі асавікоў, апенькаў, сьвінак ланасілі нашы бабы.* Брольнікі Навагр.

*СВІНУ́РНІК* м. Свінарнік. *Сьвінурнік у нас невялічкі.* Налібакі Навагр.

*СВЯНЦІЯ́ДЛО* н. Светаянскае зелле. *Сьвянціядло сушым пад бляхаю. Добро ад жывата памагая.* Старое Сяло Зэльв.

*СЕЛЬ* ж. Расколіна ў дрэве. *Гэто дзерава сь сельлю. Мо якую дошку выгаблюяш, а астатня на дровы пойдзя.* Табала Лід.

*СЕЛЯВА́ТЫ* прым. Пра дошку з расколінай. *З аднае калоткі ўсе дошкі былі селяватымі, толькі ў печ іх.* Табала Лід.

*СЕЛЯДО́ВАЧКА* ж. Бочка, у якой засольваюць агуркі. *Трэба паехаць на базар, купіць селядовачку для засолкі агуркоў.* Купіск Навагр.

*СЕ́РЫ* мн. Прылада ў калаўротку, куды ўсаджваюць шпулю. *Глядзі, сынку, ні ўсунь пальцы ў серы, а то будзя балець тады.* Дзявяткі Бераст.

*СЕТАЧО́К* м. Сачок для лоўлі рыбы. *Бяры сетачок, бо ўцячэ рыба.* Купіск Навагр.

*СЕ́ЯНКА* ж. Сплецены з саломы кошык, з якога сеяць збожжа. *Вось у мяне ў хаце сеянка ёсьць, зараз вам пакажу. Гэта я раней зь яе збожа сеяла.* Купіск Навагр.

*СЁ́НКІ* мн. Прылазнік. *Дзяцей ні вядзі адзявацца ў сёнкі, прастынуць. Адзявай тут, у лазьні.* Косцевічы Астр.

*СІКУ́ХІ* мн. Гатунак сліў. *У вянгеркаў костачка вылушчываіцца лёхка, а ў сікухаў – не. Сьцісьнеш сікуху, а яна – сік сокам. Таму так і называяць – сікухі.* Косцевічы Астр.

*СІКУШКА* ж. Мурашка. *Сікушка несла ў свой мурашнік травінку.* Шчорсь Навагр.

*СІЛАС, СІЛОС* м. Вінегрэт. *Ой якого смашнаго сіласу нарабіді.* Конюхі Ваўк. *Сілосу на стол пиставіла. Бураке, бульбы, гуркоў – усяго намяшала. Чысто трасянка якая.* Філонаўцы Лід.

*СІНІЧНІКІ* мн. Суніцы. *Ужэ скора сінічнікі пасьпеюць.* Купіск Навагр.

*СІНЯЎКА* ж. Неядомая апенька. *Замест апёнак прынёс кош сінявак.* Коласава Слонім.

*СІЦЬ* ж. Смалістая сухая сасна. *А гэта сіць не трэба нам.* Нягневічы Навагр.

*СКАЗОК* м. 1. Невялікая трэшчына. *Гэты збанок ішчэ цэлы, сказок адзін у шыйцы. Апляту, і будзя як цэлы.* Грабава Зэльв. 2. Невялікі асколак. *Сказок аткалоўсё ад вазонніцы.* Грабава Зэльв.

*СКАЛАТЫ* прым. Які пасміхаецца з іншых. *Аліш гэты скалаты й гаткі чалавек.* Налібакі Навагр.

*СКАРБЯЦ* м. Жывёлагадоўчая ферма. *Люба, чаго ты на скарбяц хадзіла, можа даяркаю стала.* Конюхі Ваўк.

*СКАРПЭТКА, СКУРПЭТКА* ж. Шкарпэтка. *На надворку холадна, адзявайся цяплей, можаш нават скарпэткі нацягнуць.* Дварчаны Шчуч. *Адзень гэтыя скурпэткі, бо тыя ўжэ занасіў.* Старая Дубавая Гродз.

*СКАСАВУРЫЦЦА* зак. Здохнуць (звычайна пра жывёлу). *Наша карова ў тым годзе скасавурылася, трэ было купляць новую.* Каргаўды Воран.

*СКВАРАДЗІЦЬ* незак. Баранаваць. *Пара ўжо й скварадзіць соткі, а то зусім зарастуць, тады ня ўлезеш.* Баруны Ашм.

*СКВАРЫЦЦА* незак. Нервавацца, мітусіцца. *Ну чаго ты скварылася? Перш разьбярыся толкам, у чым дзела.* Косцевічы Астр.

*СКЕЛЗАЦЬ* зак. Зацугляць. *Выгода, што хоць унук дасьць рады скелзаць каня.* Янавічы Ваўк.

*СКІБОВЕЦ* м. Пара коней, упрэжанага у плуг. *Скібовец быў замяніў соху, цяпер яго замяніў трахтар.* Нязнанава Навагр.

*СКІГІТАЦЬ* незак. Вішчаць. *Нешто сьвінча скігіча, мо есьці хоча ці зьмерзло.* Крывічы Зэльв.

*СКЛЕЗЕНЬ* м. Зніж. Худы чалавек, няўдаліца. *Такі малы склезень, а ўжэ курыць.* Уселюб Навагр.

*СКЛІФАН* м. Вельмі худы чалавек. *Адна скура і косьці. Ну й ты скліфан.* Палушы Астр.

*СКЛЯ'МАЦЬ* зак. Іран. Пабудаваць. *Як быстро склямалі хату ў яго, відаць, задобрыў.* Сурынка Слонім.

*СКЛЯПЕ'Ц* м. Склеп. *Схадзі, сынок, у скляпец і набяры лупку картоплі, кап узаўтро ні трэбо было ісьці.* Купіск Навагр.

*СКНЭ'РЫЦЬ* незак. Стагнаць, скардзіцца. *Зранку інічэ добра было, а с палудня пагоршало, і ўсё скнэрыць мой стары, ні дае прасьці кудзелі.* Старое Сяло Зэльв.

*СКО'МЛІЦЬ* незак. Ныць. *Хіба што паможа, што ты скомліш? Усяроўно я табе тых грошай ні напішу.* Грабава Зэльв.

*СКО'ЧНЯ* ж. Прыстасаванне, адкуль скачуць; трамплін. *Усё ў зоду скачуць. Неку высоку скочню зрабілі, і аттуль бух у воду.* Валькевічы Зэльв.

*СКРЫЛЕ'Ц* м. Склероз. *Ды ці ў цябе ўжо скрылец, што ты нічога ні памятаеш.* Валеўка Навагр.

*СКРЫПІДА'ЙЛО* н. Воз, які рыпіць. *Трэбо змазаць гэто скрыпідайло, бо як будзямо ехаць, та ўсю вёску скрыгатам напалохаям.* Пачарнейкі Свісл.

*СКРЫ'ПНІК* м. Скрыпач. *Ну й граў на танцах сёньня скрыпнік.* Валковічы Навагр.

*СКРЭ'БАН* м. Гэбель. *Трэба патачыць скрэбан, бо ступіўся, калі габляўваў дуп.* Брольнікі Навагр.

*СКРЭ'МБАЦЬ* незак. Есці з прыцмокваннем, чаўкаць (пра свіней). *От добро есьць паршук, ас скрэмбая!* Праважа Воран.

*СКРЭ'НДА* м. і ж. Чалавек, які ўвесь час ные, на што-н. скардзіцца; ныцік. *Гэты скрэнда ўсё жыццё скрэндзіць.* Лашаны Смарг.

*СКРЭ'НДЗІЦЬ* незак. Надакучліва скардзіцца на што-н., ныць. *Здайся, жыві і радуйся. І дзеці пры дзеле і гаспадарка ў паратку. А ён усё скрэндзіць: і мое ні так, і гэта. Душу выяў!* Лашаны Смарг.

*СКУ'БЦІСЯ* незак. Біцца. *Чаго яны вішчаць? А людзячкі! Шчапіліся, зноў скубуцца.* Мыслова Слонім.

*СКУДЗЕ'ЛЬСТВО* н. Вячоркі. *На скудзельство зьбіралася молаць.* Харосіца Навагр.

*СКУ'ЛАК* м. Скула (хвароба). *Скулак зробіцца – ночы ні сплю.* Уселюб Навагр.

*СКУЛЁ'БІЦЦА* зак. Асудж. Сагнуцца, скурчыць, падагнуць пад сябе ногі («кулёбы»). *Як гэто ты сьпіш? Скулёбіўсё, і як сядзіць, а ні ляжыць. Выцягні ногі!* Грабава Зэльв.

*СКУЛЬБА'ЧЫЦЦА* зак. Непахв. Сагнуцца у крук. *Табе і семдзясят німа ішчэ, а скульбачылася уся, як сто табе.* Грабава Зэльв.

*СКУ'ЛЬНІК* м. Кастрыца. *Гэтулькі скульніку зь лесу прывалок. Увесь капец апкрыя.* Гуды Лід.

*СКУ'МКА* ж. Невялікая група людзей, якія нешта тайна робяць (звычайна выпіваюць). *Бач ты, прывыклі, я зарас разганю гэту скупку.* Сурынка Слонім.

*СКУРО'ЖЫЦЬ* незак. Неадабр. Выдумляць што-н. *Сядзе і скурожыць быля-што.* Праважа Воран.

*СКУРТО'НІЦЬ* зак. Неадабр. Набыць з дапамогай махінацый, нячэсна. *І колькі ты грошаў скуртоніў?* Каргаўды Воран.

*СКУТ* м. Невялікі кусок, абрэзак матэрыі. *Ці мала табе ўсюды скутоў валяіцца? Бяры і ўкручвай свае лялькі, а ні я табе буду добры мацір'ял псаваць.* Косцевічы Астр.

*СКУ'ЦАК* м. Блыха. *Ні ўседзіць на месцы, быццам яго скуцакі кусаюць.* Скорычы Карэл.

*СЛЕБЯДЗІ'ЦЬ* незак. Сачыць. *Што ты тут усё нешто сьлебядзіш?* Дзірванцы Шчуч.

*СЛЕ'ПЕНЬ* м. Сляпень. *Каровам ат сьлепняў спасу німа.* Вугляны Смарг.

*СЛЁЖ* м. Рыба, падобная да вугра. *Раней і ў нашай рэццы слёжы вадзіліся.* Брольнікі Навагр.

*СЛІЗУНЫ'* мн. Грыбы маслякі. *У Сухіні натта многа сьлізуноў.* Слабада Навагр.

*СЛЯБА'НАК* м. Драўляная канапа. *Сьлябанак зрабіў дзет Паўлюк, файны, з дуба, хібо; вечны будзя.* Лойкі Гродз.

*СМА'ТА* ж. Гора, бяда, няшчасце. *З раніцы выпілі й паехалі на возяра рыбу лавіць. Лотка піравярнулася, і ўтапіўся. Відома – п'яны. А бацькам смага.* Косцевічы Астр.

*СМАЖЭ'НЯ* ж. Патэльня. *На смажэню яйко ўваб'ю, малака ліну, і яешня хутко выходзіць.* Паўлава Слонім.

*СМАЛІ'ТКА* ж. Смажаная прыгарэлая бульба. *Смалітка вельмі смачная.* Весялова Навагр.

*СМЕ'ШКА* ж. Жарты, смешкі. *Табе гэто ні сьмешка, такі гультай у хаці расьце, што вады лянуяцца с калодзіся прынясьці.* Грабава Зэльв.

*СМЫ'КАЦЦА* незак. Хадзіць дзе-н., куды-н. доўга, без мэты, без пільнай патрэбы; цягацца. *Добра чалавеку жывецца, смыкаіцца цалы дзень па вёсца.* Панарка Смарг.

*СМЫК* м. Прыстасаванне для даставання вады з калодзежа (журавель). *Да смыка чапляецца вочап з вядром.* Райца Карэл.

*СМЫРО́Д* м. Смурод. *Некі смырот сь сьцёпкі ідзе, што там прытухло?* Грабава Зэльв.

*СМЫРО́ДЗІЦЬ* незак. Смуродзіць. *Нашто ты тут смыродзіш гэтаю ваксаю, га?* Дзярэчын Зэльв.

*СМЫРО́ДНЫ* прым. Смуродны. *Некі смыродны пах нясе с тае ямы.* Грабава Зэльв.

*СМЫ́ЦА* ж. Скрутак. *Сколькі труду паложыш, пакуль смыцу палатна выччаш.* Слабада Навагр.

*СМЯЦЕ́Й* м. Чорнае вялікае зерне у коласе пшаніцы, жыта. *Каласэ велькія ў жыці, і зярнята доўгія. Аля часам ў коласі з дваццаці зярнятаў і сьмяцей знойдзяцца.* Грабава Зэльв.

*СМЯЦЯ́РКА* ж. Шуфлік выбіраць, выносіць смецце. *Ідзі ды замяці гэта ў сьмяцярку.* Дзераўная Слонім.

*СНАВА́ННІЦА* ж. Тая, хто снуе кросны, снавальшчыца. *Ішчэ адна снаванніца прышла, вясялей будзя снаваць (кросны).* Грабава Зэльв.

*СНУ́НІЦА* ж. Сноўніца. *На снуніцы рабілі аснову, а тады ўжэ ткалі.* Верцялішкі Гродз.

*СНЯГО́ВІЦА* ж. Сняжніца. *Сходзілася сьняговіца, што сьвету боскаго ні відно.* Мяжырычы Зэльв.

*СО́ЛЯНЫЯ* мн. Ачышчаная бульба, звараная ў падсоленай вадзе. *На вечар зварыла соляных, наеліся зь кісьляком да атпаду.* Лашаны Смарг.

*СО́РАКІ* мн. Сорак галушак, якія пякуць у час посту. *Заўтра мама будзе пячы соракі.* Нягневічы Навагр.

*СО́ЎКА* ж. Кушэтка. *Ляш, дзетачка на соўку, атпачынь.* Грамавічы Шчуч.

*СПАДАВЫ́* прым. Сподні. *Наша карова ніяк спадавога сена есьці ні хоча.* Данілавічы Дзятл.

*СПАДА́К* м. Ніжні камень у жорнах. *Спадак – ніжні недвіжымы камень.* Масцішча Навагр.

*СПАДА́РКА* ж. Гаспадарка. *А бывала ўсе рабілі на сваёй спадарцы.* Кашалёва Навагр.

*СПАДАРЭ́НКУ* прысл. Навідавоку; напагатове. *Граблі заўсягды кала хлява спадарэнку стаяць, як будзя табе трэбо, та возьмяш.* Жылічы Маст.

*СПАДО́НКА* ж. Спадніца. *Спадонку гэту з вышыванай кохтай адзень, файно будзя.* Стральцы Маст.

*СПАДОЎКА* ж. Ніжняя жаночая кашуля. *На дварэ сохла спадоўка.* Валеўка Навагр.

*СПАЛЯНТАВАЦЬ* зак. Схадзіць. *Куды гэта спалянтавала так хутка.* Вайкунцы Воран.

*СПАМАГЧЫСЯ* зак. Атрымаць дапамогу. *Халера ты ім спамажэсься, гультай такі!; Ні чакай ты спамахчыся ад яго. Ні такі гэто чалавек.* Старое Сяло Зэльв.

*СПАМЫВАЧКА* ж. Ануча для мыцця посуду. *Дзе гэта падзелася спамывачка?* Уселюб Навагр.

*СПАНЦЭРКА* ж. Камізэлька. *Спанцэрку надзень, цяплей будзя.* Вугляны Смарг.

*СПАПЯРЭСЦІЦЬ* зак. 1. Стукнуць. *Спапярэсьціў яго па галаве.* Мыслова Слонім. 2. Моцна збіць. *І спапярэсьціў мой Васіль міне за тыя дываны, што й сёні, здэцца, баліць.* Лаўрынавічы Свісл.

*СПАРВАЦЬ* зак. Часцей неадабр. Знайсці, набыць, дастаць што-н. *Дзе ты ўжо спарвала гэту сукенку? Ты ж ні мела такой!* Лылойці Смарг.

*СПАРНЯ* ж. Спарыш, два спараныя прадметы (пра плады, расліны і пад., якія зрасліся). *Як знайдзіш спарню, дык, кажаць, двойня будзіць.* Косцевічы Астр.

*СПАТАЙКОЎ* прысл. Спотайку. *Спатайкоў выбях зь лесу, і ні падумалі, што ён там.* Табалічы Шчуч.

*СПАТАЛЫСКАЦЬ* зак. Зганіць, паздзекавацца. *Я адно ў хату ўвашла, а яна адразу спаталыскала міне.* Пачарнейкі Свісл. *Спаталыскалі дзіця, што ні хоча больш ісьці гуляць да іх.* Міхайлы Свісл.

*СПАТАМПЕНЯ* прысл. Вельмі моцна, шчыра, ад душы. *Яна спатампеня кляла йіх.* Свілы Воран.

*СПАТРЫХАВАЦЬ* зак. Іран. Падумаць. *А то не? Правільна я спатрыхаваў.* Кашалёва Навагр.

*СПЕРАЗАНУЦЬ* зак. Стукнуць. *Добра сьперазануць па сьпіне каня пугаю.* Мыслова Слонім.

*СПЭЎНІЦЦА* зак. Упэўніцца. *Хай сам сходзіць, сьпэўніцца, як нам ні верыць; Каб ні сьпэўніўсё, то ні казаў бы, бо сам сабе ні верыў.* Грабава Зэльв.

*СПІЖАК* м. Пінжак. *Адзеўся ў новы сьпіжак і ходзіць як франт.* Лагады Шчуч.

*СПІЖАЧОК* м. Саганок. *Много на анну трэбо, сьпіжачок супу звару, та на дзень станя.* Стральцы Маст.

*СПІЖОВІК* м. Посуд, зроблены з сагана, у якога адрэзалі верхнюю частку, ужываецца ў якасці патэльні. *Пасмажыла бульбы з*

*грыбамі поўны сьпіжовік, яшчэ й цыбулі для паху дабавіла.* Вялікія Свіранкі Астр.

*СПІЖУ́К* м. Каструля. *Паставіла сьпіжук у печ, зарас вячэра гатова будзя.* Галавачы Гродз.

*СПІРДО́Н* м. Мужчына малога росту. *Ой, а малы ён – якрас як спірдон!* Мядзюшы Воран.

*СПЛЮГА́ВІЦЬ* зак. Груб. Абгаварыць. *Такі чалавек яна: сплюгавіць каго, а праз мінуту гаворыць зь ім, як нічога і ні было.* Тарнова Лід.

*СПЛЮ́ТАЦЦА* зак. Зблытацца, збіцца ў беспарадку. *Я стройна вязала. А сястра цярпеня ні мела. Вяжыць, саб'ецца, тады – мах, распусьціць, ніткі сплютаяцца – і па вязаню, ні бярэцца боляй; Валасы запляці, а то сплютаяцца пат хусткай, што ні разьбярэш.* Косцевічы Астр.

*СПО́ДНЯ* ж. Ніжняя жаночая спадніца. *Сподні шылі с кужалю.* Масцішча Навагр.

*СПО́ЛНЫ* прым. Супольны. *Гэто наш сполны хамут, на дваіх купляны.* Грабава Зэльв.

*СПО́РКА* ж. Спрэчка. *Помню, нека спорка тагды была, ці цара забілі ці ўцёк ён.* Старое Сяло Зэльв.

*СПО́РТАЦЬ* зак. Хутка пашыць адзенне простага фасону. *Наша вяскова швачка спортая якуюсь адзежыну, і добро ў вёсцы хадзіць.* Стральцы Маст.

*СПРА́ЎДЗІЦЦА* зак. Збыцца. *Спраўдзіліся мае слоўцы: пабіў ты такі сабе нос.* Косцевічы Астр.

*СПРА́ЎНІЦА* ж. Спраўная жанчына. *Яна скрось дастаня, і ўсяго накухмарыць, спраўніца гэта.* Грабава Зэльв.

*СПРОНТ* м. Шапік для посуду. *Гэтулькі посуду панакуплялі: мало што ўвесь спронт заваляны, дык і ў бакоўцы ўсё забіто.* Гуды Лід.

*СПРУ́ТА* ж. Спрут; смерць, халера. *І куды вас цісьня спрута ў картоплі грабціся! Кыш на падворак!; Нека спрута напала на гэтыя куранята, што ўсе паздыхалі.* Грабава Зэльв.

*СПРЫ́ТА* Кол, якім змацоўваюць дровы (ламачча) на возе. *Як на вос кладу ламату, то звязваю ланцугом або вяроўкаю, а тагды яшчэ калом спрычваю, каб мацней было, бо бяс спрыты можа парассоўвацца.* Грабава Зэльв.

*СПРЭ́ЧВАЦЦА* незак. Адмаўляцца ад сваіх словаў. *Стаяла мо цэлу гадзіну, расказвала пра Броніху, а ціпер, бач, спрэчваяцца: яна так ні казала.* Філонаўцы Лід.

*СПУРЗО'ЛІЦЬ* зак. Замуціць. *Так спурзолілі ваду ў рэцца, што аш пачарнела.* Падольцы Астр.

*СПУСЦІ'ЦЦА* зак. Разлічваць на каго-н., перакласці свае абавязкі на каго-н. *Мая нявестка на анну міне спусьцілася, ні чого ні- хоча рабіць.* Вялікае Сяло Шчуч.

*СПУ'ЧЫЦЬ* зак. Ударыць, пацягнуць (кіем). *І ні агрызайся, а то спучу пужальням па галаве, і пойдзяш выючы.* Валькевічы Зэльв.

*СПЫГА'РКА* ж. Прыгарка. *Я натто люблю спыгарку з бапкі або с хлеба.* Вішнеўка Бераст.

*СПЫТЛЯВА'ЦЬ* зак. Неадабр. З'есці. *Ты хутка спытлявала крупнік, мне ні заставіла!* Радунь Воран.

*СП'ЯЎТАЦЬ* зак. Неадабр. Згубіць, страціць, змарнаваць што-н. *Дзе ўжэ свой пярсцёнак сьп'яўтала?* Старая Рудня Смарг. *Пазваляіш дзецям бавіцца з будзільнікам, то глядзі, каб ні сьп'яўталі.* Косцевічы Астр.

*СТАЕ'ЛНЫ* прым. Стаенны. *Стаелны конь, таму і глаткі.* Старое Сяло Зэльв.

*СТАКЕ'ЛЁ* прысл. Столькі. *Я не прасіла: давай мне стакелё-стакелі.* Масцішча Навагр.

*СТАКІ'* мн. Будаўнічыя блокі. *Са стакоў у міне пограп складзены.* Масцішча Навагр.

*СТАЛЕ'ШНІК* м. Настольнік. *Сталешнік кап цыратай якой накрыць, а то запэцкаюць увесь.* Беневічы Лід.

*СТАРЭ'ПНЯ* ж. Вялікая града. *Парабіла старэпні, а садзіць няма чаго.* Харосіца Навагр.

*СТАМБО'ЛЬ* м. Мужчына высокага росту. *Наш стамболь як ідзе, галава неба патпірае.* Дзеравянчыцы Слонім.

*СТА'НЦЯ* ж. Памяшканне ў хаце, прыстасаванае пад склад. *Прынясі вяраўке. Там, у станці, ляжаць.* Завадзічы Гродз.

*СТАРМАСНУ'ЦЬ* зак. Страсянуць. *У гэтай сталоўца нічога люцкага німа. Выпіла шклянку напітку, дык аш стармаснула ўсю – мусі, ужо сапсуты.* Косцевічы Астр.

*СТАТЭ'ВА* ж. Высокая жанчына. *Нашу Стасю называюць статэваю, бо натто высока яна.* Пачарнейкі Свісл.

*СТАЎБУ'НІК* м. Спецыяльная шафа, вузкая і высокая, для захавання гаспадарчага посуду. *За патэльнямі і каструлямі ні павярнуцца, трэбо купіць стаўбунік.* Сурынка Слонім.

*СТАЎДЫ'Р* м. Экспр. 1. Упарты чалавек. *Ну й стаўдыр ты, ні перапрэш цябе ніколі.* Мацвееўцы Ваўк. 2. Някемлівы, тупы чалавек. *Стаўдыру гэтаму ні дасі рады вытлумачыць, тупы, як бот.* Стральцы Маст.

*СТАЎПЕ́Ц* м. Печка-стаяк. *Чаму сёні стаўпца ні выпалілі?* Стокі Свісл.

*СТА́ЧА* ж. Дастатак. *О, гэта жанчына ўвесь век у стачы пражыла.* Шчорсы Навагр.

*СТОГРАМО́ВІК* м. Шклянка змяшчальнасцю каля ста грамаў. *Цеста раскатаіш, тады стаканам крушкі выцісьніш, а хочыш, дык і стограмовікам, мнейшыя, і пячы. Вот табе й пячэня!* Косцевічы Астр.

*СТО́ЁК* м. Парасон. *Будзе дошч, вазьмі стоёк.* Талькаўцы Ваўк.

*СТО́ЛКІ* мн. Прыстасаванне для пілавання дроў, козлы. *Трэба направіць столкі, заўтра дрова пілаваць будзям.* Плябанскія Гродз.

*СТО́ЛЬНІК* м. Стол з перакрыжаванымі ножкамі. Руда Яварская Дзятл.

*СТО́ХЛІШЧО* н. Гняздо, логава, котлішча. *Жыве, як воўк: с свайго стохлішча на людзі нігды ні паказваяцца; Як пасатку высякалі ў том густом лесі, казалі, воўчо стохлішчо знайшлі.* Крывічы Зэльв.

*СТО́ЯНЬ* ж. Стаянне, стаянка. *Як старому, то ўсё надаядая: і лежань і стоянь; Стаіш, стаіш, пасучы гэтую карову, гаш засьмярдзіць гэта стоянь.* Крывічы Зэльв.

*СТРАЙХО́ДЫ* мн. Басаножкі. *Адзявай страйходы, ужэ лето.* Вішнеўка Бераст.

*СТРАЛКАВА́ЦЬ* незак. Акучваць, абганяць. *Картофлю плугам стралкуюць.* Масцішча Навагр.

*СТРАХО́ТНІЦА* ж. Экпр. Страх. *Як пачнуць расказваць, дык страхотніца брала.* Ваўкавічы Навагр.

*СТРОК* м. Крав. Від шва. *Можна шыць строкам ці процягам.* Масцішча Навагр.

*СТО́ЛАК* м. Шуфляда ў стале. *Вазьмі лышку ў столаку, толькі крапчэй пацягні, а то стол ўжэ стары.* Баруны Ашм.

*СТРО́НГІ* прым. Стройны. *Бяроскі стронгія, адна ў адну павырасталі каля поля.* Дашкаўцы Маст.

*СТРЭЛЬ* ж. Род. *Як трэця стрэль, то можна ісці замуш.* Вострава Слонім.

*СТУМІ́КЛА* м. і ж. Ціхмяны, стрыманы чалавек. *А мая ты! Гэты стумікла толька на людзях стумікла. А ў хаця, хай хто слова напроціў скажыць, гатоў забіць.* Косцевічы Астр.

*СТУПЕ́НЬКІ* мн. Падкладкі ў абутку. *Дзеля таго, каб не было мазалёў на нагах, трэбо насіць ступенькі.* Харосіца Навагр.

*СТЫКА́ЦЬ* незак. Выклікаць сварку, спрэчку каго-н. з кім-н.; сварыць. *А яна ўсё любіць нас стыкаць. Хітрая такая!* Солы Смарг.

*СУ́ДА* ж. Посуд. *Глядзі пад ногі, бо зарас суда твая паляціць.* Паўлава Слонім.

*СУДЗЕ́НІК* м. Вялікі плецены кош з накрыўкай, у якім захоўваюць мяса, каўбасы. *Каўбасы ў судзеніку, у таком плецянум кошыку, захоўваямо, покрыўкай закрыям, кап катэ ні ўлезьлі.* Райца Карэл.

*СУКЕ́НЕЦ* м. Матэрыял на сукенку. *Купіла кусок сукенца.* Кашалёва Навагр.

*СУ́КІ* мн. Малыя драўляныя санкі. *Вазьмі сукі і пойдзям катацца.* Стокі Свісл.

*СУКМА́НКА* ж., адз. Адрэз суконнай тканіны. *Маю трохо сукманкі, мо спаніцу сабе спраўлю на восянь.* Ходараўцы Лід.

*СУКО́ВІНА* ж. Сукаватая палка, сукаватае бервяно, палена. *Я сабе глаткі кій выражу, нашто мне такая суковіна, каб рукі муляць; Што з гэтае суковіны ты дашчок нарэжаш, ці што?; Натто сукаваты камель. Ты ні расколяш такую суковіну.* Крывічы Зэльв.

*СУКО́ДНІЧКІ* мн. Суконныя боты. *Бабуля адзела новыя сукоднічкі.* Харосіца Навагр.

*СУМЛЯВА́ЦЦА* незак. Саромецца. *Гэто яна цібе сумляваяцца.* Пушчыкі Свісл.

*СУ́РМА* н. Груб. Морда. *Відзіш ты яго, якую сурму атпасьвіў.* Лішкі Бераст.

*СУСЛІ́ЦЬ* незак. Экспр. Прасці. *Да ночы дзяўчатам сядзі і сусьлі кудзелю.* Уселюб Навагр.

*СУСЛЯ́К* м. Сусла. *Хлеба пажуеш с сахарам, завернеш у хустку – і малы смокча. Гэта і ёсьць сусляк.* Кашалёва Навагр.

*СУХАЯ́Н* м. Гумар. Сухарэбрык. *Адно выскоквая, а есьці ніц ні хоча, сухаян гэты.* Грабава Зэльв.

*СУХО́ДНІЧКІ* мн. Від абутку. *Калі было халадно, надзенеш драпоўку, суходнічкі, цёплую камізэльку і пойдзеш.* Харосіца Навагр.

*СУ́ЧКА* ж. Мужчынскі гальштук. *Бач ты, які кавалер Бронак. Сучку падвязаў да шыі і пабёг на танцулькі.* Вінькоўцы Лід.

*СУШНЯ́К* м. Памяшканне, дзе сушаць лён. *Ужо скора пачнуцца работы ў сушняку.* Слабада Навагр.

*СФЭ'ЦІЦЬ* зак. Украсці. *У мяне ўсе грошы сфэцілі, што я рабіць ціпер буду?* Бастуны Воран.

*СХОД* м. Усход. *Тут схот, а там палудзянь. На Грабаво як глядзіш – там захат.* Старое Сяло Зэльв.

*СЦЕ'НІК* м. Маленькі дыван. *Каля дзіцячаго ложка сьценік прыбіла, бо ўсю сьцяну паабдзіралі былі.* Стральцы Маст.

*СЦЕ'ПЯРСКА* прысл. Даўно, да гэтага часу. *Гэта ш трэба, сьцепярска ты яшчэ ні сьпіш.* Труханавічы Дзятл.

*СЦЕ'РКА* ж. Кухонны ручнік. *Нашто рукой? Ці ты ні бачыш, што вунь там сьцерка вісіць.* Даргунь Гродз.

*СЦІ'РАК* м. Ручнік. *Чысьцюткім сьціракам, ля, грязныя рукі выцяр, зноў адбельваць трэ будзя.* Жылічы Маст.

*СЦЮ'БЧЫЦЦА* зак. Скрывіцца. *Ну чаго ўжэ сцюпчыўса, як серада на пятніцу.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*СЧУРМАВА'ЦЦА* незак. Забаўляцца. *Саша заўсёды дапамагаў, яму не было калі шчурмавацца.* Уселюб Навагр.

*СЫРАДО'ЎКА* ж. Сыроватка. *Дай мне троху сырадоўкі.* Харосіца Навагр.

*СЫРЫЗНА'* ж. Зялёная садавіна. *От ужэ як паявяцца яблыкі, то дзеці толькі і елі гэту сырызну, больш нічого.* Жукевічы Бераст.

*СЫСОЙ* м. Цяля першага году. *От прыдзя вясна, карова ацеліцца, будзям сысоя гадаваць.* Жукевічы Бераст. *Ты сёні сысоя с кароваю выгнаў пасьвіць, я тожа выжану.* Канюхі Ваўк. *Трэба, ўжэ сысоя ат каровы забіраць, а то малака і сабе ні будзя.* Тарнова Лід.

*СЫЧ* м. Клін. *Гэты сыч картопяль за дзень выкапаям самыя, бяс памагатараў; Зрэш сыч, каб раўнейша дошка была у канцы.* Старое Сяло Зэльв.

*СЬКІК* выкл. Скок. *Зайчык ськік-ськік-ськік – і паляцеў у лес.* Косцевічы Астр.

*СЬКІКАЦЬ* незак. Скакаць. *Нейкую забаўку прыдумалі сабе. Нарысуяць клеткі на зямлі, бляшанку кінаць і ськікаяць цалы дзень.* Косцевічы Астр.

*СЮ'СІК* м. Зневаж. Слабы, знясілены хлопец. *А што з яго, сюсіка, возьмеш. Ткнуў пальцам, і ляжыць.* Сурынка Слонім.

*СЯВЕ'ННІК* м. Агурок-насеннік. *Які сявеннік вялізны вырас.* Сялец Смарг.

*СЯДЗЁ'ЛАК* м. Услончык, на які сядаюць, калі дояць карову. *Стась, у сядзёлка ношка паламалася, трэба паправіць.* Васілішкі Шчуч.

*СЯДУ́НКА* ж. Фасоля, якая не ўеццa, а нізка расце. *Балс, усё тычке гэтыя насілі да насілі, а цяперака сядунку завялі, і тычок тых ні трэба, і ніблагая пасоля расьце.* Грабава Зэльв.

*СЯДУ́ШКА* ж. Сядзенне на возе. *Калі свадзьба, то ўбяруць кветкамі сядушку.* Масцішчы Навагр.

*СЯЛЕ́НКА* ж. Прылада для сеяння, сплеценая з саломы. *Вазьмі сяленку і пасей у сябе ў агародзе.* Вераскава Навагр.

*СЯМЯНЮ́К* м. Семевае пяро цыбулі. *Ні прадыміла цыбулю, і ўсю пагнало ў сямянюке.* Грабава Зэльв.

*СЯНІ́ЦА* ж. Адрына. *Сено ў сяніцу ўсё ні ўлезя, трэбо на гару цягаць.* Пескі Маст.

*СЯЧУ́Н* м. Прылада, якой сякуць бульбу свіням. *Вазьмі сячун тута.* Харосіца Навагр. *ТАКАВО́* прысл. Добра. *Такаво твая сукенка пашыта, трэба мне так пашыць.* Лагады Шчуч.

## Т

*ТАКА́Я* прым. Цяжарная. *Яна ш такая, з-за таго й нудзіць. Нічога ў рот узяць ні можыць.* Косцевічы Астр.

*ТАЛАЛУ́Й* м. Дурнаваты чалавек. *Што вам гэты талалуй, ад яго ўсянно нічого ні даб'ecся.* Задвор'е Слонім.

*ТАЛАНІ́СТЫ* прым. Плямісты. *Ну й твар у цібе таланісты, хібо ты ў малянкосьці галубіныя яйкі зьбіраў.* Табала Лід.

*ТАЛМУ́ДЫ* мн., неадабр. Рэчы (адзенне, абутак), кінутыя абы-дзе. *Талмуды свае з лошка забяры, у хаці прыбіраць будзям.* Нацавічы Маст.

*ТАЛО́НАЧКА* ж. Драўляная лыжачка. *Маму, дай талоначку, буду есьці зупку.* Калантаі Ваўк.

*ТАПТА́ЦЬ* незак. Неадабр. Есці. *Калі ні зойдзяш да вас, ты ўсё топчаш і топчаш.* Забалаць Воран.

*ТАРАМБА́НІЦЬ* незак. Экспр. Несці, цягнуць што-н. цяжкае, вялікае, грузнае; тарабаніць. *Нахватаў мукі, ледва тарамбаніць.* Лашаны Смарг.

*ТАРКО́ВАНКА* ж., адз. Кулін. Бульбяная каша. *Бывало, як наясіса таркованкі з малаком, дык цалы дзень есьці ні хочацца.* Лесніківі Лід.

*ТАЎЛУ́Й* м. Гультай. *Есьць у нас адзін такі мужык, зусім таўлуй, анічагуткага рабіць ні хоча, анно ляжыць.* Брычыцы Дзятл.

*ТАЎШЧА́ЦЬ* незак. Таўсцець. *Як папаходзіш, так і таўшчая нага. Мусяць, пухня, ці што якоё.* Старое Сяло Зэльв.

*ТАЧКАВА'Я* ж. Прадаўшчыца. *Мая Зіна тачкавою робіць, та хоць хлеба з магазіна прынясе, ужэ ні трэ самой ісьці так далёко.* Лаздуны Іўеў.

*ТЛУ'М* м. Здзекл. Нерастаропны чалавек. *Што з гэтаго тлума возьмяш, ён і так абэцэ ні панімая.* Юшкавічы Свісл.

*ТЛУМАВА'ТЫ* прым. Дурнаваты. *Тлумаваты гэты хлопчык, ні хоча добро ўчыцца ў школі.* Грынкі Свісл.

*ТО'РБА* ж. Зневаж. Тоўстая жанчына. *Ні адна сукенка на торбу гэту ні злазіць, такая тоўста стала.* Дубна Маст.

*ТПРУ'СЬКА* ж. Ласк. Карова. *Ідзі да міне, мая ты тпруська. Я табе картопяль дам.* Старое Сяло Зэльв.

*ТПРУ'ЦКІ!* Выкл. Вокліч адганяць цялят. *От смолно гэто цяля! Тпруцкі, каб ты выпрагласё!* Савічы Зэльв.

*ТРА'НКІ* мн. Карункі (вышыўка) на кашулі. *Такую ўжо кашулю мне зрабіла, я й палюбіў яе за гэтыя транкі.* Баруны Ашм.

*ТРА'САЧКА* ж. Дрыжыкі, трасучка. *Трасачка як прыбрала ўдзень, та думаў, здурэю.* Глушнева Гродз.

*ТРАФУ'НАК* м. Здарэнне. *Гэты трафунак Жэнька доўго не мох забыць.* Вайкунцы Воран.

*ТРО'СЧЫЦЦА* незак. Гараваць, тужыць. *Ну й доўга трошчылася па сыне сваім!* Свілы Воран.

*ТРУБЛО'* н. Груб. Чалавек, які многа есць, абжора. *Сколька ні есь, усё яму мала. Затое й грубы, як бочка, трублом і празываяць.* Косцевічы Астр.

*ТРУ'ЛЯ* м. і ж. Марудны чалавек, маруда. *Ну й, труля! Ці ты хадзіць ні можаш скарэй? Сколькі ш цібе чакаць?* Голдава Лід.

*ТРУ'ПША* м. і ж. Іран. Той, хто многа есць. *Трупша гэта ўсё зьела патчыстую і каструлю нат вылізала.* Мілявічы Маст.

*ТРУХТО'М* прысл. Трушком. *Конь пабех трухтом.* Вішнеўка Бераст.

*ТРУ'ША* м. і ж. Неадабр. Няўдалы чалавек. *Сядзіць труша й не робіць нічого.* Канвелішкі Воран.

*ТРЫНО'СКА* ж. Насавая хустачка, насоўка. *Трыноску даўней для форсу насілі, ніхто ей ні выціраўся. У кішэнь пакладуць, каб вытыркалася, і стройна лічыцца.* Косцевічы Астр.

*ТРЫУ'ЛЬНО* прысл. Сытна. *Як пад'ясі трыульно, дык і пацерпіш даўжэй без яды.* Шылавічы Слонім.

*ТУДЫ'ЛІЧА* прысл. У той старане. *А тудыліча мае родныя жывуць.* Жукевічы Бераст.

*ТУЛА'Ч* м. Выгнаннік, бадзяга. *І сказаў Бох Каіну, што той будзя вечным тулачом.* Крэва Смарг.

*ТУ'ЛЬЧЫЦЬ* незак. Туляцца, хаваючыся ад людзей. *Часта ён тут тульчыць, цібе, мусі, выглядая.* Ліпнішкі Іўеў.

*ТУМКАЧЫ'* мн. Страва з бульбы. *Маці ўчоро тумкачы рабіла, але ш і наеліся.* Сялявічы Слонім.

*ТУПА'К* м. Тупы (чалавек). *Тупак жа ты, і гэтага паняць ні можаш.* Шылавічы Слонім.

*ТУ'ПЧА* ж. Непахв. Стамляльная праца. *Тупчаш, тупчаш кала печы гэтае, і нічого ні відно, што ты робіш, а тупча гэта колькі сілы забірая.* Старое Сяло Зэльв.

*ТУРМАСІ'НА* ж. Мітусня. *Як немцы наступалі, ой турмасіна была, усе бегалі, як у мурашніку.* Руда Яварская Дзятл.

*ТЫДНЁ'ВО* н. Застолле праз тыдзень пасля вяселля. *І на вяселі, і посьля ўжэ, на тыднёвум, добро пагуляў.* Старая Дубавая Гродз.

*ТЫЖ* прысл. Таксама. *Я тыж быў на кярмашы, аля цябе ні бачыў нешто.* Грабава Зэльв.

*ТЫКЕ'ЛЯ* прысл. Столькі. *На васэлі тыкеля людзей сабралася, што ні было дзе стаць.* Бастуны Воран.

*ТЫ'КЛЯ* м. і ж. Няўдалы чалавек. *Ён то спраўны, а жонка – тыкля нейкая.* Праважа Воран.

*ТЭНЧ* м. Вясёлка. *Прайшоў спорны дожджык, таму і тэнч засьвяціўся на небя.* Лылойці Смарг.

## У

*УБАТА'ЖЫЦЦА* зак. Вымурзацца. *Дзе ты гэдак убатажыўся? Ідзі хоць рукі вымый, а то зразу за стол лезяш.* Руднікі Карэл.

*УБО'ЙСТВО* н. Гультайства, непаслушэнства. *Выганю с цябе ўбойство, станеш як шоўкавы.* Дубаўцы Ваўк.

*УБЭ'РСАЦЦА* зак. Прыгожа апранущца, прыбрацца. *Як яна ўбэрсалася, адразу пахарашэла, вачэй ні адвесці.* Сурынка Слонім.

*УБЭ'ХАЦЦА* зак. Іран. Вымурзацца. *Дзе ты так у грась убэхаўся?* Верашчакі Іўеў.

*УВА'ГА* ж. Павага. *Мо ўвага якая есьцяка, то паслухая, а не, так будзя па-свояму рабіць, раскол такі!* Варонічы Зэльв.

*УВА'ЛІНА* м. і ж. Гультай, лежань. *Усе працуюць, а гэты ўваліна ляжыць.* Вялікая Бераставіца Бераст.

*УВАЛІ'ЦЬ* зак. Упэцкаць. *Але ты шапку ўваліў у салідол.* Пачарнейкі Свісл.

*УВІРО́ТНЫ* прым. Неадабр. Хуткі, спрытны. *У Галіны такое дзіця ўвіротнае, усюды ўлезе.* Ліпнішкі Іўеў.

*УВЫ́ШКІ* прысл. Увысь, увышыню. *Гэта хваіна ўвышкі расьце, а тонкая.* Грабава Зэльв.

*УДУШЫ́ЦЦА* зак. Экспр. Згінуць, прапасці. *Стары, а стары! Дзе ты ўдушыўсё, што нідзе ні бачу цябе!* Савічы Зэльв.

*УЖА́ЛІЦЦА* зак. Заплакаць з жалю. *Бедная аж ужалілася, так шкадавала сабаку.* Нача Воран.

*УЗАГРЭ́ЯК* м. Месца, заслоненае ад ветру і асветленае сонцам. *Вот і паймі, як адзецца. На ўзагрэйку дык хоць разьдзявайся, настаяшчая вясна, а тут – зімна.* Косцевічы Астр.

*УЗДЗЯБУ́РЫЦЦА* зак. Экспр. 1. Рана ўстаць, прачнуцца; успароцца. *Зьбіраліся на кірмаш ехаць, то ўзьдзябурыліся яшчэ чатырох часоў ні было.* Косцевічы Астр. *Чаго ўзьдзябурылася так рана?* Ігнацова Астр. 2. Залезці, забрацца на што-н. *Гэта ш трэба было ўзьдзябурыцца на такую вышыню. Ні дай бох сук зламаўся, пакалечыліся п. Вот розум!* Косцевічы Астр.

*УЗДЗЯБУ́РЫЦЬ* зак. Груб. Надзець, апрануць. *Узьдзябурыла на сябе нівідома што і ходзя тут. Cькідай, бо людзі засьмяюць.* Варняны Астр. *Узьдзябурыць гэтыя джынсы і спацыруіць па вёсца.* Косцевічы Астр.

*УЗІ́МУ* прысл. Зімою, узімку. *Вясна, а халадно, узіму, здэцца, цяплей было; Узіму ўсё зьзесца, і карташленё, і зельё.* Старое Сяло Зэльв.

*УКАРЭ́ЦЬ* зак. Стаць карэлым, брудным. *Ідзі памыйся, а то ўкарэіш зарас так, што людзі не пазнаяць.* Вішнева Смарг.

*УКРА́ПІЦЬ* зак. Стукнуць, ударыць каго-н. *Я вось табе як украплю!* Грынкі Свісл.

*УКУЛЯВА́ЦЦА* зак. Вельмі цёпла апрануцца. *Сёня на вуліцы было холадна, але я так укулявалася, што мне было цяпло.* Пагранічны Бераст.

*УЛЯ́* часц. Вось. *Уля і дахаты ужэ пара.* Грабава Зэльв.

*УЛЯ́МПІЦЬ* зак. Стукнуць, ударыць. *Ты яму, Вера, улямпі добра.* Студзенікі Свісл.

*УМЫЛІ́ЦЦА* зак. Страціць. *Я тут стаю, горло раззявіўшы, і вочарадзі ўмылюся.* Грабава Зэльв.

*У́НДЗЯ* прысл. Вось тут. *Дзе ты веніка пайшоў шукаць, ён ундзя пат столачкам. Стральцы Маст.*

*УПАРТО́ЛІЦЦА* зак. Выпацкацца. *Упартоліўся ўвесь у краску, і штанэ ўпартоліў, цяпер не вымыеш.* Пагародна Воран.

*УПЛІ́СКАЦЦА* зак. Іран. Закахацца. Змаладосці была ўпліскаласа ў яго, йшчэ й сёняка ён ёй белы сьвет засланяя. Стральцы Маст.

*УПЭ́НЬК* прысл. Адразу. *Ні адазвацца гэтых дзіцей! А як смашно скажаш дам, дык упэньк анно перад анным ляцяць.* Леснікі Лід.

*УПЯНТА́ШЫЦЬ* зак. Іран. З'есці з апетытам. *Дзеці тую булку хутка ўпянташылі.* Радунь Воран.

*УРО́ЎНІ* прысл. Нароўні. *Налі вады ў вядро ўроўні з берагамі.* Грынкі Свісл.

*УРЭ́ХАЦЬ* зак. Вымазаць (адзенне). *Швэду ўсю ўрэхаў, ціперака сядзі ў хаці і людзям на вочы ні паказвайса.* Табала Лід.

*УСВЕ́ТАК* м. Раніца. *Яна на ўсветку ўжэ прыляцела.* Паплаўцы Бераст.

*УСПАБО́ЎЧЫЦЬ* зак. Груб. Стукнуць, ударыць. *Як успабоўчыла карове па гарбе, дык стаяла як укопаная.* Шчорсы Навагр.

*УСУХАМА́* прысл. Сухама, усухамятку. *Цалы дзень усухама. Ні было калі дахаты заляцецца паесьці толкам, каб чаго гарачага.* Косцевічы Астр.

*УСЦІ́БІЦЦА* зак. Залезці. *Куды ты ўсцібіўся, гат ты той, інцыпар, злась, пакуль не зваліўся!* Нача Воран.

*УСЮ́ЛЬ* прысл. Сюды. *Яна толькі што прыйшла ўсюль.* Каргаўды Воран.

*УТАКРО́К* прысл. У мінулым годзе, летась. *Утакрок вясна была цяплейшаю.* Мінеўшчына Ваўк.

*УТАТУ́РЫЦЦА* зак. Праявіць упартасць, уперціся, не саступіць. *Як утатурыцца ў што, та хоць кол на галаве яму чашы, ні перапрэш.* Стральцы Маст.

*УТУ́ЛЬ* прысл. Туды. *Сёння ўтуль ужо Маня нех ідзе, мне ўжо абрыдла.* Каргаўды Воран.

*УТЫРКНУ́ЦЬ* зак. Уваткнуць, засадзіць. *Утыркні іголку ў падушачку.* Грынкі Свісл.

*УХАДО́КАЦЬ* зак. Закалоць. *Старыя добрае парася ўхадокалі.* Кавалі Ваўк.

*УЦЯЦЕ́РЫЦЦА* зак. Зрабіцца «цяцерaю», стаць нікудышным чалавекам. *От мой чалавек ужэ нікудышны. Адно уцяцерыцца, і як слуп сядзіць на лаві ў кутку.* Грабава Зэльв.

*УЧУ'ДЗЕЦЬ* зак. Утварыць, нарабіць. *Божачкі, зноў крычаць, мусіць, нешта учудзелі, пабягу пагляджу.* Драпава Слонім.

*УШЭ'РХНУЦЬ* зак. Пакрыцца «гусінай скурай». *Так спалохаўся, што ўшэрхла ўсё цела.* Масцішчы Навагр.

## Ф

*ФА'ЙКА* ж. Самакрутка. *Кінь ты ўжэ файку ссаць ды за работу бярыся.* Гезгалы Дзятл.

*ФАЛЬШЫ'ВЯЦ* м. Несумленны чалавек. *Гаворыць адно, а робіць другоё фальшывяц гэты.* Старое Сяло Зэльв.

*ФАМІЛЬЯ'К* м. Родны па крыві, кроўны. *Дзяцько Ясь – наш фамільяк, ён на ўсе сьвята да нас прыходзіць.* Лойкі Гродз.

*ФАЦЭ'Т* м. Франт, моднік. *Аля ш і фацэт, нічого ні скажаш.* Луцкаўляны Гродз.

*ФІЁ'ЛАК* м. Неадабр. Блазан, дурань. *Дурны, падло, фіёлак, што вытварыў.* Пушчыкі Свісл.

*ФІЗІ'ЧКА* ж. Печка. *Нашто ты поўну фізічку дроў наклала?* Лапеніца Ваўк.

*ФІ'ЧКІ* мн. Мужчынскія або жаночыя плаўкі. *Пaглядзі, якіх я сваяму мужыку фічкаў накупляла.* Падрось Ваўк.

*ФУРНЭ'ЛЯ* ж. Зацірка. *Надоўга мне запомнілася фурнэля, што маці варыла.* Дварэц Дзятл.

## Х

*ХАБРО'ВЫ* прым. Васільковы. *Набрала сабе на ясёнку хабровага сукна.* Галынка Ваўк.

*ХАЛАДНІ'ЦА* ж. Адстойнік для малака. *А мы халадніцу ў студню апускаем.* Даўгялы Воран.

*ХАЛАНІ'СТЫ* прым. Капрызны. *От ён халаністы, як што ні па яго, адразу ў плач кідаяцца.* Чырвоны Бор Дзятл.

*ХАЛАСТЫ'* прым. Посны (суп ці іншая страва). *Сёньні зварыла крупеню халастую, мае мужыке паелі слаба.* Чырвоны Бор Дзятл.

*ХАЛАСЦЯ'НКА* ж. Халасцячка. *У нас халасцянкаю завуць адну жонку, якая ні замужам.* Грабава Зэльв.

*ХАЛО'ДНІЦА* ж. 1. Халадэча. *А на дварэ такая халодніца, што хоць ты с хаты ні вылась.* Грабава Зэльв. 2. Пра халоднае памяшканне. *Наша хата такая халодніца, што паліш печку, паліш – і усяроўно халадэча ў хаці.* Грабава Зэльв.

*ХАЛЯ'ЙСТРА* м. і ж. Нядбайны чалавек. *Такой халяйстры, як яна, яшчэ ні бачыў.* Лішкі Бераст.

*ХАР'ЯТЭ'* мн. Непахв. Дрэнны абутак. *Халера іх будзя насіць, хар'ятэ гэтыя, я куплю сабе добрыя боты.* Грабава Зэльв.

*ХАЎКАЛО* м. і ж. 1. Пазяхайла; соня. *Хай ужэ ідзе спаць хаўкало гэты.* Грабава Зэльв. 2. Задушлівы чалавек. *Як трохі мацней падыдзя, так і хаўкая, хаўкало гэты.* Грабава Зэльв.

*ХВАТАЦЦА* незак. Спяшацца. *Ні хватайся, ўсёраўно спазніліся.* Грынкі Свісл.

*ХІРЛЁ'* н. Спагад. Хваравітае дзіця. *Аля ш такоя ўжэ хірлё: чуць трохо дзе холаду ўхопіць, так упэньк пластом і ляжыць.* Дамейкі Лід.

*ХІТРУ'СЬ* м. Хітрун. *З гэтым заводзіцца ні трэба, ён хітрусь; Каб ні такі хітрусь быў, то шкадавалі п чалавека, а так хто яго будзя шкадаваць!* Старое Сяло Зэльв.

*ХЛЯБО'ВА ПЕЧ* Печ, у якой паляць, вараць есці і пякуць хлеб. *Печку паліш увечары, кап цяпло было спаць, а хлябову печ – рано, як есьці варымо ці як хлеп пячэм.* Грабава Зэльв.

*ХОЎРА* ж. Неахайная жанчына. *Вось папусьціла валасэ, як хоўра якая.* Вярэйкі Ваўк.

*ХРАШЭ'ЛЬ* м. Майскі жук, хрушч. *Страсяні дзераво, храшале нападаюць.* Новая Пераналока Слонім.

*ХРУШЧ* м. Перан. Непахв. Пра малога чалавека. *Што гэто за мужчына. Хрушча такого нашла сабе.* Грабава Зэльв.

*ХУДОЕ (мяса)* прым. Не тлустае, без праслоек сала. *У мяне што малы, што вялікі – тое самае: худое мяса зьядуць, а сала маццы пакінуць.* Пераганцы Воран.

*ХЭ'ЛМ* м. Шлем. *Ну і капялюш сабе выкупіў, нібы хэлм.* Міхалкі Свісл.

# Ц

*ЦАЛКОВЫ* прым. Суцэльны, цэлы. *Гэты дыван ні шшыты, цалковы, яшчэ баба мая ткала.* Верцялішкі Гродз.

*ЦАПЯЛЬНІК* м. Вілкі. *Падай цапяльнік, трэ дастаць патэльню с блінцамі.* Калантаі Ваўк.

*ЦАЯН* м. Чыгун. *Адзін цаян паставіла ў печ.* Масцішча Навагр.

*ЦВАНЫ* м. Ганарысты. *Гэдыкі цваны зрабіўсо, як стаў брыгадзірам.* Стральцы Маст.

*ЦВЕРАЗІ'ЛАЎКА* ж. Выцвярэзнік. *Напіўся і папаў у цьверазілаўку.* Коласава Слонім.

